


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

19 СТУДЗЕНЯ 2001г. № 3/4087 КОШТ 115 РУБ.







# Храм на ўскраіне

Гледзячы на гэты Храм, не адразу здагадаешся, што гэта не пабудова мінулага стагоддзя, разбураная ў часы ваяўнічага матэрыялізму і зараз адроджаная ў старых формах — а новабудоўля. Так будавалі да кастрычніка 1917 года, так Руская праваслаўная царква будуе зараз.

Новы Храм паўстаў на заходняй ускраіне Мінска (непадалёк ад новага лядовага палаца). Сваім абліччам ён рэзка кантрастуе з блочна-панельнай "архітэктурай" наваколля. Новы Храм — свайго роду эстэтычны і маральны камертон, які прымушае суадносіць наш лад і побыт з той прыгажосцю, пра існаванне якой большасць нашых грамадзян нават не здагадваецца.

Добра, што цэнтрам прыцягнення для жыхароў раёна становіцца Храм. Праўда, Храму яшчэ давядзецца вытрымаць моцную канкурэнцыю з боку вінна-гарэлачнага аддзела мясцовага гастранома.

**П. В.**

*Фота Я. КОКТЫША*







# КОЛА ДЗЁН

***У Маскве з 16 па 21 студзеня праходзяць Дні культуры Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Нашу дэлегацыю ўзначаліў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. У першы ж дзень ён правёў шэраг важных сустрэч. Са старшынёй Цэнтрабанка Віктарам Герашчанкам Аляксандр Лукашэнка гаварыў аб узгадненні грашова-крэдытнай палітыкі. Пры сустрэчы з дзяржсакратаром саюзнай дзяржавы Паўлам Барадзіным былі ўзняты тэмы выканання саюзнага бюджэту і яго праекта на гэты год. З кіраўніком расійскага ўрада Міхаілам Касьянавым прэзідэнт Беларусі абмеркаваў пытанні супрацоўніцтва ў паліўна-энергетычнай сферы. Гутарка з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным прайшла, як і звычайна, у дружалюбнай абстаноўцы і тычылася найбольш культурных сувязяў паміж нашымі краінамі. На адкрыцці Дзён беларускай культуры ў Расіі Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды Беларусі Генадзю Селязнёву, Юрыю Лужкову, Міхаілу Швыдкому, Тацццяне Дарoнінай, Ігару Макараву і Віктару Садоўнічаму. Прэзентацыя беларускай культуры пачалася з балета "Жарсці" ("Рагнеда"), у якім князь Уладзімір вырашыў ажаніцца з полацкай князёўнай Рагнедай, але тая адмовіла яму. Тады Уладзімір спаліў Полацк, забіў бацьку Рагнеды, а яе саму згвалціў і зрабіў жонкай пад прымусам. Гэта гісторыя, але...***

### АФІЦЫЁЗ ТЫДНЯ

Быў час, а гэта было больш за дзесяць гадоў назад, калі беспрацоўных у Беларусі не было. Магчыма, і былі, але пра гэта не гаварылася, і толькі з распадам Савецкага Саюза і ў нас, як у любой іншай краіне свету, загаварылі пра беспрацоўе. На сённяшні дзень у Беларусі афіцыйны статус беспрацоўнага маюць 96769 чалавек, што складае прыкладна 1,7 працэнта ад насельніцтва, якое можа працаваць. Найбольш беспрацоўных у Магілёўскай вобласці (2,11 працэнта ад колькасці працаздольных), а найменш на Брэстчыне (1,35 працэнта), а ў Мінску наогул усяго 1,3 працэнта беспрацоўных ад агульнай колькасці працуючых. Гэтыя паказчыкі на працягу мінулага года амаль не мяняліся. І ўсё ж стабільнасць у беспрацоўі — гэта не дасягненне, бо шмат людзей, якія засталіся без працы, не звяртаюцца ў дзяржаўныя органы, каб набыць афіцыйны статус беспрацоўных...

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Мінулася амаль тры тыдні, як грамадзяне нашай краіны, якія атрымліваюць даходы з дзвюх і болей крыніц, і сукупны гадавы даход якіх перавышае 652 тысячы 80 рублёў, пачалі прадстаўляць у падатковыя органы дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе. Дэкларацыю трэба падаць не пазней чым 1 сакавіка, а да 15 мая падаткаплацельшчыкі павінны цалкам разлічыцца па падатках у бюджэт. На сённяшні дзень пакуль што ў падатковых органах няма чэргаў. Але, як гаворыцца, гэта да пары да часу...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Беларускаму тэлеграфнаму агенцтву (БЕЛТА) споўнілася 80 гадоў. Віншуем калектыў агенцтва з юбілеем і зычым усім яго супрацоўнікам поспехаў на ніве беларускай журналістыкі.

### АД'ЕЗД ТЫДНЯ

10 студзеня ў Германію з'ехаў паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алесь Разанаў. Яго запрасіў Міжнародны парламент пісьменнікаў. Колькі будзе Алесь Разанаў у Германіі — невядома, але, відаць, вернецца не хутка, бо перад дарогай ён сказаў: "Паэты з'язджаюць надоўга..."

### ТАРЫФЫ ТЫДНЯ

У вялікім горадзе, а такім з'яўляецца наша сталіца, таксі — не раскоша, а сродак руху. І ўсё ж для многіх гасцей і жыхароў Мінска таксі — гэта раскоша, бо з нашымі заробкамі асабліва не пакатаешся. Да ўсяго яшчэ і тарыфы падраслі. Цяпер у перыяд з 6 да 22 гадзін у межах граніц горада адзін кіламетр праезду каштуе 275 рублёў, адна гадзіна прастою пры ўключаным таксаметры — 2750 рублёў, кожная пасадка (звыш платы за прабег і прастой) — 275 рублёў. Таму, каму захочацца праехаць на таксі ў перыяд з 22 па 6 гадзін, адзін кіламетр абыдзецца ў 410 рублёў, гадзіна прастою пры ўключаным таксаметры — 4100 рублёў, пасадка — 410 рублёў. Цэны кусачыя, але ўсё ж таксісты без працы не сядзяць...

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Як стала вядома з інфармацыі "Інтэрфакса", дэпутаты Віцебскага гарсавета адобрылі рашэнне мясцовага выканкама аб уступленні Віцебска ў Ганзейскі саюз. Ганзейскі саюз — гэта старэйшая ў Еўропе гандлёвая і эканамічная арганізацыя, якая аб'ядноўвае 205 еўрапейскіх гарадоў, што гандлююць паміж сабой. Штаб-кватэра саюза на сённяшні дзень знаходзіцца ў Любеку (ФРГ). Словам, Беларусь уступае ў Саюз з Расіяй, а Віцебск — у "Ганзу".

### ПРАДУКТ ТЫДНЯ

Нікога сёння не здзівіш тым, што цана на гарэлку падрасла — гэта ўжо звычайная справа, бо толькі за мінулы год яна павялічвалася 10 разоў. Цяпер паўлітровая "вінтавая" бутэлька "Крышталь-100" каштуе 1548 рублёў, "Крышталь-люкс" і "Белая Русь" — 1596 рублёў. Нехта скажа: "Ой, як дорага!", але, калі добра пакумекаць, то на сённяшні дзень гарэлка ў нашай краіне ці не самы танны прадукт... Але...

### ЛЮБОЎ ТЫДНЯ

Мала ў якіх краінах існуюць дзяржаўныя ўзнагароды імя палітыкаў і прэзідэнтаў, што знаходзяцца пры ўладзе. Але ўсё ж ёсць такія краіны і да іх далучаецца Казахстан, у якім у хуткім часе будзе ўведзены ордэн імя прэзідэнта Нурсултана Назарбаева. Ініцыятарам увесці такую высокую ўзнагароду выступіў казахстанскі ўрад. Было прапанавана, каб закон аб увядзенні новай узнагароды — "Ордэн першага прэзідэнта Нурсултана Назарбаева" — пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 2001 года. Імёны будучых кавалераў ордэна будуць заносіцца ў своеасаблівую кнігу славы. Тое, што такі закон будзе прыняты, у Казахстане мала хто сумняваецца. І ў гэтым няма нічога страшнага, але хацелася б, каб вялікая казахстанская любоў да прэзідэнта не стала прыкладам для суседніх краін, у якіх таксама надзвычайна з'явіліся першыя прэзідэнты. Хаця, што нам да іх...

### ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што ў канцы студзеня ў нашай краіне чакаецца эпідэмія грыпу. Яна будзе выклікана вірусам А (НІ N 1) з прыгожай назвай "Новая Каледонія". Аднак медыкі спадзяюцца пазбегнуць вялікай эпідэміі, бо ўжо даўно закуплена адпаведная вакцына. І ўсё ж, як кажуць, беражонага Бог беражэ, таму не бойцеся ўжо цяпер есці паболей цыбулі і часнаку, бо гэтыя лекі праверaныя нашымі продкамі на працягу не аднаго стагоддзя. Будзьце здаровымі!

---

ПРЭМ'ЕРЫ

## Новае адзенне цара

"А цар жа... у фраку!" — такі быў загаловак лімаўскага водгуку (24.07.98 г.) на прэм'еру "Барыса Гадунова" М. Мусаргскага ў Нацыянальным тэатры оперы. Загаловак нібы адлюстроўваў спецыфіку прэм'еры: хрэстаматыйная "народная музычная драма" разыгрывалася ў канцэртным выкананні, без адмысловых тэатральных дэкарацый, без гістарычнага адзення і грыму сцэнічных персанажаў. І цар Барыс, і баяры, і думскі дзяк, і просты люд — усе былі ў строгім акадэмічным адзенні.

Не мінула і трох гадоў, як оперу "апранулі", зрабілі доўгачаканы касцюмны спектакль — з размахам. Яго прэм'ерны паказ адбыўся 13 студзеня. Падзеі папярэднічала досыць шырокая рэклама ў афішы, і ўжо мала хто з цікаўных тэатралаў ды меламанаў не ведае імёны стваральнікаў чарговай мінскай пастаноўкі "Барыса Гадунова". Музычнае кіраўніцтва ажыццяўляў Аляксандр Анісімаў, але "выпускаў" прэм'еру дырыжор Вячаслаў Чарнуха. Рэжысура — Мікалай Пінігін, сцэнаграфія — Зіновій Марголін, мастак па касцюмах — Эла Грыгарук. Над гучаннем масавых сцэн працавала хормайстар Ніна Ламановіч. Партыю цара Барыса да прэм'еры падрыхтавалі вядучыя салісты — Алег Мельнікаў ды Яраслаў Пятроў.

Другі паказ новага спектакля прызначаны на заўтра...

**Н. К.**



*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Як звычайна, па панядзелках, адбылося чарговае пасяджэнне літаб'яднання "Літаратар" пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў, якім кіруе Алесь Масарэнка. Сярод пытанняў, што абмяркоўваліся падчас пасяджэння, былі зборнік паэзіі маладых літаратараў, які плануецца да выхаду ў выдавецтве "Урадджай", і падрыхтоўка да чарговага семінара юных талентаў, які мае адбыцца напрыканцы лютага — пачатку сакавіка ў Доме творчасці "Іслач". Гэта ўжо трэці запар такі семінар, які ладзіць СБП сумесна з Дзяржкамдрукам і Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі.

●

Саюз пісьменнікаў выступіць адным з заснавальнікаў Рэспубліканскага фестывалю беларускай паэзіі і песні, які па ініцыятыве народнага артыста Беларусі, кіраўніка заслужанага калектыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіла Фінберга аднаўляецца і будзе праходзіць зноў у Маладзечне. Разумеючы, якое значэнне мае для развіцця і папулярызацыі нацыянальнай культуры гэты фестываль, СБП унёс свае прапановы па ўдасканальванні свята, зместу праграм і складу ўдзельнікаў. Створаны аргкамітэт з боку творчага саюза на чале з в.а. старшыні СБП Вольгай Іпатавай.

●

"Усе нашы мары і здзяйсненні табе — святая Беларусь", — так называецца выстава твораў мастакоў клуба "Прырода і фантазія", якая адкрылася ў выставачнай зале бібліятэкі імя Н. Крупскай. Народныя майстры захацелі ўбачыць і чуць на сваёй выставе прадстаўнікоў творчых саюзаў. Сярод іх гасцей былі кампазітар, народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі, паэты Алесь Пісьмянкоў і Навум Гальпяровіч, якія падзяліліся сваімі думкамі, пазнаёмілі прысутных з уласнымі творамі.

●

25 студзеня ў бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў адбудзецца сустрэча з дзіцячым пісьменнікам Міхасём Пазняковым, прысвечаная яго 50-гадоваму юбілею. Пачатак сустрэчы ў 15.00.

●

Літаратурным героем незвычайнага ўрока, які прайшоў у бібліятэцы Саюза пісьменнікаў для вучняў 42-й і 160-й мінскіх школ, стаў пісьменнік Міхась Зарэмба, якому нядаўна споўнілася 60 гадоў. Пра жыццёвы творчы шлях юбіляра гаварылі яго калегі і сябры У. Анісковіч, У. Марук, М. Чарняўскі, Я. Каршукоў. Выступіў і сам Міхась Мікалаевіч, цёпла сустрэты прысутнымі. А перад пачаткам урока М. Зарэмбу ад імя кіраўніцтва саюза быў уручаны прыгожы букет кветак і Ганаровая грамата СБП.

**Н. К.**

---

ВЫСТАВЫ

## Карыфей сцэнаграфіі

20 снежня 2000 года споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння народнага мастака Беларусі А. Марыкса. Менавіта да гэтай даты прымеркавана выстаўка "Карыфей беларускай сцэнаграфіі", якая была ўрачыста адкрыта ў гасцёўні У. Галубка.

Шмат людзей прыйшло аддаць даніну павагі выдатнаму мастаку, графіку, педагогу. Сярод прысутных былі дачка мастака Л. Марыкс, галоўны спецыяліст аддзела музеяў і выставак Міністэрства культуры РБ С. Верач, народны мастак Беларусі У. Стальмашонак, вучань А. Марыкса М. Карпук (дарэчы, на адкрыцці выстаўкі ён падараваў Дзяржаўнаму музею гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ партрэт мастака і афішу 1944 года).

А. Марыкс з'яўляецца адным з заснавальнікаў тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва, працаваў мастаком амаль ва ўсіх тэатрах Беларусі, афармляў спектаклі па творах беларускіх, рускіх і замежных аўтараў, выкладаў у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. На выстаўцы прадстаўлены эскізы дэкарацый да спектакляў, эскізы касцюмаў і грыму дзеючых асоб, партрэты, чаканка, пейзажы, рукапісы, фотаздымкі, асабістыя рэчы.

Вельмі цікава распавядала пра мастака яго дачка Л. Марыкс. Напрыканцы вечара ўсе мелі цудоўную магчымасць паслухаць творы Рахманінава ў выкананні Барыса Бергера, дваюраднага пляменніка мастака.

Сапраўды, вечар прайшоў як мае быць, а сама выстаўка "Карыфей беларускай сцэнаграфіі" знамянальна яшчэ і тым, што адкрылася яна ў канцы 20-га стагоддзя, а экспанаванне яе будзе працягвацца ў новым стагоддзі і тысячагоддзі.

**Л. К.**

---

СУСТРЭЧЫ

## Казка ў гасцёўні

Убачыць чароўную казку — самы лепшы падарунак пад Новы год. Менавіта так павіншавалі мінчан удзельнікі дзіцячай тэатральна-музычнай студыі "Альтанка", якая створана пры філіяле Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры РБ у вёсцы Залессе Гродзенскай вобласці.

Напрыканцы года ў гасцёўню У. Галубка прыйшлі дарослыя і дзеці, каб паглядзець беларускі народны тэатр лялек — батлейку. І вось пачаўся спектакль "Цар Ірад". Трое дарослых ігралі на музычных інструментах, а ў двухпавярховай скрыньцы, накшталт хаткі, рухаліся лялькі. Марыя, цар Ірад, чорт і іншыя дзеючыя асобы размаўлялі галасамі дзяўчынак і хлопчыкаў, самаму малодшаму з якіх восем гадкоў. Іх тоненькімі галаскамі напоўнілася ўся прастора аж да самага далёкага куточка гасцёўні. Дарослыя не маглі назірась за гэтым без слёз радасці. Радасці ад таго, што ў наш час ёсць людзі, якія выхоўваюць сваіх дзяцей і перадаюць ім у спадчыну нацыянальныя традыцыі і звычаі. Радасна, што разам са сваімі дзецьмі яны займаюцца адраджэннем і захаваннем беларускай культуры.

Паглядзець батлейку прыйшлі і студэнты Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, настаўнікі і вучні школ г. Мінска, замежныя госці. Нехта з іх упершыню бачыў такое прадстаўленне, іншыя, як, напрыклад, вучні СШ N 89, самі прымалі ўдзел у батлейцы (на базе аднаго з класаў гэтай школы студэнт Беларускага універсітэта культуры ставіў сваю дыпломную работу).

Спектакль "Цар Ірад" складаўся з дзвюх частак: сур'ёзнай, пра нараджэнне Ісуса Хрыста, і камедыйнай — інтэрмедыі вясёлага зместу з песнямі і жартоўнымі дыялогамі. У канцы прадстаўлення ўдзельнікі батлейкі атрымалі падарункі ад удзячных гледачоў — кнігі, цукеркі, цацкі.

Хочацца верыць, што такія мерапрыемствы стануць традыцыйнымі, бо атрымалася сапраўднае свята як для гледачоў, так і для ўдзельнікаў батлейкі.

**Людміла КАМАРОЎСКАЯ,**
**загадчыца гасцёўні У. Галубка**

## "Зямля і воля"

На рубяжы тысячагоддзяў група грамадзян Беларусі сабралася на сход і ўтварыла арганізацыйны камітэт "Зямля і воля". Яго галоўная мэта — фарміраванне ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў па зборы подпісаў для рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты. Дзейнасць аргкамітэта будзе скіравана ў асноўным на працягу з сельскімі выбаршчыкамі.

Сярод членаў аргкамітэта — пісьменнік Уладзімір Паўлаў. Ён паведаміў нашаму карэспандэнту, што ў камітэт увайшлі вядомыя ў сельскай мясцовасці асобы: прэзідэнт Беларускага саюза фермераў Аляксандр Ласевіч, лідэр прафсаюза АПК Аляксандр Ярашук, экс-міністр Мінсельгасхарчу Васіль Лявонаў, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Генадзь Усюкевіч, доктар біялагічных навук Уладзімір Доўнар, эканамісты-аграрнікі Міхась Антоненка, Уладзімір Кулажанка, Віктар Крастоўскі, Іван Нікітчанка, палітолаг Юген Лугін, журналіст Анатоль Гуляеў — усяго больш за сто чалавек.

**НАШ КАР.**

ЮБІЛЕІ

# Vivat, ліцэй!

Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа святкуе гэтымі днямі дзесяцігадовы юбілей.

Унікальная навучальная ўстанова (усе дысцыпліны выкладаюцца толькі на роднай мове — прэцэдэнт для Беларусі!) была ўтворана па ініцыятыве рады ТБМ імя Ф. Скарыны Савецкага раёна сталіцы і намаганнямі грамадскай ініцыятыўнай групы ў складзе кінарэжысёра і педагога Уладзіміра Коласа, выкладчыка педуніверсітэта Вінцука Вячоркі, гісторыкаў Міхася Ткачова і Алега Трусава, мастацтвазнаўцы Вячаслава Ракіцкага. Менавіта тады пачаў дзейнічаць Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, а пад яго дахам — ліцэй з адмысловай праграмай навучання, распрацаванай пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук Лявона Баршчэўскага. Быў распачаты унікальны эксперымент у справе беларускамоўнай адукацыі.

Але ў 1997—98 гадах вакол ліцэя ўсчалася незразумелая чынавенская мітусня. Маўляў, навошта на Беларусі беларускамоўная навучальная ўстанова?! З'явілася "думка" аб мэтазгоднасці яе зліцця з ліцэем БДУ. Напросту гаворка ішла аб скасаванні аўтарскіх праграм і методык (якія даказалі сваю эфектыўнасць на практыцы), аб адхіленні ад спраў высокакваліфікаваных выкладчыкаў (педкалектыў фарміраваўся толькі на конкурснай аснове!). Ліцэісты распачалі пікетаванне і адстаялі сваё канстытуцыйнае права самім выбіраць установу і мову навучання. "Мы не займаемся палітыкай, мы рыхтуем нацыянальную эліту, інтэлігенцыю, якой так не хапае беларускаму грамадству!" — не без падставы сцвярджалі ліцэйскія настаўнікі. У выніку альтэрнатыўнага выйсця БГАКЦ з 98-га пераўтварыўся па рашэнні Саўміна ў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа.

За гады навучання каля паўсотні ліцэістаў атрымалі дыпломы рэспубліканскіх і гарадскіх алімпіяд, бліскуча даказаўшы высокую якасць атрыманых ведаў. З 1992 года атэстаты аб заканчэнні ліцэя выдалі каля 380-ці выпускнікам. Абсалютная большасць іх працягвала вучобу ў беларускіх ВНУ, у навучальных установах Канады, ЗША, Аўстрыі, Польшчы, Нарвегіі, Англіі, Індыі, Кітая (каля 20 універсітэтаў, каля 70 спецыяльнасцяў і спецыялізацый!)...

Ліцэй жыве. Vivat, ліцэй!

У рамках юбілейных урачыстасцяў у ліцэі адбыліся: 15 студзеня — сустрэча з журналістамі, 16-га — навукова-практычная канферэнцыя выкладчыкаў. 18 студзеня ў Тэатры юнага гледача прайшоў спектакль ліцэйскага тэатра "Народны Альбом". Сёння ліцэісты і выкладчыкі запрашаюць на юбілейную ўрачыстую вечарыну, якая адбудзецца а 18-ай гадзіне ў Палацы культуры МАЗа па адрасе: пр. Партызанскі, 117а...

З днём народзінаў, Ліцэй!

**Яўген РАГІН**

# Сцяжына ў вечнасць...

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ПАЭЗІЮ

***Уласна кажучы, гаварыць на гэтую тэму — справа няўдзячная, як бессэнсоўна, скажам, варажыць, колькі гадоў будзе жыць чалавецтва і ці патухне сонца. Але такі ўжо ў нас час за вакном, што прагнозы і высновы так і сыплюцца на бедных людзей, што само па сабе пачынае патроху раздражняць, і ўжо і ты, як апантаны, як інфіцыяваны агульным інтэлектуальным шаленствам пачынаеш улазіць у спрэчку і даказваць тое, што вынес у думках і душы, як супрацьяддзе, як пратэст супраць "разумнічання", прыхаванага снабізму, і, як ні дзіўна, абсалютна прагматычнага, рацыяналістычнага "сцёбу".***

"Канец веку — канец паэзіі?". У розных варыянтах мільгаюць гэтыя высновы ў шматлікіх эсэ і літаратуразнаўчых артыкулах, на "круглых сталах" і іншых эстэцкіх тусоўках.

І напрыканцы мінулага года ў Перадзелкіне, пад Масквой, тэма чарговай з традыцыйных міжнародных літаратурных сустрэч была сфармулявана менавіта так. І людзі ўсе вядомыя — Яўген Еўтушэнка і Аляксандр Кушнер, Мумін Канаат і Аляксандр Эбанаідзе, Андрэй Бітаў і Аляксандр Ткачэнка... А гаворка, прабачце, нібы на капусніку ці на КВН — хто больш блісне эрудыцыяй, хто якога "фіціля" суразмоўцу ўставіць...

А за вокнамі канферэнц-залы стаялі заснежаныя падмаскоўныя сосны, праз бялёсую смугу выглядвала скупое зімняе сонейка. Паэзія была сама па сабе, і ёй было абсалютна ўсё роўна, што думаюць пра яе пажылыя дзядзькі, якія ўсё жыццё імкнуліся ўхапіць за хвост прывіднае шчасце кароткага авалодвання яе таямніцамі.

Гібель паэзіі, як і ўвогуле літаратуры не прадказвае сёння хіба што лянівы. Сапраўды, кніжкі, за якімі некалі палявалі з чорнага ходу кнігарань, спакойна пыляцца на прылаўках. На экранах тэлевізараў паэтаў замянілі крыклівыя шоумены, а на паэтычных салонах перапэцканыя ў фарбу перастарэлыя хлопчыкі выкрыкваюць незразумелыя словазлучэнні...

Усё гэта так. І настальгічна ўспамінаюць "шасцідзесятнікі" перапоўненыя залы, чэргі па аўтографы, а іх больш маладзейшыя калегі — тыражы, вокладкі, прыстойныя ганарары, сытыя паездкі па Бюро прапаганды...

Але гэта мы пра што? Няўжо сапраўды пра паэзію, яе лёс? Не будзем хітрыць, спадарове! Пакуль што больш пра сябе, і гэта натуральна. А між тым, як пісаў у ранніх вершах А. Разанаў, (цытую па памяці):

*Ды адкрыццё брыло начамі*
*Пад гоман рэчак і асін*
*У выпадковасці адчайнай*
*Невыпадковае зусім...*

Паэзія жыла, жыве і будзе жыць абсалютна незалежна ад таго, што мы думаем пра яе лёс. І згінуць ёй памагаюць у першую чаргу тыя, хто прымае кароткае шчасце яе пацалунку за сумеснае сямейнае жыццё, штодзённы звыклы побыт. Манапалізаваць званне паэта немагчыма, бо нават самаму таленавітаму і выдатнаму капрызная спадарыня можа запраста "наставіць рогі",ператварыўшы былога прыгожага Арфея ў састарэлага і нямоглага сатыра.

У час адной сустрэчы ў студэнцкай аўдыторыі, дзе разам з нашымі літаратарамі прысутнічалі іх замежныя калегі, нехта з прысутных запытаў:

— А праўда, што ў Еўропе рыфмаваным радком ужо ніхто не піша? І замежныя госці заківалі галовамі: так, маўляў, гэтай дурноты ў нас даўно няма. І нашыя маладыя "аксакалы перфомансу" ажывіліся і пазадзіралі насы... А потым загучалі чаканныя строгія радкі Л. Дранько-Майсюка, распеўна-экспрэсіўныя мелодыі гукаў вершаў Р. Баравіковай. І ў зале назло ўсім запахла паэзіяй.

Польскі выдавец, журналіст, літаратар З. Федэцкі літаральна прыгажэе на вачах, калі сустракаецца з рэгулярным класічным памерам, традыцыйным славянскім вершам. Бо, нібы на канвееры, вырабляюць сёння на яго радзіме творцы бясконцыя і страшна падобныя адзін на адзін "свабодныя" вершы, свабодныя, часам, і ад думкі, і ад сапраўднага натхнення.

І зноў, пры чым тут паэзія? — пярэчу сам сабе. Паэзія — яна ж не толькі ў рыфмах, не толькі ў тых роўненькіх вертыкальных радочках... Яна недзе ўнутры, яна недзе ўверсе, яна, калі ёсць, у самым няўлоўным дыханні, калі нібы ветрыкам абдувае гарачы твар...

"Паэт не ведае, чаму ў яго вершах раптам узнікаюць нечаканыя выразы або летуценні, бо паэзія непрадказальная", сказаў Ігар Шклярэўскі, хаця ўслед за ім, ці незалежна ад яго гэта казалі многія. І імкненне надаць гэтаму працэсу навуковы філасофскі характар часам выклікае лёгкую ўсмешку.

На адным з семінараў маладых, якія мы праводзім у Іслачы, я запытаўся ў аднаго з выбітнейшых і маднейшых нашых культуролагаў, які з захапленнем намаляваў юным талентам апакалепсічны малюнак гібелі паэзіі, ці хоча ён сам, каб такое здарылася, на што пасля некаторага замяшальніцтва мэтр адказаў:

— Я ж гавару пра гэта, каб гэтага не здарылася!..

Паэзія дваццатага стагоддзя... Міжволі задумваешся пра гэта сёння, ужо ў стагоддзі новым... Для нас, беларусаў, гэта надзвычай багаты і плённы час. У нас не было, на жаль, як у суседзяў, бляску пушкінскай пары ў дзевятнаццатым, таму з 1900 г. да 2000-га трэба было ўкласці і залаты, і сярэбраны век, і традыцыяналізм, і мадэрнізм, і постмадэрнізм... Думаецца, гэта ўдалося. Можна было б узгадаць дзесяткі імёнаў, якія спраўдалі ў сваёй творчасці гэты багаты шлях. Хіба тое не стала сведчаннем спеласці і значнасці нашай мовы, духоўных здабыткаў нацыі, паэтычнасці нашай зямлі?..

Хай паспрабуюць нешта супярэчыць дамарослыя песімісты і адмаўляльнікі нашай паэзіі. Іх з'едлівыя кнігі пра "неудавшихся классиков", пра "слабость и неблагозвучие" мовы вартыя шкадобы. Не "макулатурнай", а сапраўднай літаратурай адзначылі мы стагоддзе. Бездары ж заўсёды знаходзяць апраўданне ва ўсім, чым заўгодна, шукаючы віну не ў сабе, а вакол.

Мой зямляк і цікавы крытык Пятро Васючэнка прапанаваў наступную формулу мастацтва XX стагоддзя: кветкі, якія прараслі праз асфальт, смецце, бруд і друз і закрасавалі над ім.

Дзякуй Богу, прараслі. І будуць расці, хоць бруду, смецця і друзу з кожным днём становіцца ўсё больш, і асфальт становіцца мацнейшым.

Гэта і пра яе, Паэзію, як пра каханую, выдыхнуў у адным з вершаў паэт У. Марук:

***Я бруд цалую, а душу караю,***
***А ты, нібы абраз,***
***яшчэ маўчыш.***

Яна яшчэ часам маўчыць. Яна адкрыла нам далёка не ўсе таямніцы. Яна, як сцяжына ў Вечнасць. А як сказаў другі паэт, "сцежка сама ведае, як ёй ісці".

Вечная сцежка Паэзіі... То праз былнёг і балота, то праз бліскучы бальшак, то праз халоднае поле і цёплы сад, праз вячысты бор і асушаную душу сцелешся ты пад ногі...

Пачынаецца новы век... Паэзія не памерла. Пераживём новы — пабачым.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

АБСЯГІ

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Пісьмо нашчадкам

На плошчы Тысячагоддзя віцябчане правялі ўрачыстую цырымонію закладкі памятнага знака і паслання пакаленням трэцяга тысячагоддзя. Аўтары калектыўнага пісьма расказалі нашчадкам аб памятных падзеях мінулага стагоддзя і славутых людзях, ад Еўфрасінні Полацкай да нобелеўскага лаўрэата Жарэса Алфёрава, які, дарэчы, нарадзіўся ў Віцебску. У пісьме — зварот да тых, хто бузе жыць у дваццаць першым стагоддзі — мацаваць і памнажаць традыцыі, берагчы родны край — Паазер'е.

### Хрысціянскі свет у новым тысячагоддзі

У выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў адкрылася выстава "Хрысціянскі свет. Трэцяе тысячагоддзе".

— Гэта першая выстава віцебскіх мастакоў, прысвечаная тэме хрысціянства, — гаворыць аўтар канцэпцыі Уладзімір Вальноў. — Для нас вельмі важна, каб і самі карціны, і атмасфера выставы неслі хрысціянскую ідэю, у якой сучаснае грамадства шукае выратаванне..

На выставе прадстаўлены жывапіс, акварэль, графіка, іканапіс, мастацкая кераміка, скульптура Аляксандра Дасужава, Валерыя Шчаснага, Валерыя Магучага, Алега Скавародкі, Барыса Хесіна, Івана Казака, Уладзіміра Вальнова і іншых.

**Святлана ГУК**

## БРЭСТЧЫНА...

### Кантрасты

Дзве запамінальныя, але такія розныя афішы на будынку абласной арганізацыі Саюза мастакоў змешчаны побач. На адной — фотапартрэт хлапчука з дапытлівымі, адухоўленымі вачыма: на другой — здымак чалавека з перакошаным тварам і тулавам, закаваным у... бочку. Толькі з тэксту афішы можна здагадацца, што фігура гэтага чалавека вылеплена з воску. Тым не менш яна ўражвае, як і многія, што размешчаны ў выставачнай зале. Сваю перасоўную выставу музей васковых фігур з Санкт-Пецярбурга так і назваў — сенсацыйнай. Берасцейцы атрымалі магчымасць убачыць прасачыць гісторыю смяротных пакаранняў на працягу дваццаці стагоддзяў у розных краінах Еўропы.

Рэзка кантрастуе з гэтай выставай экспазіцыя шматфарбных жыццесцвярджальных малюнкаў сямігадовага мастака-"вундэркінда" з Брэста — Яраслава Сафонава. Два гады хлопчык займаецца ў студыі выяўленчага мастацтва пры гарадскім Доме творчасці. За гэты час паўдзельнічаў у шэрагу айчынных і міжнародных конкурсаў, станавіўся іх лаўрэатам. Ягоная першая персанальная экспазіцыя ў хуткім часе таксама пабывае за мяжой.

### І вершы, і пераклады

У серыі "Берасцейскае вогнішча" пабачыла свет першая рускамоўная кніжка — зборнік вершаў маладой паэткі з Брэста Інгі Вінарскай "Через огонь". У серыю кніжка "ўпісалася" і шчырай, спавядальнай лірыкай, і ўдалымі перакладамі аўтаркі з беларускай паэзіі, найперш — берасцейскай. З Яўгеніі Янішчыц, Ніны Мацяш, Данўты Бічэль, Алеся Разанава, Міколы Пракаповіча... — з 15-ці аўтараў. Прадмову для зборніка напісаў паэт і перакладчык Валерый Грышкавец.

**Сымон АКСЕНІН**

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### "Сустрэча на Замкавай"

У літаратурна-мастацкім салоне "Сустрэчы на Замкавай", што існуе пры цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна, адбылася творчая вечарына паэткі Ніны Шкляравай. Для яе гэта — адзін з адказных этапаў падрыхтоўкі да ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. 20 год маўчання, а менавіта столькі прайшло з часу выдання апошняга зборніка "Міг і вечнасць", дазволілі набыць вялікі творчы і чалавечы вопыт, які дасць магчымасць надрукаваць новую кнігу паэзіі, доўгачаканую, выпакутаваную, любімую...

Адбылася і прэзентацыя дзесятага, юбілейнага зборніка паэзіі пісьменніка Юрыя Фатнева "Еще оглянусь на Отчизну", зборніка пранізлівага, хвалюючага, напоўненага глыбокім роздумам пра лёс Бацькаўшчыны.

**Наталля МАЛАШЭНКА**

### Конкурс, прысвечаны Шамякіну

Да 80-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна абласная універсальная бібліятэка і рэдакцыя газеты "Гомельская праўда" абвясцілі конкурс, прысвечаны жыццю і творчасці слыннага земляка. Конкурс праводзіцца ў два туры. Пераможца атрымае прыз.

### "Залаты сад"

У Гомелі працуе філія вядомага Веткаўскага музея народнай творчасці. Зараз тут працуе выстава з музейных фондаў пад назвай "Залаты сад". У экспазіцыі прадстаўлены работы майстроў бісернай вышыўкі, разьбяроў па дрэве, абразы.

### Казкі "Чорнага золата"

У Рэчыцы жыве літаратар Анатоль Караленка. Піша ён незвычайныя казкі пра... беларускую нафту. Ягоныя творы неаднаразова друкаваліся ў розных дзіцячых рэспубліканскіх выданнях. А нядаўна свет пабачыла асобная кніжка Караленкі "Чорнае золата", якая расказвае пра багацці палескай зямлі, яе прыроду, слаўных людзей.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## МІНШЧЫНА...

### Гаварылі пра кнігу

У дзіцячай бібліятэцы N 10 сталіцы адбылася прэзентацыя кнігі Я. Хвалея "Прынцэса з тусоўкі". Сабраліся тут чытачы-дзевяцікласнікі трыццацятай сярэдняй школы. Аўтар расказаў школьнікам, як пісалася кніга, хто прататыпы галоўных герояў...

**Л. СМІРНОВА**

### Выстава камянёў

У Дзяржынскім гісторыка-краязнаўчым музеі — выстава камянёў. Экспанаты прадставіў Рэспубліканскі музей прыроды і экалогіі. У экспазіцыі не толькі камяні, але і вырабы з іх.

### Для аматараў паэзіі

Пры раённай бібліятэцы Дзяржынска арганізаваны клуб аматараў паэзіі "Выток". На яго пасяджэннях чытачы знаёмяцца з творчымі людзьмі, літаратарамі, абмяркоўваюць прачытанае. Напрыклад, вельмі цікава прайшла сустрэча з паэтам Сяргеем Ліхачовым, які не толькі чытаў вершы, але і расказаў аб працы над фантастычнай адзеннем.

**Тамара ШАЎЧЭНКА**

## Скарбонка мелодый



**Бадай, самым папулярным творам Аляксея Туранкова аказаўся яго "Раманс" — прыгожая мінорная мелодыя, пранізліва "распетая" інструментальным трыо: скрыпка, кларнет, фартэпіяна. Музыканты розных пакаленняў, зачараваныя гэтым шчымлівым харастом, запісвалі "Раманс" у студыі радыё, і той зрабіўся класічным узорам беларускага эфірнага рэпертуару — ці не да нашых дзён.**

**Між тым, з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Аляксея Туранкова 21 студзеня спаўняецца 115 гадоў. Больш як чатыры дзесяцігоддзі таму кампазітар пакінуў зямны свет. Але ягоная музыка, непадуладная зямному часаваму вымярэнню, захавала жыццёвую сілу і калі-нікалі нагадвае пра сабе: "Накцюрнам" ці "Вальсам-капрысам" у дуэце цымбалаў ды гітары, "Беларускай мелодыяй" для трубы, песняй з оперы "Кветка шчасця", жартоўнай вакальнай замалёўкай на верш М. Багдановіча "Нявесела камару". Адкрываюцца і невядомыя старонкі яго царкоўнай харавой музыкі...**

**І ў творчасці, і ў біяграфіі А. Туранкова яшчэ ёсць нераскрытыя старонкі. Афіцыйныя даведнікі даволі падрабязна распавядаюць пра маленства, юнацтва, маладосць гэтага таленавітага музыканта, скрыпача і альтыста, яго заняткі ў Пецярбургскай кансерваторыі, працу ў Гомелі ды Мінску, яго абранне дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР першага склікання, высокія афіцыйныя адзнакі, поспех ягонай оперы "Кветка шчасця" (лібрэта В. Барысевіч, П. Броўкі ды П. Глебкі) на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 г.**

**А потым — інфармацыйны прагал. Аж да 50-х гадоў, калі, прайшоўшы супярэчлівы і трагічны перыяд свайго жыцця, ужо безнадзейна хворы А. Туранкоў вярнуўся ў Мінск і прадоўжыў кампазітарскую працу ў самых розных жанрах.**

**Створаная ў 1958 г. опера "Яснае світанне" (лібрэта А. Бачылы) хутка была пастаўлена ў рэжысуры Л. Александроўскай, але прэм'еру аўтар не пабачыў, не дажыў без малога паўтара месяца. Праз 6 гадоў Дзяржаўны тэатр оперы і балета Беларусі зноў паставіў "Яснае світанне" — у аркестравай рэдакцыі Г. Вагнера і ў літаратурнай — А. Бачылы, у новай рэжысуры. Балет для дзяцей "Лясная казка" А. Туранкоў не паспеў аркестраваць, і гэты твор так і не набыў сцэнічнага увасаблення...**

**Размаітая, стракатая нават, спадчына А. Туранкова, у якой і сімфанічныя творы, і эстрадныя, і камерна-інструментальныя п'есы, і рамансы, і песні для дзяцей, і музыка да спектакляў, кінафільмаў, — гэта сапраўдная скарбонка прыгожых, прасякнутых беларускай інтанацыяй, мелодый. Гэты скарб чакае сваіх спадкаемцаў: руплівых, настроеных на творчасць, рэдактараў, аранжыроўшчыкаў, інтэрпрэтатараў, выканаўцаў.**

**С. Б.**

## Нашы на Украіне

**Імя Валерыя Стралко добра вядома чытачам "ЛіМа". Яго пераклады ўкраінскіх паэтаў на беларускую мову неадназова друкаваліся на старонках нашага штотыднёвіка, як і пераклады беларускіх паэтаў на старонках украінскіх выданняў. Валерый Стралко аўтар перакладаў вядомых паэм "Тарас на Парнасе" і "Лысая гара" на ўкраінскую мову. Днямі з Украіны прыйшла прыемная вестка — Валерый Стралко прыняты ў Нацыянальную Спілку пісьменнікаў Украіны. "ЛіМ" шчыра віншуе свайго пастаяннага аўтара з гэтай важнай у яго жыцці падзеяй.**

**Н. К.**

*САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Бальшавізм працягваецца

Так, у маім разуменні гэта бальшавізм. Бальшавізм у дачыненні да нашай роднай, і цудоўнай і няшчаснай, мовы. Адлік яго, ужо пры ўладзе Саветаў, трэба весці ад пачатку 1918 года, калі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Менавіта тады прагучала грознае папярэджанне вядомага бальшавіка Вільгельма Кнорына патрыётам-адраджэнцам Беларусі: ніякай асобнай беларускай нацыі і мовы не было і няма, запомніце гэта, беларускія пісьменнікі. Прагучала як: запішыце гэта сабе на лбе, запішыце самі, а то мы запішам — не алоўкам, а маўзерам. Усё было падрыхтавана да *такога* вырашэння беларускага нацыянальнага пытання — іншага ў бальшавікоў не прадбачылася. І толькі неспрыяльны для іх збег ваенна-палітычных абставін прымусіў перагледзець (на пэўны час) падыход да лёсу Беларусі і згадзіцца на ўтварэнне БССР, а значыць і на наданне пэўных правоў беларускай мове, на адкрыццё беларускіх школ, на развіццё беларускай літаратуры, тэатра, мастацтва, навукі. "Аддушына" гэта, пад назвай "беларусізацыя", цягнулася зусім нядоўга — гадоў сем-восем, бо ўжо ў 1929-м пачаўся пагром беларушчыны на ўзроўні тэорыі і публіцыстыкі, а ў 1930-м — і на ўзроўні хапуна, арыштаў і ссылкі. Пік гэтае бальшавіцкае расправы над Беларуссю *беларускай* прыпаў на гады 1936—1937—1938.

Паралельна з такім фізічным пагромам ішло хітра-падступнае атакаванне беларускай мовы праз гвалтоўна-бальшавіцкае ўмяшанне ў яе граматыку і слоўнікавы склад. Атакаванне гэта завершылася ў 1933 годзе рэформай правапісу, пасля чаго наша мова, па-першае, у значнай меры страціла сваё ўласнае аблічча, сваё непаўторна-самабытнае гучанне, а па-другое, пачала шпаркім тэмпам засмечвацца небеларускаю лексікай і фразеалогіяй. І тое і другое працягваецца, на вялікі жаль, і сёння — як працягвалася і праз усе сталінскія, і праз усе хрушчоўскія, і праз усе брэжнеўскія гады.

Сёння адкрытых, кнорынскага кшталту, заклікаў да забароны беларускай мовы няма, яна нават абвешчана адною з дзвюх дзяржаўных моў, але практычна, у рэальнасці, усё з той жа бальшавіцкай бесцырымоннасцю вядзецца, з аднаго боку, выцясненне яе з грамадскага ўжытку, а з другога — разбурэнне яе прыроднай структуры, калечанне і нявечанне яе слоўніка, фразеалогіі і сінтаксісу, яе граматычных форм. Усё гэта адбываецца праз 160 гадоў пасля таго, як Адам Міцкевіч засведчыў, што з усіх славянскіх моў беларуская і найлепш захавалася, і самая чыстая, і найбольш апрацаваная, г. зн. літаратурна развітая. Што яна менавіта такая — тысячы і тысячы патрыётаў беларускага слова пераконваліся самастойна, не чытаўшы парыжскіх лекцый Міцкевіча. Пераконваліся — у выніку пастаяннага знаходжання ў стыхіі роднае мовы, штодзённага актыўнага карыстання ёю, няспыннага засваення яе лексічных, фразеалагічных і сінтаксічных багаццяў, яе інтанацыйных і эўфанічных асаблівасцяў. На гэтай мове вырасла тым часам вялікая нацыянальная літаратура, узрос і сцвердзіўся выдатны нацыянальны тэатр. І вось, ведаючы ўсё гэта пра нашу самабытную, вусна і пісьмова развітую, незвычайна жыццяздольную мову, мусім сёння прызнаць як відочны і несумнеўны факт, што над яе жывым арганізмам, над яе чуйнай душой чыняцца якіясьці бальшавіцкія экзекуцыі і здзекі. Чыняцца, вядома ж, тымі, хто яе не любіць і не паважае, хоць часам і мусіць пакарыстацца (напрыклад, на радыё, на тэлебачанні, у газеце).

Тое, што я зараз скажу, можа падацца неверагодным, але гэта праўда. Ужо на працягу некалькіх гадоў журналісцкія і дыктарскія тэксты па радыё і з тэлеэкрана рэдка калі абыходзяцца без грубых памылак — і лексічных, і граматычных, і фанетычных. Проста прыкра і сорамна слухаць. Бо ўспрымаецца як наўмысны здзек з мовы. Бо не хочацца верыць, каб прафесіянальныя асветнікі і праваднікі культуры так кепска валодалі дзяржаўнай моваю краіны.

Кожны год у пару жніва чую — і па радыё, і па тэле: "Началася *уборачная страда...*", "*у закрамах* пуста не будзе". Няйначай як наважылі ўзаконіць і гэтую "страду" і гэтыя "закрома" ў беларускай літаратурнай мове. Але ж нашто, панове, сілком цягнуць чужое, калі ёсць сваё? Калі ёсць выдатныя, ёмкія і дакладныя свае словы: *прыпар* і *засек*. Або: "У беларускай вёскі *благагучныя* назвы" (радыё, 2.9.2000). Гэта так пераклалі рускае *благозвучные*. Як бы і не чулі ніколі, што беларускае блага — значыць нядобра, дрэнна, кепска, пагана. Вось і выходзіць: хацелі пахваліць назвы нашых вёсак, а ўзялі ды зганілі. Хоць бы ў тлумачальны слоўнік заглянулі!.. Прыкладаў такіх — безліч. Аднойчы я даў сабе клопат запісваць кожны дзень — за месяц назбіраўся амаль цэлы сшытак русізмаў. А колькі *праходзіць усякага ў рэспубліке, пры падтрымке, па ўказке*! А колькі *па заяўкам, па дарогам, па планам, па рукам і нагам!*.. Так і ідзе, праз дзяржаўныя СМІ, калечанне нашае мовы, падмена яе цудоўнага ўласнага аблічча пачварнай "трасянкай". Ну, а ад "трасянкі" — паўкроку да пачварна-рускай, г. зн. рускай камароўскага разліву.

Іншы раз хочацца крыкам крычаць: паслухайце, людзі, што вы робіце? Такім калечаннем мовы вы разбураеце асновы беларускай культуры. Няўжо вам, высокаадукаваным, трэба гэта тлумачыць? У любой краіне свету гэта малодшых класаў школьнікі разумеюць. Праўда, ім зразумець гэта не так і цяжка, таму што... Працытую радкі з расійскай "Литературной газеты" (за 24.6.1998): "Во Франции не изберут руководителем плохо владеющего речью. Там действует "закон о чистоте языка". Наконт гэтага закона Вярхоўны камісарыят па пытаннях французскай мовы (ёсць у іх такі, ведама—правінцыйная, захалусная краіна!) зрабіў такую заяву: "Он является необходимым оружием в борьбе за сохранение национальной культурной самостоятельности, ибо *величайшее из всех преступлений — это убийство языка нации*". У Францыі за ўжыванне непісьменных выразаў і замежных слоў штрафуюць.

Вось так — у людзей. А ў нас? А ў нас — бальшавізм. Бальшавізм у дачыненні да мовы — гэта ігнараванне яе як найвялікшай духоўнай каштоўнасці, гэта праява крайняй да яе непавагі і непрыязнасці, гэта непачціва-абразлівыя і проста хамскія да яе адносіны.

І калі ўжо мы з ім, гэтым бальшавізмам, развітаемся? Калі абаронім ад яго нашу мову? Такую чалавечную, такую неагрэсіўную, такую небальшавіцкую мову!

*ПРЭМ'ЕРЫ*

# Не вер вачам сваім

Не вер вачам сваім, калі ў твой дом упэўнена пахоўкай прыйдзе амерыканскі палкоўнік. Афіцэр ён — толькі з выгляду. На самай справе гэта... ваша жонка.

"Віртуозы сцэны", тэатральны праект Уладзіміра Ушакова, працягвае здзіўляць мінчукоў і гасцей сталіцы. Чарговая прэм'ера — "Французская тайна амерыканскага палкоўніка" Ж. Ж. Брукер і М. Ласэга — выходзіць з грыфам "акрамя дзяцей да 16 год", а значыць глядацкі поспех спектаклю будзе забяспечаны.

На беларускай сцэне такога яшчэ не было. Рэспектабельны немалады чалавек (Аляксандр Лабуш), які ў адзіночку выхоўвае сына (Ігар Пятроў), сядзіць у надзвычай утульным крэсле і перабірае свае паперы. Але раптам служанка абвяшчае, што нейкі мужчына ў форме палкоўніка (Уладзімір Ушакоў) просіцца на прыём. "Калі ласка, няхай уваходзіць", — кажа гаспадар дома. І ў пакоі з'яўляецца — ён, дакладней... яна.

Па-рознаму тэатр можа выклікаць смех у глядацкай зале. Мяккае, іранічнае словазлучэнне, зграбны, дасціпны, рэжысёрскі прыём, калі персанаж адкрываецца з камічнага боку, нарэшце, проста гумарыстычны паварот сюжэта, які прыдуманы аўтарам, — усё гэта можа рассмяшыць гледача. Але ж навошта шукаць тонкія фарбы эмоцый, уважліва прадбачыць інтуіцыяй забаўныя моманты ў дыялогах ці маналогу, калі бывае дастаткова проста выйсці на сцэну і звычайным мужчынскім голасам прамовіць фразу, накшталт: "Я думала..." ці "Я мела на ўвазе..." І зала пакоціцца з рогату.

Некалькі год таму жонка нашага героя бясследна знікла. Можна сказаць, прапала, быццам яе ніколі не было. Ніхто не ведаў, што яе проста... звезлі ў Амерыку, бо жанчына працавала амерыканскай разведчыцай. Каб "замесці сляды", там ей зрабілі аперацыю. І жанчына стала мужчынам. Пра свайго мужа яна б забылася назаўсёды, калі б не іх сын. Дзеля юнага Луі "палкоўнік" вяртаецца ў Францыю.

Вось ужо з'ява дык з'ява! Акцёр-купалавец Аляксандр Лабуш іграе сваю ролю з шчырым драматызмам. Увогуле, "жыццёвыя" ролі, без уласцівых Купалаўскаму тэатру гіпербалізаванага гратэску і перавялічанага пафасу, Аляксандру Лабушу даводзілася іграць, бадай, толькі ў кіно. Таму ён укладае ў забаўляльны літаратурны матэрыял імпэт акцёра, які марыць працаваць у жанры "інтэлектуальнай драмы". Артыст шчыра перажывае лёс свайго персанажа, прафесійна абгрунтоўваючы кожную рэпліку свайго героя, кожны яго маналог па законах "школы перажывання".

А непакоіцца ёсць з-за чаго. Удавец наш збіраецца... жаніцца. І абранніца яго, чароўная Матыльда, ужо перабралася ў яго дом, напаўняючы аднастайны побыт адзінокага чалавека незмаўкальным звонам голасу, беганінай і іншымі жаночымі свавольствамі. Амплуа актрысы Алены Сідаравай скіроўваецца да трагікамічнага жанру. Актрыса ставіць перад сабой мэту перш за ўсё знайсці дакладны знешні малюнак ролі. Матыльда ходзіць па пакоі маленькімі крокамі чапурыстай арыстакраткі — падбародкам уперад. Яе голас падкрэслена мяккі, але можна даўмецца, аб чым думае будучая маладая, пераступаючы парог утульнага дома (гаспадар — буйны палітык). За знешнім камізмам экстравагантных паводзін бачны і збянтэжанасць, страх жанчыны згубіць удачу (бо Матыльда, відавочна, мае вопыт пакут у каханні).

Але ў самае пікантнае становішча трапляе Луі. Як растлумачыць наіўнаму хлапчуку, што дзядзька Палкоўнік — зусім не дзядзька, гэта значыць... дзядзька, які раней... Увогуле, нават язык не павярочваецца вымавіць тое, пра што трэба ведаць маладому чалавеку. Вядома, калі ўспрыняць сюжэт п'есы ўсур'ёз. Але акцёр Ігар Пятроў (дарэчы, з маладых купалаўскіх акцёраў) усур'ёз прыдумкі драматургаў не ўспрымае. Ён наогул час ад часу выходзіць з ігры па законах драматычнага тэатра і пачынае дзейнічаць у жанры эстраднага прадстаўлення. Амаль заўсёды ў яго руках — лялькі, якія артыст па-майстэрску прыводзіць у рух на забаву гледачоў.

Не вер вачам сваім — можна сказаць і калі назіраеш за працай рэжысёра. Ніна Піскарова знайшла мноства ўдалых, вобразных сцэнічных прыёмаў (напрыклад, чалавек-гадзіннік на чорным фоне, дзяўчыналялька на арэлях, нарэшце, некаторыя арыгінальныя мізансцэны). Відавочна, рэжысёр марыла выказацца шырэй, чым дазваляе сюжэт п'есы. Наўрад ці праблема трансвестызму яе вельмі хвалюе. Але ж і проста забаўляць гледачоў дзеля самой забавы ёй таксама не хочацца. Бадай, яна прыняла ўмовы гульні, думаючы пра нейкі іншы, больш глыбокі, больш інтэлігентны сюжэт.

Пікантная гісторыя пра "французскую тайну" Палкоўніка ператвараецца ў тэатр абсурду, калі наравістая Жасанд, служанка "дзіўных" гаспадароў, прызнаецца, што некалькі месяцаў таму... насіла мужчынскае імя. Значыць, "французскія тайны" абкружаюць нас усюды?

Кажуць, у любым жарце ёсць крыху праўды. Ці вырашыла амерыканская разведчыца ўсе свае праблемы, калі задумала здрадзіць сваёй жаночай прыродзе? Бадай, не. Можа, некаторым акцёрам і рэжысёрам таксама трэба быць больш уважлівымі ў выбары драматургічнага матэрыялу?..

**Андрэй АХМЕТШЫН**

# Зацемкі з левай кішэні

ЧЫТАЮ ў "Дружбе народов" у Йёна Д. Сырбу: "Для пролетариев, — говаривал отец, — национализм — пьяная чушь; для рабочих национализм — роскошь, без которой можно обойтись". (Отец называл "пролетариями" поденщиков, не членов профсоюза, а "люмпен-пролетариями" были для него безработные, батраки, пьяницы, бродяги, то есть те, кому не повезло.)

Я вспоминаю маминого брата Алоиза Глоссера. С войны он вернулся хромым, был возчиком у еврея-трактирщика, пил в одиночку и размышлял. Отцу дядя Лойза очень нравился, особенно за утверждение, что после распада Австро-Венгрии он потерял национальность. Теперь он и не чех, и не немец, и не венгр, хотя был и тем, и другим, и третьим.

"Господа, — рассуждал дядя Лойза, — имеют право переходить от одного короля к другому, из одной партии в другую; следовало бы и нам переходить из одного языка в другой, из одной национальности в другую. Видишь ли, румыны мне надоели, я увольняюсь из румын, уезжаю... Поищу себе другую страну, другую национальность..."

Умер он в страшной бедности где-то в Австрии, в Бургенланд. Как и моя мама, он свободно говорил примерно на пяти австровенгерских языках.

Когда я плакался маме, что меня выгнали из Театра, она со спокойствием видавшей виды крестьянки говорила мне так: "Если тебе не дадут писать на румынском языке, увольняйся из румын и перейди к другому языку. Нигде не сказано, что мы должны умереть с тем языком, с которым родились".

Якая *"мысля"* румынскай бабы, га?!

Я больш чым упэўнены, што мая маці так не сказала б. Не таму, што яна такая нацыянал-патрыётка — якраз наадварот, а таму, што наш пісьменнік для яе — гэта той рэдкі разумнік, які піша менавіта на беларускай мове і ні на якой іншай... І за гэта, мама: дзякуй вялікі.

❑

Пасля шырокавядомага "Маршу свабоды", што скончыўся бойкай з міліцыяй і АМАПам, нарэшце, 20 кастрычніка, пачалі цяплець батарэі ў кватэры. Менавіта цяплець і не больш... На двары яшчэ нейк пачуваеш сябе нармальна, а зайшоўшы ў "хату", і ўжо як бы загадзя чакаючы там цяпла, распрануўшыся, апынаешся ў схаладзелай прасторы абжытых каменных сцен... Ажно дрыжыкі прабіраюць... А гэтыя з тэлеэкрана ўсё плачуцца, што іх пабілі "отмороженные" хлапчукі з "Маладога Фронту" (напраўду, ім бы яшчэ марозіва лізаць!), і што хоць у краіне стабільная эканамічная сітуацыя, усё ж і надалей трэба эканоміць небагатыя паліўныя рэсурсы дзяржавы...

А ў кватэры холадна, асабліва ў ложку. Ледзянееш, нераўнуючы, як пляшка "мінскай" мінералкі ў халадзільніку...

Але бліжэй пасунешся да жонкі... яшчэ і яшчэ бліжэй — і адчуваеш, што патрохі-памалу адтаеш... Рукі, ногі, грудзі пачынаюць налівацца цёплай крывёю... Сплывае вільготны іней з вачэй, запальваецца глыбока ўтоены агонь душы, цяжэе й наліваецца сілай прыгрэтая плоць, гарачая жарсць бунтуе й кіпіць, аж пакуль не вызваляецца вонкі сутаргавай хваляй жыцця...

Любоў заўжды саграе, а холад спараджае нянавісць...

❑

Ёсць Бог і ёсць канкрэтны чалавек.

І якія паміж імі стасункі — гэта менавіта іх праблемы, а не царквы, касцёла, сінагогі ці мячэці...

❑

Перачытваю Аляксандра Блока.

***Русь моя, жизнь моя, вместе ль***
***нам маяться?***
***Царь, да Сибирь, да Ермак,***
***да тюрьма!***
***Эх, не пора ль разлучиться,***
***раскаяться...***
***Вольному сердцу на что твоя мгла?***

А — нам? О, як далёка нам яшчэ да Блока! "Нас — тьмы, и тьмы, и тьмы".

Цэлы дзень чытаў і разважаў над кніжкай Мікалая Бярдзяева "Судьба России". Мысляр вышэйшых духоўных катэгорый. Цікава было б паспрабаваць напісаць артыкул на аснове некаторых яго сцвярджэнняў у звязку з ідэяй далучэння Беларусі да Расіі. Бо сённяшнія ідэолагі наўрад ці чытаюць падобную філасофскую літаратуру.

Ды хоць бы вось гэты фрагмент: "Але ўсякая спроба ўкаранення славянафільскай ідэйнай праграмы натыкалася альбо на яе утапічнасць і нежыццёвасць альбо яе супадзенне з афіцыйнай палітыкай улады. І славянафільства дзікім чынам выразілася ў эпігонаў казённага нацыяналізму. Стварылася казённа-афіцыйнае славянафільства, для якога славянская ідэя і славянская палітыка пераўтварыліся ў рытарычную тэрміналогію і якому ніхто ўжо не верыць ні ў Расіі, ні за мяжою. (...).

Пераважнай засталася не славянская, а германская інспіраванасць (падбухторванне, падштурхоўванне. —**Л. Г.**), і ёю заразіліся самі нашчадкі славянафілаў".

Якія прарочыя словы, напісаныя больш васьмідзесяці гадоў таму назад. Асабліва трапныя да сучаснай беларускай сітуацыі.

❑

Хто толькі ні *біў* Розанава?! Аказваецца, і Бярдзяеў — таксама.

Розанаў, найперш, — творца, мастак, а ўжо пасля — просты шараговы расійскі літаратар, чалавек і грамадзянін. У яго і памылкі свае — розанаўскія, і схільнасці, і ўдачы, і правалы...

Таму, пачаўшы "за здароўе", Бярдзяеў не мог не адзначыць, што "Розанов — сейчас первый русский стилист, писатель с настоящими проблесками гениальности", каб ужо напрыканцы выказаць тое, дзеля чаго й намагаўся: "Розанов — гениальная русская баба, мистическая баба".

Ці не таму й чытаецца ён (Розанаў) па сённяшні, што без гэтага "русского бабьего причитанья" *суседка* нашая была б чэрствая, казённая і салдафонская...

❑

Яшчэ — да *свайго* Сыса... Заўжды абараняю пакрыўджаных, хоць Анатоля Ціханавіча наўрад ці хто, апроч лёсу, можа пакрыўдзіць... Ён, як кажуць, і "сам з вусамі"...

Надоечы перачытваў яго "Пан лес" (цяпер найчасцей перачытваю класіку, бо вартае ўвагі новае з'яўляецца вельмі рэдка), і знерухомеў на вершы "Чорная гадзюка, белая змяя..." Які прарочы фінал!

***З белаю гадзюкай***
***буду балявацъ,***
***а па чорнай змейцы***
***тайна гараваць.***
***Чорная гадзюка,***
***твая смерць не я,***
***цябе загубіла***
***белая змяя.***

Калі "белую змяю" вобразна ўявіць "зялёным змеем", то многае з сённяшняга жыцця паэта "кладзецца адно да аднаго"... А тады (верш напісаны ў другой палове 80-х) Толік быў яшчэ "красивым и трезвым гением"...

О, гэтыя чортавы паэты! Ці ўсё ж — боскія?!

***Не хавай не хавай не жахайся***
***за спіною крылаў***
***прывыкай прывыкай да уродства***
***мая уродачка***

Ці не з таго "лесу" і ўвесь далейшы "лёс"...

❑

Чытаю ў юбілейным (90-годдзе!) інтэрв'ю Максіма Лужаніна: "Мне няма чаго ўтойваць. І таму я ўсё жыццё не пісаў у шуфляду. Іншая справа, што мне цяпер трэба ад многага з напісанага адмовіцца. (...) ... панапісваў багата лішняга. Пахадзіў з алоўкам па сваім 4-томніку. Ён значна пахуднеў. Ад цэлых паэм я адмаўляўся, напалавіну скарочваў. Так што тут ідзе не ўтойванне, а паўнейшае выяўленне сябе. Таму што я хачу, каб заставалася такое, ад чаго і на другога чалавека падзьмуў бы той самы вецер, што і на мяне..."

І ўсё ж цяжка даўмецца: утойвае сябе ці выяўляе шаноўны *доўгажыхар* нашай *шматпакутнай* літаратуры? Дажыць "да макаўкі веку", аказваецца, не такая ўжо й праблема. Праблема — пераЖыць сябе...

Вось тут і трэба — "паўнейшае выяўленне"... А проста выкрэсліваць напісанае — гэта як скарачаць марна пражытае...

❑

Трагічна загінуў пад коламі машыны баранавіцкі паэт Анатоль Станкевіч. Чалавек 37-га года нараджэння. Гадаваўся сіратою. Сталяр. Паэт не толькі па светавыяўленні, але і па натуры. Апошнім часам спрабаваў пісаць на роднай мове. У свае 62 гады нарэшце — з другога заходу — стаў сябрам СБП. Ён так дамагаўся гэтага афіцыйнага прызнання, але, мабыць, і членскага білета не паспеў атрымаць... Добры, таленавіты беларускі чалавек быў — шчыры, сумленны, якіх заўжды бракуе... І — вось...

***Я ўжо стары:***
***Хутка на тым свеце***
***Сустрэнуся з табою,***
***мама...***
***Ці пазнаеш***
***такога?***
***Ты ж пакінула мяне***
***Двухгадовым***
***хлопчыкам.***

Не маці, дык Бог прызнае, бо варты быў...

❑

Барыс Пятровіч прапанаваў азнаёміцца з прозаю Міхаіла Велера (былы эсэсэсэравец, яўрэй, грамадзянін Эстоніі).

Таленавіты эсэіст, нечым няўлоўным (духам, яўрэйскай хваткай і нюхам?) блізкі Даўлатаву. Якраз у "літаратурна-эмігранцкім рамане" "Ножык Сярожы Даўлатава" чытаю: "Замечаешь при очередных российских катаклизмах свое приятное ощущение безопасной непричастности: твоей семьи это не касается, тебе лично не грозит. На Рождество получаешь стандартные поздравление Президента Республики, на четырех языках, русского нет, нет в документах и на вывесках. Хлопаешь шампанским под звон новогодних курантов Кремля в телике, звонишь родным и друзьям в заграницы с пожеланиями, а здесь еще только одиннадцать, и через час хлопаешь еще раз, по местному времени, и звонишь в Белоруссии и Израили, там время то же".

О, каб жа! Мабыць, яшчэ за Шушкевічам пісана... Сёння наша "уремя" зноў сугучнае з "курантамі"... З новым часам, Велер!

❑

Жонка часта бывае незадаволенаю мной... Не, не ў тым сэнсе, пра які многія з вас падумалі, хоць і тут здараюцца свае праблемы...

Проста, сам па сабе, я чалавек вельмі паскудны. Не магу і не ўмею пазбягаць спрэчных момантаў і трываць крывадушнасці...

Мне даводзяць, што ёсць рэчы, якіх нельга "кранацца ні рукамі, ні языком" — святыя, адным словам.

Я разумею — што святыя. Але мне цяжка даўмецца, чаму я не магу мець з імі блізкіх адносін і крытычна да іх ставіцца, не адмаўляючы пры гэтым іх каштоўнасці і неабходнасці...

Я хачу да ўсяго "дакрануцца рукамі" — адчуць рэч у сабе, часам нават "лізнуць яе языком" — каб выказаць і выславіць праз сябе яе сапраўдную жывую сутнасць...

Вось адкуль выцякае семя майго паскудства і цынічнай шчырасці...

❑

Кнігі, газеты, часопісы, тэлевізар... Ну, яшчэ па глыбокіх вечарах — флегматычнае думанне ды кароткае хаатычнае пісьмо...

Праводзіны свайго часу, сузіранне прамільгнуўшага жыцця... Калі ТАМ спытае Гасподзь: чым жыў на зямлі? — то што я скажу Яму? Спадзяваннем? На што? На сустрэчу з Ім?.. І гэтага дастаткова, каб жыць ТУТ? Не ўпэўнены. Але дастаткова, каб памерці...

❑

Чытаю ў лісце Кандрата Лейкі да Янкі Купалы і Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні ад 1914 года: "Затым шапкую Вам, паночкі. Ваш шчыры ўслужнік К. Лейка" ("ЛіМ" ад 5-XI-99 г.).

*Шапкую* — якое шыкоўнае цёплае слоўца! Колькі ў ім пашаноты й павагі да адрасата і ў той жа час ані каліва асабістага прыніжэння.

Я ўспамінаю, што і ў нашай вёсцы да нядаўняй пары сярод старэйшых людзей захоўваўся выраз: "Ды не шапкуй ты ўжо перад ім занадта..." Гэта значыць, не прагінайся вельмі, залішне не мітусіся, трымайся годна, па-чалавечы...

А ў Кандрата Лейкі да ўсяго яшчэ ёсць у згаданым выразе і развітальны сэнс: "да пабачэння, усяго добрага, будзьце здаровыя" і г. д.

Дарэмна страчанае з ужытку слова. Ці не таму, што сталі ўсё больш мітусіцца, прагінацца ды чалавечую і нацыянальную годнасць страчваць?

❑

У тым жа "ЛіМе" Алесь Наварыч паказвае свой аповед пра мітынгоўшчыну: улады, АМАП, апазіцыя, дэманстранты, электарат... Барацьба да крыві.

Мне ўпадабаўся аповед сваім адстароненым аўтарскім поглядам на сённяшнюю беларускую рэчаіснасць. Бо ўжо, падчас, і сам насцярожваюся ад падступаючай небяспекі — азлаблення і нянавісці да тых, хто насупраць... Вось-вось, адчуваю, можа выплеснуць... А чым гэтыя цёмныя людзі перада мной завінаваціліся? Сваёй цёмнасцю ды рабскай псіхалогіяй?

Адстароньвацца трэба, каб дарэшты не здзічыцца і не стаць падобным да іх... Не, не скарыцца ім, не падрабляцца пад іх, не прызнаваць іх статкавай большасці й перавагі — а як бы забыцца на іх прысутнасць увогуле... Жыць вольным ветрам, гібка абмінаючы перашкоды на шляху, аднак напрамку свайго не змяняючы...

❑

Усе вялікія ў маім сённяшнім "узросце душы" — лунаалі ў небе, а ў маіх гадах — ляжалі ў зямлі...

Іх вялікасць — у ім *у-маленні...*

❑

Алесь Разанаў выдаў у Бабкова (БГАКЦ) кніжку "Рэчаіснасць", набраную такім буйным і тлустым шрыфтам, што не змяшчаецца ў вачах...

Нельга паэзію друкаваць як напаказ. Тым больш — яго, разанаўскую, са сваімі рыфамі, падтэкстамі, метафарамі — патаемным зместам і формаю...

Выдаваць яе *вялікай* абсурдна. Яна і так дастаткова вялікая сярод нашай *дробнай* літаратурнай рэчаіснасці.

❑

Апошнім часам у мяне вялікія праблемы з чытаннем. Кніжак у шафах як бы і многа, аж залішне, можа, — а пачытаць для сябе, для душы ўтомнай, як ты ні перабірай, няма чаго... Асабліва з нашага — беларускага...

Скрушна... Ці то ад таго, што ты такі прывярэдлівы й празмерна начытаны, ці то ад таго, што не знаходзіш ані ў процьме чужых, ані ў сваіх уласных кніжках праўды і сэнсу жыцця... Не ведаю... Проста роспачна стаю перад кніжнымі паліцамі, як "баран перад новымі варотамі" ў стары свет.

А ўсё ж, нарэшце, — бяру і чытаю:

"Неба распаленае да беласці. Усюды, як вокам кінуць, гоні... скідаю з пляча касу і вастру яе. Жаўрук у высі славіць працавітасць маю аж па суседнія вёскі. Першым я выйшаў у поле!

Сівавусыя каласы кланяюцца ў пояс і просяцца:

— Дай пажыць, дай пажыць, дай пажыць...

А мне весела ад іх роспачы".

І — яшчэ:

"Куды ж ты паперла, дзяўчына?! Чаго панясло цябе ў горад далёкі? Шукаць лёс спадзяваны?..

Уцякла дзяўчына ад спакою вёскі, ад палёў васільковых, ад лугоў зарэчных...

Прышлі, Марыся, хоць пісьмо!

Без цябе пуста тут".

А то:

"Ён схаваў яе імя, закопваў яго штораз глыбей. Часамі адкопваў, каб паглядзець для пэўнасці, быццам скнэрлівы багацей. Сцярог імя, наглядаў за ім, як шчаслівы ўласнік скарбу".

Сакрат Яновіч. "Загоны". 1969 год выдання. Яшчэ той Сакрат — наіўны, малады, шчыры, *непазлочаны...* Прастата людская і прымітыў зямны...

Мо гэтага нам сёння й бракуе: любіць тое, што бачым, і бачыць тое, што любім?..

❑

Мабыць, мала хто адразу, з налопу паверыць мне, калі я скажу, і сам тое на днях выпадкова адкрыўшы: што рэдактарам першай кніжачкі, тады апальнага, а сёння ўслаўленага, Алеся Разанава "Адраджэнне" (1970 г.) быў паэт-франтавік Пятро Прыходзька...

А-а-а?!

❑

50! — а ўва мне самім і ў маіх пісаннях столькі яшчэ недасканалага, непаўнавартаснага, па-дзіцячы наіўнага і дзёрзкага — *непаўналетняга...*

Ад чаго ж тады плеш на галаве і сабачая самота ў вачах?..

❑

Зусім выпадкова — спатрэбіўся жонцы для працы — перагледзеў-перагартаў 10 нумар часопіса "Маладосць"...

Часопіс, хоць знешне й паглядны, але ўнутрана няўходжаны — усе "рэчы" не па сваіх кутах разбэрсаны, і многа такіх, што варта было б і ва ўтыль здаць: бабам — на мыла, малым — на свісткі...

Але, да прыкладу, старонкі з дзённікавых запісаў Вячаслава Адамчыка — гэта адна з самых вартых там рэчаў. Падумалася, яй-бо, без крыўды — што вось гэтае, магчыма, нават і пра мяне:

"Ота Вайнінгер — аўстрыйскі філосаф — заўважыў, што добры аферыст мусіць умець ненавідзець. Але, як пераканаўся я, у нас найбольш злосным і з'едлівым аказаўся лірык".

Праўда, праз старонак колькі завагаўся, натыкнуўшыся на гэта:

"Падумалася яшчэ: пазнейшую, ужо ўгодлівую паэзію Танка выратавала хіба "Ave Maria". Але ж у Б. няма і гэтага". То мо і вышэй было пра Б.?

Стрэмкай уеўся ў сэрца і "слупок" майго літаратурнага хросніка Юрася Свіркі, якога, на жаль, пакінула наша крытыка "круглым сіратой" пры яшчэ жывой паэзіі...

***Ты вялікая, Русь. Ты ніколі***
***Не згаджалася з доляй цяжкой.***
***Хоць пяеш пра раздолле і волю,***
***А малых берагла пад пятой.***

Як вам метафорыка апошняга радка? "Малых берагла пад пятой"... Чамусьці прыйшоў на памяць верш Таркоўскага:

***Пляшет перед звездами звезда,***
***Пляшет колокольчиком вода,***
***Плачет шмель и в дудочку дудит,***
***Пляшет перед скинией Давид.***
***Плачет птица об одном крыле,***

(Працяг на стар. 12)

Леанід ГАЛУБОВІЧ

## "Гісторыя беларускай літаратуры"

**Выдавецтва "Вышэйшая школа" працягвае выпуск падручніка "Гісторыя беларускай літаратуры", які зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў. У 1996 годзе была выпушчана першая частка "Старажытны**



**перыяд", наклад якой разышоўся вельмі хутка, таму неўзабаве з'явіўся дадатковы. Другая частка, што часава ахоплівае перыяд XIX — пачатак XX стст., пабачыла свет у 1998-ым. Напрыканцы ж мінулага года з'явілася трэцяя — "XX стагоддзе (20—50-ыя гады)". Трэба адзначыць, што аналагічны падручнік выходзіў раней, а гэтая частка яго выдавалася ў 1981 годзе і, адпаведна тагачасных палітычна-ідэалагічных рэалій, называлася "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры". Ды, як вядома, у жыцці адбыліся важныя змены, на чым і засяроджвае ўвагу ва "Уводзінах" акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, цяпер, на жаль, ужо нябожчык М. Лазарук, пад рэдакцыяй якога, а таксама прафесара А. Семяновіча і з'явілася кніга. Так сталася, што другое выданне гэтага падручніка выйшла ў свет на самай мяжы двух стагоддзяў — XX і XXI. І не толькі стагоддзяў — двух тысячагоддзяў! Ужо такая акалічнасць міжволі абавязвала аўтараў і рэдактараў кнігі па-асабліваму паставіцца да яе зместу, ацэнак і высноў, што робіцца ў дачыненні да розных з'яў літаратурнага працэсу". М. Лазарук сведчыць: "Родная літаратура мае патрэбу ў новым навуковым прачытанні і асэнсаванні (хоць адразу зрабіць гэта мо і немагчыма). Такое новае прачытанне найперш павінна адпавядаць тым зменам, што адбыліся ў жыцці, самым непасрэдным чынам закранулі грамадска-гуманітарную сферу і адпаведна тыя ідэалагічныя асновы, на якіх грунтавалася ўся савецкая навука аб літаратуры". Разам з тым істотны не толькі так званы "ўнутраны" момант: "Надзвычай важным пытаннем нашай літаратурнай навукі становіцца і другое, хоць яно таксама цесна звязана з першым, НОВАЕ, падкрэслім, НАВУКОВАЕ вытлумачэнне беларускай літаратурнай гісторыі Ў КАНТЭКСЦЕ СУСВЕТНАГА ЛІТАРАТУРНАГА ПРАЦЭСУ. Гэты аспект набывае асаблівую важнасць не толькі як сам па сабе зразумелы, важны ў даследаванні кожнай грамадскай з'явы,.. але яшчэ і па той прычыне, што ён вельмі слаба, можна сказаць, нездавальняюча ўлічваўся, даследаваўся ў нашым літаратуразнаўстве раней па прычыне ідэалагічнага процістаяння, нават пэўнай адмежаванасці ад сусветнага літаратурнага працэсу". Падобныя аспекты і ўлічаны аўтарамі падручніка, а імі з'яўляюцца вопытныя, дасведчаныя даследчыкі, якія даўно добра зарэкамендавалі сябе ў літаратуразнаўстве. І гэта адчуваецца з першага ж раздзела "Літаратура 20-х гадоў", аўтарам падраздзелаў якога "Агульная характарыстыка", "Паэзія", "Проза" з'яўляецца А. Майсеенка. Аўтару ўдалося, нягледзячы на абмежаванасць у памерах, даць глыбокае спасціжэнне згаданага перыяду ў літаратуры. А. Майсеенка зыходзіў з таго, што 20-ыя гады — складаны перыяд у жыцці беларускага грамадства і літаратура не магла не рэагаваць на працэсы, што адбываліся. Але, з аднаго боку, гэта выклікала з'яўленне твораў, актуальных па сваім змесце, а з другога — усё мацней яна адчувала на сабе палітычны дыктат: "Класны прынцып" стаў зброяй барацьбы з народнай мараллю, з праўдай, існінай. У канцы дзесяцігоддзя ўсё часцей і з вялікай эфектыўнасцю стаў выкарыстоўвацца жупел "нацдэмакратызму" для запалохвання і нейтралізацыі ўсіх, хто яшчэ не быў спаралізаваны і выказваў трывогу аб стане беларускай культуры, аб лёсе яе душы — роднай мовы, а пазней у 30-ыя гады прывід нацдэмаўшчыны быў паспяхова выкарыстаны для разгрому і вынішчэння беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі". Выразнасцю даследчыцкай пазіцыі, аб'ектыўнасцю аналізу, усебаковым пранікненнем у сутнасць прадмета гаворкі вызначаецца і артыкул А. Майсеенкі, прысвечаны М. Зарэцкаму. Ды і іншыя аўтары падручніка годна справіліся з пастаўленай задачай, а гэта А. Семяновіч, М. Шаўлоўская, М. Мушынскі, А. Ліс, А. Майсейчык, М. Мішчанчук, У. Гніламёдаў, А. Рагуля, М. Яфімава, В. Казлова і іншыя. Атрымаўся не проста падручнік, а і кніга, з якой з цікавасцю пазнаёмішся ўсё, хто неабыякавы да нацыянальнага прыгожага пісьменства.**

Міхась ГЕНЬКА

КНІГАРНЯ

# Вокліч вякоў

Кніга "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча выйшла ў віленскім выдавецтве з сімвалічнай назвай "Наша Будучыня". Гэта выданне пыталі ў кнігарнях і бібліятэках, на чытацкіх канферэнцыях, падчас сустрэч з аўтарамі, але адшукаць яго было амаль немагчыма: наклад у 5000 асобнікаў разышоўся імгненна. Падзагаловак "Падзеі. Даты. Ілюстрацыі", відаць, пэўным чынам тлумачыць такі поспех: у вельмі сціслай, пераканаўчай форме, грунтуючыся на дакладных лічбах і фактах, аўтары падрабязна знаёмяць з гісторыяй Бацькаўшчыны, багата праілюстраваўшы тэкст выдатнымі гравюрамі, рэдкімі фотаздымкамі і цікавымі малюнкамі. Чатыры асноўныя раздзелы — "Старажытныя беларускія княствы", "Вялікае Княства Літоўскае", "Беларусь у Рэчы Паспалітай", "Беларусь у Расійскай імперыі", кожнаму з якіх папярэднічае невялікі ўступны артыкул, а таксама своеасаблівыя табліцы, што знаёмяць з беларускай даўнінай паралельна з сусветнымі падзеямі, — ахопліваюць айчынную гісторыю, пачынаючы ад варажскага князя Рурыка, які ў 862 годзе прысланы ў княжанне ў Полацк аднаго са сваіх васалаў, да ўтварэння 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аўтары ўзгадваюць адыход ад язычніцтва, якое "несла ў сабе шмат светлага, такога, ад чаго чалавеку нялёгка адмовіцца", прыняцце хрысціянства, прычыны падзелу на рэлігійныя канфесіі, суіснаванне каталіцтва і праваслаўя. З цікавасцю чытаюцца старонкі, прысвечаныя прынцыпам дзяржаўнай будовы на Беларусі, якія падаюцца ў параўнанні з адпаведнымі прынцыпамі суседніх краін, магдэбургскаму праву ў беларускіх гарадах, шляхецкім вольнасцям, шматлікім царкоўным і палітычным уніям, якія заключала наша дзяржава, іх становучаму і адмоўнаму ўплыву на развіццё Беларусі. Шмат увагі надаецца адлюстраванню культурнага жыцця, развіццю літаратуры, мастацтва, філасофіі, дзейнасці знакамітых асветнікаў, пісьменнікаў, друкароў, прынясцю і ўдасканаленню дзяржаўных законаў, стварэнню такіх дэмакратычна-прававых нормаў грамадскага жыцця, якіх не ведала тагачасная Еўропа.

Аповед пра сівую мінуўшчыну пачынаецца ад часоў Беларусі дагістарычнай, "калі крывічы займалі абсягі Падзвіння і Верхняга Падняпроўя, дрыгавічы — землі ад правага берага Прыпяці да лініі Заслаўе-Лагойск-Барысаў... радзімічы занялі басейн Сажа". Сучасныя беларусы, сцвярджаюць аўтары, — гэта вынік лучнасці славянаў, якія падчас "вялікага перасялення народаў" прыйшлі на тутэйшыя землі, з балцкімі плямёнамі яцвягаў і літвы, уплыў якіх і дагэтуль адчуваецца "на антрапалагічным, этнаграфічным і лінгвістычным узроўні". Прасочваецца лёс розных княстваў, якія існавалі на беларускай зямлі побач з Полацкай дзяржавай, развіццё гарадоў, якія паступовa рабіліся цэнтрамі рамяства і культуры, стасункі і зацятая барацьба з рыцарскімі ордэнамі, якія, ажыццяўляючы экспансію на ўсход, карэнным чынам мянялі палітычную карту Еўропы. Загадкавая смерць апошняга полацкага князя Валодшы, які "так і не пусціў захопнікаў на крывіцкія землі", паставіла апошнюю кропку ў гісторыі Полацкай дзяржавы, разам з якой знікла і дынастыя Рагвалодавічаў.

Ваенная небяспека аднachасова з захаду і ўсходу прымусіла крывічоў і балтаў утварыць агульную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае, якое праводзіла незалежную палітыку, мела добрае войска і магло належным чынам сустрэць агрэсараў. Тут паспяхова развіваліся навука, асвета, прыгожае пісьменства, у палацах і замках гучала беларуская мова, на якой пісаліся зводы законаў, статуты, літаратурныя творы сусветнага значэння. Многа легендарных імёнаў і падзей данесла да нас гісторыя. Князь Альгерд — сын Гедзіміна, які, аб'ядноўшы "пад сваёй уладай вялікія усходнеславянскія абшары... першым з манархаў пачаў называць сябе ўладаром не толькі ліцьвіноў, але й русінаў" — разумны палітык і таленавіты вой у бітве на Сініх Водах, што на 18 гадоў апярэдзіла Кулікоўскую бітву і стала першай бліскучай перамогай над азіяцкай навалай, здолеў дашчэнту разграміць залатаардынцаў. Гэта старонка беларускай гісторыі, як і шмат якія іншыя, сёння амаль забылася. "Ці не таму, што беларускія харугвы былі там з Альгердам, супернікам маскоўскага князя Дзьмітра Данскога?" Варта адзначыць, што праз колькі гадоў Альгерд, баронячы інтарэсы Вялікага Княства, ажыццявіў удалы паход на Маскву. Да кровапраліцця тады не дайшло, гаспадар маскоўскі запрасіў літасці, бакі замірыліся, але "памятай, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою", — чуецца вокліч вякоў. Ішоў час, і вось ужо вялікі князь літоўскі і кароль польскі Казімір Ягайлавіч падпісаў "вечны мір" з усходнім суседам, "што для Вільні стала паваротным пунктам". Пачаліся бясконцыя войны за памежныя землі, гарады і валасці. Баланс сіл і ваенны поспех размяркоўваліся не на карысць Вялікага Княства: трагічнае сутыкненне каля Ведрашы, бітва пад Клецкам, вайсковыя дзеянні на рацэ Вуле, наступ войск Івана Грознага знясілілі магутную дзяржаву, якая вымушана была абараняцца, у той час як ворагі вялі няспынную палітыку захопу.

Пад цяжарам абставін адбылося злучэнне Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую. Правы і самастойнасць Княства ў гэтым альянсе былі значна абмежаваныя, назіралася шырокая паланізацыя ўсіх сфер жыцця, усё радзей і радзей гучала беларуская мова ў элітных колах. Пачаўся паступовы заняпад нашай краіны. Працяглая вайна з Маскоўскай дзяржавай, калі загінуў кожны трэці беларус, пазней са Швецыяй ператварылі квітнеючы край у запусцелую і правінцыйную ўскраіну. Тры падзелы Рэчы Паспалітай давяршылі канчатковае разбурэнне дзяржавы, скасавалі самастойнасць і канстытуцыйныя правы. Наша Бацькаўшчына трапіла ў склад Расійскай імперыі і перастала існаваць як палітычны суб'ект. Драматычным падзеям, што адбываліся за часамі існавання Паўночна-Заходняга краю пад юрысдыкцыяй Масквы, прысвечаны апошні, чацвёрты, раздзел кнігі, які завяршаецца пераходам "ад агульнай ідэі свабоднай Беларусі да яе канкрэтызацыі ў сэнсе дзяржаўнага самавызначэння".

**Марыя РУДОВІЧ**

# Куфэрак, поўны скарбаў

Нездарма існуе тэорыя, што беларускую нацыянальную культуру адратуюць рэгіянальныя ўтварэнні. Усё часцей так званая правінцыя ператвараецца ў культурніцкі цэнтр, дзе ёсць свае энтузіясты і свае таленты, грамадскія ўтварэнні і выданні, што працуюць на беларускую культуру.

У мінулым годзе такіх выданняў пабольшала. Чытачы змаглі сустрэцца з першым нумарам гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-мастацкага часопіса "Куфэрак Віленшчыны". Вядома, што Віленшчына, паўночна-заходні рэгіён Мінскай вобласці — радзіма многіх слынных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, людзей, што з'яўляюцца гонарам айчыннай гісторыі і культуры. Так што традыцыі змагання за беларускую ідэю тут сталыя.

Выданне ажыццявіў вядомы краязнаўца і актывіст ТБМ з Маладзечна Міхась Казлоўскі разам з паплечнікамі. Падтрымаў выданне Рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятыў. Назва часопіса знаёмая жыхарам Віленшчыны — нейкі час так называўся ўкладыш да "Рэгіянальнай газеты", што выходзіла там. Часопіс у пэўнай ступені яго пераемнік, і ён можа скласці канкурэнцыю аўтарытэтным сталічным выданням.

Першы нумар "Куфэрка" прысвечаны славутаму адраджэнцу Віленшчыны, краязнаўцу і літаратуразнаўцу Генадзю Каханоўскаму. Першы матэрыял часопіса — мемуары згаданай асобы, шчырыя ўспаміны пра свой род і жыццё. Пра Генадзя Каханоўскага ўспамінаюць Любоў Карповіч і Міхась Казлоўскі. Ёсць у часопісе і




шмат іншых публікацый, прысвечаных Г. Каханоўскаму, раскіданых па розных рубрыках.

Найбольшае месца ў часопісе адведзена матэрыялам гістарычнага накірунку. У рубрыцы "Слядамі продкаў" — артыкулы Эдварда Зайкоўскага "Сляды язычніцкіх вераванняў на Віленшчыне" і Людмілы Дучыц "Старажытны касцём Вілейшчыны".

У рубрыцы "Святыні Вілейшчыны" Эдуард Корзун распавядае пра гісторыю праваслаўнай царквы ў Гальшанах і Гальшанскага касцёла, якому спаўняецца 500 гадоў.

Друкаванне прыватнай перапіскі вядомых людзей заўжды выклікае цікавасць. У "Куфэрку", як у сапраўднай скарбніцы, ёсць і такія матэрыялы-перліны. Рубрыка "Эпісталярый" прапаноўвае пазнаёміцца з лістамі Зоські Верас да Генадзя Каханоўскага. Змешчаны таксама ўспаміны Зоські Верас пра гісторыю беларускага адрыўнога календара. Панараму Віленшчыны 20-х гадоў дапаўняюць успаміны Міколы Каспяровіча і Віцэнта Жук-Грышкевіча, якія сведчаць, што беларускі дух у гэтым краі захоўваўся заўсёды.

Янка Бабёр расказвае пра беларускую школьную адукацыю на Віленшчыне ў перыяд нямецкай акупацыі. Пасля гэтага матэрыялу змешчаны лісты дырэктара Вілейскай настаўніцкай семінарыі ў 1942 годзе Мікалая Грышкевіча, дасланыя з савецкіх лагераў, з якіх ён на радзіму не вярнуўся. Незвычайна хвалюючая і ўразлівая публікацыя.

Артыкул Генадзя Каханоўскага расказвае пра музейную справу і мецэнацтва на Віленшчыне, — падстава для сённяшніх заможных людзей задумацца над сваім месцам у гісторыі роднага краю. Тацяна Кляшчонак дадае некалькі сваіх штрыхоў да партрэта Адама Міцкевіча.

Рубрыка "Гартаючы старыя выданні" знаёміць з артыкуламі Аўгена Бартуля "У абліччы расейскага тэрмідору" і "Недахопы "айцоў", прысвечаным фармаванню нацыянальнай ментальнасці.

Рэцэнзія Пятра Бітэля на пераклад "Пана Тадэвуша" Язэпам Семяжонам уяўляе цікавасць не толькі для спецыялістаў. П. Бітэлем пераклад гэтай славутай паэмы Адама Міцкевіча быў зроблены яшчэ ў савецкіх лагерах. Аднак яго выданне пры жыцці П. Бітэль так і не дачакаўся. Толькі нядаўна пераклад выйшаў асобнай кніжкай. П. Бітэль вельмі доказна ўказвае на недахопы ў перакладзе "Пана Тадэвуша" Язэпам Семяжонам.

У рубрыцы "Памяць" Аляксандр Камінскі робіць згадкі пра гісторыю Крэва, Міхась Чарняўскі — пра мястэчка Нарач, былыя Кабыльнікі.

У рубрыцы "На суд гісторыі" змяшчаецца нарыс Паўла Урбана "Ці імкнецца беларускі народ (беларусы ў БССР) да незалежнасці?" Артыкул напісаны ў 1982 годзе, але яго аўтар дае станоўчы адказ на пастаўленае ў загалоўку пытанне, абапіраючыся на мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў.

Багата прадстаўлена і літаратурна-мастацкая частка "Куфэрка". Друкуюцца вершы паэта-нашаніўца Альфонса Петрашкевіча, вершы Сяржука Сокалава-Воюша, Віктара Шніпа, Аляксандра Камінскага, Вячаслава Міхасёнка, Таісы Трафімавай, Кастуся Цыбульскага, апавяданне Міколы Капыловіча. Змешчаны і творы замежных аўтараў — апавяданне амерыканскай пісьменніцы Шэрвуд Андэрсан "Рукі" ў перакладзе Міхася Чыкалава і Германа Гесэ "Дрэвы" ў перакладзе Алены Ярашэвіч.

Напрыканцы часопіса, так бы мовіць, на дне "Куфэрка" — рэцэнзія Язэпа Рокаша на кнігу маладой паэткі Наталлі Капы "Панна Каханка".

Такім чынам, Віленшчыне пашанцавала. Ужо першы нумар яе часопіса дае шырокую, змястоўную панараму яе мінулага і сучаснага, адкрывае мноства постацяў, вядомых і дагэтуль невядомых. Напэўна, і самы выпадковы чытач пасля знаёмства са зместам першага "Куфэрка" зірне на гэты край новымі вачыма, адкрые для сябе новыя фарбы яго аблічча. Наклад часопіса пакуль невялікі, але думаецца, што запатрабаваны ён будзе, і адпаведна павялічыцца ягоны наклад. У Віленскім краі хапае скарбаў, якімі можна напаўняць новыя "Куфэркі".

**Л. ШНІП**

ВІНШУЕМ!

## Янку СІПАКОВУ — 65



Фота В. ЖЫЛІНА

Янка СІПАКОЎ

# Заўжды

У вянок Уладзіміру КАРАЦКЕВІЧУ

*У міжрэччы Рубона-Дзвіны*
*і Дняпра-Барысфена,*
*На стагоддзях настоена,*
*стаіць векавечная ціш.*
*Ты, зямляча, жывеш паміж намі,*
*жывымі, нятленна,*
*Нібы птах, над Аршаншчынай нашаю*
*любай ляціш.*

*Ты ляціш там, дзе даўні быў шлях*
*ад варагаў у грэкі,*
*Там, дзе волак зялёны паядноўваў з ракою раку,*
*Дзе маглі, як за рукі, здароўкацца*
*нашы вялікія рэкі*
*Праз Аршыцу-руку, праз Лучосу-руку.*

*Ты Лучосу любіў, а Аршыцу зваў*
*роднай сястрою.*
*Дзе ж яшчэ, як не тут, таму*
*даўняму волаку быць?!*
*Ты ляціш — і ўжо Орша на ўзвышшах*
*ляжыць пад табою,*
*Тыя вулкі і хаты, тыя вокны і плёсы,*
*што нельга забыць.*

*Пад табою Ляўкі, над якімі і сёння*
*кружае Купала...*
*Чуеш шум яго крыл? Бачыш, як на цябе ён*
*зычліва глядзіць?*
*Яго крылы ў вышынях, дзе заўсёды*
*дыханне займала,*
*А ён сам, хоць і з каменю, на паляне*
*задумна сядзіць.*

*Ты любіў, як і ён, родны край і народ*
*свой бязмежна,*
*Ганарыўся ім, гордым, нязломным*
*у чорнай бядзе.*
*Цябе помняць і сёння ўсе нашыя*
*замкі і вежы,*
*І вятрына любая пад крыллем цябе*
*ў родны край прывядзе.*

*Пад табою лугі зеляныя*
*росы чыстыя росяць,*
*Над табою прадоння касмічнага*
*прывідны пыл.*
*Твой народ, што унізе, і плужыць,*
*і сее, і косіць,*
*Звеку дружыць з зямлёю, ад яе набіраецца сіл.*

*А народ зневажаюць:*
*"Вы ўсе халуі і шайморы".*
*І нясуць на свой род, як сказаў бы ты,*
*столькі брыды.*
*Ты і сам не любіў нашу цярплівасць,*
*ціхмянасць, пакору,*
*Але ж нават зубамі быў гатоў бараніць*
*свой народ ад бяды.*

*Так, мы крышачку таўры.*
*Без зямлі і без мовы. Знікаем.*
*Беларус, намаўляюць нам, на планеце,*
*ў сусвеце ўжо госць.*
*І мы быццам бы таўры, неспазнаныя*
*ў свеце, блукаем*
*І не ведаем самі, хто ж урэшце мы,*
*неспазнаныя, ёсць.*

*Ты ж шчаслівы, што ў родзе крывіцкім*
*сваім нарадзіўся.*
*Ты казаў: маю гонар належаць*
*да люду майго.*
*Як бы сёння ты сам*
*за наш ціхі народ заступіўся,*
*Як бы рыкнуў, што леў, ты на ўсіх,*
*хто шальмуе яго.*

*У паветры — ты птушка, на зямлі —*
*ты ўжо дрэва над намі,*
*Што пусціла карэнне на нашай*
*пакутнай зямлі.*
*Ты пяшчотна абняў Беларусь*
*усю нашу сваімі крыла́мі,*
*А карэннем ласкава яе да сябе прытуліў.*

*Ты ідзеш па дарозе, якая нідзе не канчаецца,*
*Ты ляціш між аблок, між маўклівых,*
*як сам ты, чарод,*
*І усюды цябе пазнае,*
*і усюды з табою вітаецца*
*Твой нязводны, як песня,*
*твой горды і добры народ.*

*З прыдняпроўскіх паданняў твае*
*пачыналіся творы*
*І з аршанскіх сцяжын, што з надзеяй*
*у свет павялі.*
*Як цярпліва цябе ўсё чакаюць*
*астральна-далёкія зоры,*
*Ты ж не можаш ніяк адарвацца*
*ад роспачна-роднай зямлі...*

*У міжрэччы Дняпра і Дзвіны,*
*паяднаўшыся крыламі ў лёце,*
*Караткевіч з Купалам увесь час,*
*у любую пару*
*Над Аршаншчынай кружаць*
*аддана пры сонцы і ў слоце,*
*А пад імі — святая, як маці,*
*дарагая для нас Беларусь.*

*Наша родзіць зямля і калосіцца роднае слова,*
*Нашы продкі збярогам*
*будуць над намі кружыць.*
*Не загіне наш край*
*і не знікне руплівіца-мова, —*
*Мы жылі, мы жывём,*
*мы заўжды будзем жыць!*

26 лістапада 2000 г.

# Служыць людзям і Беларусі

У студэнцкія гады мы з Уладзімірам Маруком зайздросцілі Міколу Мятліцкаму. Зайздросцілі, як кажуць, светла, па-сяброўску: Мікола быў на пару курсаў старэйшы за нас і тэмай сваёй дыпломнай работы выбраў кнігу Янкі Сіпакова "Веча славянскіх балад". Мікола, як і належыць выпускніку і маладому мэтру, хадзіў важны і пры сустрэчах з намі пра творчасць Сіпакова разважаў, як ён тады любіў гаварыць, глыбака і маштабна. Трэба сказаць, што на той час, у сярэдзіне 70-ых, "Веча славянскіх балад" было ў нашым філалагічным асяроддзі адной з самых любімых і папулярных кніг. Па ёй ахвотна пісалі курсавыя і дыпломныя работы, рыхтавалі навуковыя рэфераты на семінарах па паэзіі, якія цікава і натхнёна вёў няўрымслівы Алег Лойка, з уласцівай яму высокай энергіяй думкі, і, натуральна, у нашых амаль штодзённых дыскусіях у вузкім сяброўскім коле да "Веча..." мы звярталіся даволі часта. І ў гэтым не было нічога дзіўнага: акурат у 70-ыя гады пачалі імкліва абуджацца гістарычная памяць і нацыянальная свядомасць, рэзка ўзнік попыт на гістарычную літаратуру ва ўсіх славянскіх народаў, на якую, шчыра скажам, у нас, беларусаў, быў вялікі голад і наталіць яго магло толькі шырокае і глыбокае мастацкае асэнсаванне гісторыі народа. Ва ўсякім разе кожны новы твор Уладзіміра Караткевіча быў нарасхват, а ў нашым інтэрнаце па Паркавай магістралі ягоныя кніжкі зачытвалі да дзірак.

Услед за Уладзімірам Караткевічам Янка Сіпакоў сваёй кнігай значна пашырыў тэматычныя і жанравыя абсягі нашай паэзіі. Ён упершыню (апроч "Песень Заходніх славян" А. Пушкіна нешта падобнае цяжка і прыпомніць) шырока расчыніў дзверы ў гераічную і ў той жа час да вусцішнасці жахлівую гісторыю славяншчыны. І зрабіў гэта смела і цэльна, па-мастацку гожа! "Веча..." не толькі хвалявала, здзіўляла, але і прымушала думаць, шукаць, берагчы ды шанаваць свае карані і свой род:

*Сцягі — ўперад, славу — ўперад:*
*Мы прывыклі да яе!*
*Наша смеласць, нібы верад,*
*Нам спакою не дае.*

*Хто наш сябра, хто нам вораг —*
*Разбіраць няма калі.*
*Толькі зброяй мы гаворым,*
*Грэем бітвамі палі.*

*Мы — руяне, мы — славяне...*
*Ну, каму падаць руку?*
*Супраць брата нават станем,*
*Калі ён на тым баку.*

**"Руяне",**
**Балада Палабскіх славян,**
**XII стагоддзе.**

Думаецца, што сёння будзе вельмі дарэчы згадаць ацэнку У. Караткевіча, якую ён даў гэтай мужнай кніжцы ў артыкуле "Справядлівасць", змешчаную ў "ЛіМе" 27 чэрвеня 1977 года: "Гэты хлопец, сам таго не жадаючы, даў ладнага выспятка паэтам майго пакалення, і ў тым ліку, мне. І дзякуй богу. Свет, дзе няма месца нечаканасцям — гэта не свет.

І кніга гэта добра паслужыць людзям і Беларусі."

Сказана шчыра і бескампрамісна — так умеў гаварыць толькі Караткевіч. І ўсё ж мне здаецца, што "Веча славянскіх балад" было нечаканасцю толькі для чытачоў, для самога ж аўтара яно стала новым вітком у развіцці ягонага таленту. Ужо сваімі папярэднімі зборнікамі "Лірычны вырай" і "Дзень" ён падрыхтаваў глебу для сваёй **галоўнай** кнігі. Ужо ў іх гістарычная тэматыка займала адно з цэнтральных месцаў, як, між іншым, і фальклорныя матывы ў спалучэнні з разнастайнасцю форм і рытмаў (ад антычнага гекзаметра да сучаснага верлібра). Як некалі слушна заўважыў Алег Лойка, у гэтых зборніках "шэраг вершаў суаднесены з гістарычна першым паэтычным адчуваннем чалавецтва".

Зрэшты, пра гэтае сваё адчуванне гаворыць і сам паэт у зборніку "У поўдзень, да вады" (1976 г.), які выйшаў праз тры гады пасля "Веча...":

*Раніца. Сонца. Ралля.*
*Трава ўся ў расе — як плача.*
*Неба. І навісь галля...*
*Дзе я ўсё гэта бачыў?*
*Туман. Рачулка. Лугі.*
*У кожнай расіне — на промню.*
*Краскі — яшчэ без смугі...*
*Адкуль я ўсё гэта помню?*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*І я, магчыма, ўжо быў,*
*І я ляжаў, можа, гэтак.*
*І вось праз вякі не забыў,*
*Як прачынаецца лета.*
*Было ўсё, было... І ўсё ж —*
*Раніца. Неба. І промні.*
*І цёмны — праз сонца — дождж...*
*Чаму я ўсё гэта помню?*

Ці не адсюль, ці не ад гэтага прыроднага, генетычна вострага адчування нарадзіліся ў паэта цікавыя гістарычныя апавяданні з эпохі паганства, надрукаваныя не так даўно ў "Полымі" і ў "ЛіМе"?

Выбачайце, я абмовіўся, сказаўшы **паэта**, дакладней, толькі паэта. Проста зараз я кажу пра тое, што мне найбліжэй...

Прызнаюся, што да ягонай прозы я доўгі час ставіўся з насцярогай, відаць, як і большасць чытачоў звычайна ставяцца да прозы паэта. Але аднойчы, прачытаўшы апавяданне "Клопат" (дарэчы, адно з самых пранізлівых у нашай літаратуры), у якім галоўны герой пастух Хілюта-сухарукі памірае пасля паспяховай аперацыі ад сардэчнай недастатковасці, я быў уражаны тонкім псіхалагізмам у абмалёўцы характараў і глыбінёй абагульненняў. Сённяшняму грамадству, хвораму на чэрствасць, абыякавасць і раўнадушша, пісьменнік паставіў дакладны дыягназ: сардэчная недастатковасць. Уважліваму чытачу няцяжка заваўжыць, што ў прозе Янка Сіпакоў такі ж элегічна-роздумны, як і ў паэзіі. Эмацыянальна-псіхалагічнае поле яго празаічных твораў высокае і ачышчальнае, хоць яны і не вызначаюцца асаблівай вастрынёй сюжэта, для іх хутчэй характэрна іншае — вастрыня пачуццяў, боль і клопат пра чалавека (апавяданні "Свята", "Стафета", "Сіротка", прытчы "Слабыя і моцныя", "Тыя, што ідуць"). Разважаючы пра творчасць гэтага самабытнага і арыгінальнага пісьменніка, у нас сёння ёсць усе падставы гаварыць не толькі пра паэта і празаіка Сіпакова, але і пра Сіпакова-эсэіста, Сіпакова-перакладчыка, Сіпакова-крытыка...

Так, і — крытыка! Напісаныя ім артыкулы пра Дантэ і Пушкіна чытаюцца не менш цікава, чым ягоныя прытчы і мініяцюры. Гэта высокая філалогія, грунтоўная па змесце і выкшталцоная па форме, як і ўсё, што выходзіць з-пад пяра гэтага высокага Майстра і сціплага чалавека.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



Я. Сіпакоў з М. Танкам, 1968 г.



# ЧАСАПІС

## "На краі"

Часам вельмі прыемна пазнаёміцца з чарговай кнігай, выпушчанай адным з тых недзяржаўных выдавецтваў, якія не тыражуюць сумніцельнае "чціва", а ўдзяляюць увагу выпуску літаратуры, што ўзбагачае чытача духоўна. Калі ж на адной са старонак значыцца "Пейто" — сумненняў не застаецца: абавязкова трэба хутчэй прыдбаць яе. Не памыліўся я і гэтым разам. Аўтабіяграфічная аповесць Аляксея Новіка "На краі" (літаратурная апрацоўка Алеся Дзеравянкі) чытаецца з цікавасцю, а галоўнае дазваляе лепш пазнаёміцца з жыццём краіны на працягу не аднаго дзесяцігоддзя. Канечне, аўтар "маштабных" адкрыццяў не робіць ды і пры ўсім жаданні зрабіць іх не можа, бо




біяграфія А. Новіка, як кажуць, з шэрагу тыповых: вясковае маленства, юнацтва, звязанае з сацыяльнымі зрухамі ў жыцці грамадства, вайна, у час якой не хаваўся ў зацішку, настаўніцтва, што пачалося яшчэ перад фашысцкай навалай, нарэшце, шматгадовая праца дырэктарам школы. Аднак А. Новік — з людзей, якія валодаюць зайздросным уменнем сістэматызаваць у сваёй памяці галоўнае, каб пранесці яго праз усё жыццё. З цягам часу яно набывае неацэнную каштоўнасць як тая першакрыніца, з якой можна чэрпаць звесткі, што тычацца і лёсаў людзей, і лёсу грамадства. Пры тым звесткі, сутыкацца з якімі дагэтуль не даводзілася. Гэта я магу засведчыць з усёй пэўнасцю, як зямляк А. Новіка. І не важна, што мы нарадзіліся ў розных вёсках. Як і не важна тое, што ў нас вялікая розніца ў гадах. Проста я стараюся па меры магчымасці збіраць усё, што тычыцца гэтага рэгіёна Бацькаўшчыны. Нямала ведаю і з вуснаў блізкіх мне людзей, у тым ліку мамы. Чуў і пра колішні засценак Працавічы, што знаходзіўся ў трох кіламетрах ад вёскі Іграева, у якой нарадзіўся А. Новік. Але аўтар кнігі "На краі" падае такія падрабязнасці, якія дазваляюць на, здавалася б, прыватным факце адчуць, наколькі прымусовы адрыў чалавека ад зямлі гібельны, як ён ломіць звыклы ўклад жыцця і плодзіць абыякавасць, безгаспадарчасць. Сёння Працавічаў няма, "а колісь кожны селянін Працавічаў меў квітнеючы сад. Усе сядзібы былі абсаджаны ліпамі, клёнамі, таполямі. Сярод садоў і кветак — прыгожыя і прасторныя сялянскія хаты, аздобленыя разьбой, гумны, хлявы для жывёлы. Сяляне навакольных вёсак вучыліся ў працавіцкіх дбайна гаспадарыць". Ды гэта па сутнасці і вызначыла лёс Працавічаў: "Тагачасным сацыялістычным уладам заможная вёска была бяльмом на воку, не даспадобы ім былі гаспадарлівыя людзі". А ў выніку — раскулачванне, пасля якога "ў дамах пасяліліся сем'і беднякоў і бяздомных батракоў". Ведама, якія з іх гаспадары: "...праз некалькі гадоў дамы і іншыя будынкі разабралі і некуды перавезлі. Урадлівыя сады былі высечаны і выкарыстаны на дровы для кацельнай калгаснага свінарніка. На месцы колішняга квітнеючага засценка доўгі час была пустэча і толькі перад вайной месца чалавечага жытла было выкарыстана пад ворыва". Часам дастаткова аднаго толькі штрыха, пададзенага А. Новікам, каб упэўніцца, што нават дзеля гэтага варты яго аўтабіяграфічныя згадкі. Для прыкладу, мне цікава было даведацца, што знакаміты на ўсю Беларусь старшыня калгаса Герой Сацыялістычнай Працы В. Козел быў стрыечным братам бацькі аўтара кнігі. Але яшчэ цікавей прачытаць, што, аказваецца, В. Козел у свой час быў арыштаваны органамі НКУС: "на допытах яму зламалі ў грудзях рабрыну, але праз год апраўдалі, выплацілі грашовую кампенсацыю за вымушаны "прагул" і вярнулі на старшынёўства". Ці яшчэ... Колькі пісалася, якой бядой абярнуўся для ўкраінскага народа голад трыццаць першага года. У А. Новіка "свой" факт: "У мястэчку Пагост, што недалёка ад Іграева, адзін даведзены да адчаю ўкраінец засек сякерай сваіх дзяцей і жонку, калі яны спалі, а сам павесіўся. Не мог чалавек вытрымаць здзекаў са свайго гаротнага лёсу з боку "народнай улады"...". Слушна гаворыць у прадмове "Ён ведае, што такое край жыцця" журналіст, член рэдкалегіі газеты "Звязда" В. Хурсік: "Шкадую, мала выдадзена кніг успамінаў простых людзей. Нияк усё больш у пашане выдаўцоў мемуары знакамітасцяў". Сапраўды, калі ўспаміны такога кшталту, як у А. Новіка, іх трэба як мага хутчэй даносіць да чытача.

Міхась ГЕНЬКА

# ПАЭЗІЯ

Віктар СЛІНКО



## З кнігі "Штольні вясны"

•

*недзе Ў безданях ёсць*
*сенажаці*
*... але тут застаецца маці*

*там ідуць з хатулямі*
*касцы*
*...але тут застаецца сын*

*залатыя там кажуцца*
*словы*
*...але раптам усё гэта — ловы?*

•

Т. Б.

*Адразу за домам*
*Пачыналіся горы,*
*І гэта прыемна было ведаць,*
*засынаючы;*
*А ў гарачым пяску чарапахі*
*адкладвалі яйкі*
*І салодкае сонца хурмы мне*
*студзіла далоні.*
*Але гэта былое, а значыць —*
*амаль што няпраўда.*
*Ці прачнуся я побач з табою*
*ля выдмы пясчанай,*
*Ці пачую, як з намі гамоніць*
*вятрак адзінокі?*
*А цяпер я на ўскраіне поля*
*па шыю ў траве і сонцы,*
*А цяпер я памёр —*
*і паверу дзіцячаму шчасцю.*
*І брыдзе мой распрэжаны конь,*
*і са срэбнай насечкаю лейцы*
*Ціха, нібыта вужака,*
*цягнуцца следам вадою.*
*Колькі за мной бяссонных дарог*
*у прасцяг сінечы!*
*Колькі за мной далоняў,*
*што кладзіся мне на плечы!*
*Выну з гнязда твайго*
*жменьку птушынага пуху,*
*Ветру аддам, каб усе,*
*хто нястомна блукае,*
*згадаліся лету.*

*Запальвайце ж вогнішчы ўсе,*
*не кажучы слова*
*"агонь"!..*

•

*Я прыдумаў, як гэта будзе.*
*Месяц — напзўна, студзень.*
*Час — восем гадзін.*

*Буду адзін?.. — адзін*
*Стаяць ля шумных кампаній.*
*Ніхто не стаіць паміж намі.*
*Голле шапоча: Амінь.*

*Слухачом ля асіплай птушкі*
*Запынюся — і буду гушкаць*
*Нашу дачку на руках.*
*Ты — як вялікі птах.*

*Навошта ты — побач са мною?*
*Крылы ў цябе за спіною.*
*Валуном урастаю ў зямлю.*
*Заімшэлы, крылатых люблю.*

*Грыфель ламаў мне пальцы.*
*Адкуль мне, цёпламу, ўзяцца*
*Пасля ўжо стольких завей?*
*"Крануцца мяне пасмей —*

*І я цябе адагрэю..." —*
*Шапнула ты... Я — не смею.*
*Быццам — хрышчэнне вакол,*
*А потым — жалобны стол.*

•

*Калека багаты калецтвам,*
*Жабрак — калітой падранай.*
*А хто выракаўся дарогі —*
*Не помніць, што будзе заўтра.*
*А хто выракаўся дарогі —*
*Хату крылом падмятае.*
*А я з уласнай далоні*
*Дачцы выразаю свістульку,*
*З далоні, драўлянай далоні.*
*Павярнулася неба ў профіль.*
*Хіба ёй бацька — калецтва?*
*Хіба ёй жабрацтва — маці?*
*Дачцы выразаю свістульку*
*Няўмелым, іржавым сэрцам.*
*Ячмень спавядае мёртвых,*
*Пшаніца — каму нараджацца.*
*У кішэнь не схаваеш радасць,*
*А гора просіцца ў рукі*
*Дачушцы маёй недасяжнай.*
*Хай на парозе сядзе,*
*Будзе склікаці птушак*
*Няўмелым, іржавым сэрцам,*
*Далонню маёй драўлянай.*
*Сыдземся хутка, знаю!..*
*На белай дарозе, у цемры*
*Разам заплюшчым вочы.*
*Дарэмна паліць паходні,*
*Выпрошваць, каб ноч вярнула*
*Дачку і чужога бацьку.*
*Святкуе ў палях канюшына.*
*...Разляцішся птушыным граем*
*Услед за мятлушкай шчасця,*
*Дачушка мая, Алена.*
*...І толькі мяне самога*
*Трымае матчына ўлонне.*

•

*Нешта прыдбаць для сябе;*
*адхукаць ад холаду, вырошчваць,*
*а потым — пабачыць: гэта яблыня*
*на нічыйнай зямлі*
*і не дае пладоў;*
*даравáць — і пакінуць сабе самой:*
*хай цвіце*
*і скідае пялёсткі*
*на чужыя надзелы.*

•

*Пачціва*
*Саступаюць дарогу,*
*Прыбіраюць з яе каменне,*
*Моляцца...*

*На пяць крокаў*
*Я аддаліўся,*
*Але ўжо нада мною —*

*Рунь.*

### Падыходзяць...

*Падыходзяць у белым, у белым,*
*У зялёным, з кветкамі ў валасах.*
*А я — заручоны, шчодры ў чаканні,*
*Бо ты любіш мяне*
*За тыя суніцы, што прыгаршчамі*
*Раздаваў я іншым.*
*Звязкі сушоных грыбоў,*
*як вялікія пацеркі,*
*На шыях, і ўсе яны ў белым,*
*У зялёным, з кветкамі ў валасах,*
*І ўсе яны — лісце, і іх не шкада,*
*Бо мы — заручоныя.*

### Сон

*...І як мяне завуць —*
*не ўспомніць маці.*
*Ішла дасюль гаворка ні аб чым,*
*Пакуль я не намацаў крокам дзень,*
*Дзе селяцца памерлыя зязюлі.*

*Там прадзеды і праўнукі мае*
*На доўгай лаўцы за адным сталом,*
*І каравай, што дыхае знутры,*
*Рука не падымаецца дзяліць.*

*А клубні варушыліся ў раллі:*
*Чаму я пасярэдзіне стаю*
*І рухацца далей ёй замінаю?*
*(А прадзед мой разорваю ішоў,*
*Мяне не бачыў, справаю заняты —*
*Якраз тады ён бульбу абганяў).*
*А ганак у дзвярэй пытаў-рыпеў:*
*Чаму не адпускаю клямку я*
*І месяц да расколатага дня*
*Навошта прыкаваў*
*самім сабою?*
*(А праўнук мой гуляўся на дварэ,*
*Сачыў за коткаю —*
*ці зловіць дзьмухавец,*
*Над ёй смяяўся,*
*сэрцам непрытомны).*
*А я ў адказ паветрам задрыжаў*
*Над комінам, жарынкаю пячною,*
*Хоць у мяне нічога не спыталі,*
*Як быццам і на свеце не было*
*Майго нічога — хаты і куцці,*
*Што некранутай астывала ў місе,*
*І іх, маіх, якія ўсё ідуць*
*Разорай, што нікуды не вядзе.*

*Зязюля помніць малако грудзей,*
*І як мяне завуць —*
*таксама помніць...*

*Крупамі снежнымі зраўняецца*
*зямля —*
*І ні мяне, ні прадзедаў, ні дня.*
*А як мяне ў той хаце сустракалі,*
*Зязюлі потым маці*
*расказалі.*

•

ГАЛІНЕ

*Зямлю, што належыць мне,*
*увабралі адбіткі ног.*
*На абарону выспы,*
*калі наступае прыліў,*
*Падобна жаданне ўтрымаць*
*яе болей, чым мог,*
*Заняўшы ступнямі —*
*для той, якую люблю.*

*Што ж ты робіш сягоння са мною,*
*неба маё?*
*Зноў нічога не позна:*
*заслужана старасцю ўтулле,*
*Зморшчыны з твару не змыць*
*маладою крывёй,*
*І знесены плён, і паточаны*
*шашалем вуллі.*

*Камяністы пагорак араць*
*мне пакінулі пёрка —*
*Узыдуць цагляныя дахі,*
*чарапічныя схілы.*
*Трысціне балотнай мой посах*
*зайздросціць, і горка*
*Глядзець у пустыя буслянкі*
*тваіх небасхілаў,*
*Божа.*

### Краявід

1
*Дрэва ўва мне*
*І студня.*
*З маленства*
*Чэрпаю,*
*Паліваю...*
*Разрывае мяне*
*Карэнне.*

2
*Чую:*
*"Дыхай, дыхай*
*На поўныя*
*Грудзі!"*
*І падаюць*
*Чарацінку,*
*І кладуць*
*На дно ручая.*

3
*Яшчэ да таго,*
*Як з'явіўся сюды,*
*Чакала мяне*
*Хата,*
*І дарога*
*Была маладзейшай*
*За мае сляды.*

4
*...А сонца — старэйшае,*
*Але я*
*Помню і т о е,*
*Што помніць*
*Яно.*

5
*Лес уваходзіць*
*У мяне*
*Натоўпам харaства*
*Нямога —*
*І святлею я,*
*А лесу робіцца*
*Цёмна.*

6
*Дык вось які я!..*
*Белае імя маё,*
*Як сон*
*Пераказаны,*
*Памяць*
*Нясе ў руцэ —*
*Дзіва*
*Неўміручае.*

## Вайна паміж смаўжом і чарапахаю

У Маладзёжным тэатры — прэм'ера. "Трызненне ўдваіх" Эжэна Іанескі. У апошні час гэтае імя сустракаецца на афішах куды радзей, чым гадоў дзесяцьдванаццаць таму, калі ў Беларусі пачалося павальнае захапленне еўрапейскім авангардам — дзякуй перабудове з яе свабодай ставіць усё ды так, як заўгодна. Маладзёжны тэатр тады апынуўся адным з лідэраў у асваенні інтэлектуальнай драматургіі: узгадайце "Дзённік аднаго генія" С. Далі і "За зачыненымі дзвярыма" Ж.-П. Сартра. Здавалася б — усё, наіграліся, настаўіліся, дагналі і засвоілі. І тут, пасля "Дзядзькі Вані" Чэхава і "Рамэа і Джульеты" Шэкспіра — абсурдыст Іанеска са сваім "Delire a deux". Што ж блізкае і зразумелае, сучаснае ўгледзеў у гэтай п'есе сам і прапанаваў свайму гледачу рэжысёр Віталь Катавіцкі?

"Трызняць" у спектаклі двое — Ён і Яна. Імёны можаце падставіць самастойна: Адам і Ева, Рамэа і Джульета, хоць Саша і Маша — як каму больш падабаецца. Сутнасць застанецца тая ж — усё ў гэтым свеце пачынаецца з двух людзей. Яны — аснова. Ад іх узаемаадносін у канчатковым выніку залежыць жыццё ўсяго грамадства. У п'есе знакамітага абсурдыста гэтая залежнасць увасобілася ў трапную метафару: звычайная побытавая спрэчка спараджае сапраўдную вайну. Знешні свет на кожны ўсплёск узаемнага незадавальнення неадкладна наносіць адказны ўдар — куляй, гранатай, бомбай.

З першых хвілін спектакля адчуваецца, як расце раздражненне герояў адно адным. Ён (у выкананні Віктара Маўчана альбо Сяргея Навіцкага) сядзіць у сваім кутку ды ўпарта намагаецца сыграць на акардэоне непаслухмяных "Паяцаў" Леанкавала; у другім кутку Яна (Ганна Лавухіна альбо Эвеліна Сакура) займаецца сваёй прычоскай. Абодвух прыгнятае перад- (а можа, пасля-) навальнічнае маўчанне... А некалі ж дзеля таго, каб быць разам, яны адважыліся пакінуць сваіх першых мужа і жонку. Толькі, шкада, не ўбачылі тады праз "ружовыя акуляры" заканахансці, што на самай справе яны — "розных відаў". І зараз два чалавекі побач смутнуюць па такі ненабытай гармоніі, не разумеючы, што іх шчасцю перашкаджаюць не ўраган, не забастоўка на чыгунцы, не грып, не вайна. Папросту аднаму "не ў час гарача", другому — "не ў час халадна". А сярэдняй тэмпературы яны і не шукалі...

Яны пражылі разам семнаццаць гадоў, але так і не навучыліся прымаць адзін аднаго. Здавалася б — ну што ім да таго, ці ёсць розніца паміж смаўжом і чарапахай, альбо гэта адна і тая ж жывёліна? Іх спрэчка настолькі ж абсурдная, наколькі і бясконцая. У Яе — жаночая логіка, у Яго — мужчынскі здаровы сэнс. Забываецца ўсё, акрамя жадання настояць на сваім. Адна за адной сыплюцца абразы — "крэтын", "бессаромніца" ды "спакуснік". Смешна, бязглузда? А цяпер узгадайце ж сябе дома, у сям'і — спрэчкі з пенай на губах пра тое, на якой паліцы ў шафе павінны ляжаць шкарпэткі, ці пра тое, што глядзець па тэлевізары: прамову прэзідэнта ці "Санта-Барбару". Але, канешне, куды лепш гэтая бязглуздзіца бачна ў спрэчцы пра смаўжа і чарапаху праз мяжу з чайніка, вентылятара ды гадзінніка, якую ўсталёўвае на сцэне Віталь Катавіцкі. На тое і тэатр, каб было лепш бачна.

Сцэнаграфіяй і касцюмамі да спектакля займалася вядомая тэатральная мастачка Алена Ігруша. У гэты раз на змену яркасці, запамінальнасці яе папярэдніх "касцюмных" работ прыйшлі рэчы такія ж смешныя і недарэчныя, як і іх гаспадары. На Ім — падношаны касцюм, які відавочна ведаў лепшыя часы; на Ёй — звычайны кветасты халат, сімвал непазбежнага побыту, у якім так безнадзейна загразла яго ўладальніца. Алена Ігруша пасяліла герояў Іанескі ў маленькі закутак рэальнага свету, рэальнай кватэркі з абшарпанай мэбляй і звыклай дробязю на лесвіцы-этажэрцы. Але рэальнасць гэтага сямейнага гняздзечка заканчваецца разам з яго плаўна зрэзанымі сценамі — зрэзанымі ці то снарадам, ці то фантазіяй мастачкі. За сценамі — нябачная гледачам вуліца, дзе ідзе бой, дзе гінуць людзі, знешні свет, за якім героі з жахам і цікаўнасцю назіраюць.

"Мне здаецца, у чалавеку ёсць глыбокая тэндэнцыя да разбурэння і самазнішчэння, і што вайна цалкам ірацыянальная, ніякай логіцы не паддаецца", — кажа Эжэн Іанеска ў адным са сваіх інтэрв'ю. Так, можна колькі заўгодна прыводзіць эканамічныя, палітычныя, ідэалагічныя абгрунтаванні сусветных канфліктаў. А можна, як гэта зрабіў Віталь Катавіцкі, убачыць за войнамі канкрэтных людзей, палітыкаў, ваенных, асабістае жыццё якіх праецыруецца на жыццё грамадства ў цэлым. Менавіта яны не могуць дамовіцца, знайсці кампраміс. Таму зноў і зноў атрымліваецца "трызненне", але ўжо не "ўдваіх", як у Іанескі, а сусветнае і куды больш кровапралітнае.

Юлія ПАЛАЧАНІНА

ДАТЫ

***Беларускі народ таленавіты, музычны, творчы, вынаходлівы. На працягу сваёй шматвяковай гісторыі гэты шматаблічны геніяльны музыкант стварыў цудоўныя, самабытныя, разнастайныя песні, танцы, інструментальныя найгрышы і арыгінальныя музычныя інструменты — нацыянальны генафонд, наш духоўны арсенал. У шматстайнай "сям'і" народных інструментаў Беларусі цымбалы — самы, бадай, любімы і распаўсюджаны.***

***Гэты інструмент са старажытным радаводам, прыгажосць і гонар беларусаў, да яго ўдасканалення быў прыналежнасцю сельскіх музыкаў і, верагодна, з гэтай прычыны лічыўся "мужыцкім". Музыкі-цымбалісты, як правіла, выступалі ў трох іпастасях: выраблялі інструмент, гралі на ім і рыхтавалі сабе змену. У народзе іх пачціва называлі ўмельцамі...***

***Прыкладна з сярэдзіны 20-х — на пачатку 30-х гадоў вызначыўся перыяд своеасаблівага рэнесансу народна-інструментальнага мастацтва. Музычныя інструменты, асабліва цымбалы, якія сталіся асновай Дзяржаўнага народнага аркестра Беларусі, некаторыя духавыя (дудкі, ражкі, жалейкі, акарыны) набылі значныя канструктыўныя змены. У 1927—28 гадах група энтузіястаў, пры актыўным удзеле таленавітага беларускага майстра-самавука К. Сушкевіча, рэканструявалі і ўдасканалілі цымбалы (утварылася іх сям'я: прымы, альты, тэнары, басы і кантрабасы — кшталту сямейства балалаек і домраў у аркестры рускіх народных інструментаў, створаным цудоўным рускім музыкантам В. Андрэевым). Рэканструяваліся таксама дудкі і калёсная ліра. З такіх інструментаў і быў створаны першы беларускі ансамбль.***

***Ідэя стварэння ансамбля беларускіх народных інструментаў узнікла як быццам выпадкова. Але выпадковасць слушна лічаць пэўнай заканамернасцю.***

# Музычны сімвал Беларусі

## ДА 70-годдзя ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА НАРОДНАГА АРКЕСТРА імя І. ЖЫНОВІЧА

●

У 1926 г. на канцэрце ў клубе Мінскага дома інвалідаў сустрэліся вядомы ў Мінску кіраўнік аматарскіх калектываў народных інструментаў, акцёр, спявак і віртуоз-балалаечнік Дзмітрый Захар і Канстанцін Сушкевіч — цудоўны майстар па вырабе цымбалаў і іншых народных інструментаў, да таго ж умелы выканаўца на іх. Сушкевіч выступіў тады ў сямейным цымбальным трыо са сваім сынам і пляменнікам. Гэты ансамбль Захару вельмі спадабаўся, ён прапанаваў Сушкевічу сумесна стварыць больш шматлікі, паўнакроўны калектыў з ліку аматараў ігры на народных інструментах. Хутка майстар вырабіў некалькі разнавіднасцей цымбалаў, жалеек і дудак, а Захар узяў на сябе клопат пра стварэнне рэпертуару і падбор выканаўцаў.

Ансамбль рабіў свае першыя крокі досыць паспяхова. Сведчыць пра гэта, прынамсі, запрашэнне Захара ў Беларускі музычны тэхнікум у якасці кіраўніка класа народных інструментаў. У хуткім часе ансамбль папоўніўся навучэнцамі гэтага тэхнікума. Сярод іх былі Я. Жыдовіч (І. Жыновіч), І. Герман і М. Шчарбо (Шчэрба). У 1928-м на Беларускім радыё быў арганізаваны аркестр народных інструментаў. Ансамбль цымбалістаў пад кіраўніцтвам Д. Захара часта далучаўся да яго. Рэпетыцыі чаргаваліся з выступленнямі непасрэдна ў студыі радыё, а таксама ў клубах розных прадпрыемстваў, перад вайскоўцамі, навучэнцамі. Узнімаўся аўтарытэт і грамадскае прызнанне маладога мастацкага калектыву...

1 снежня 1930 года пастановай Калегіі Наркамасветы БССР, у распараджэнне якога паступіў гэты калектыў, яму была дадзена такая назва: "Беларускі Дзяржаўны Ансамбль народных інструментаў". Крыху пазней выйшаў першы буклет з пералікам складу артыстаў ансамбля: Л. Александроўская, Д. Захар, І. Герман, Я. Ліпніцкі, Я. Жыдовіч (І. Жыновіч), С. Навіцкі, М. Плашчынскі, В. Самсонаў, К. Сушкевіч, Б. Фрыдман, Я. Фрыдман, Х. Шмелькін, М. Шчарбо. Кіраўнікі галоўмастацтва Гурскі ды Любан у той час пісалі: "Два гады працы Беларускага Дзяржаўнага Ансамбля народных інструментаў даказалі, што ён з'яўляецца высокай мастацкай адзінкай. Факт існавання Ансамбля з'яўляецца адной з шматлікіх перамог на фронце культурнага будаўніцтва ў БССР..."

І ў роднай Беларусі, і на Украіне, і ў рэспубліках Закаўказзя творчы калектыў меў трывалы поспех і прызнанне ў слухачоў. Самай адметнай падзеяй таго часу для яго артыстаў была паездка ў Маскву для ўдзелу ў Тыдні беларускай культуры.

У 1937 годзе адкрылася Беларуская дзяржаўная філармонія. Ансамбль пераўтвараецца ў Дзяржаўны народны аркестр БССР, яго першым мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам прызначаюць К. Сіманава (пазней народны артыст СССР, галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра Ленінградскага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя С. Кірава). Народны аркестр хутка робіцца адным з лепшых музычных калектываў Беларусі. Для яго пішуць арыгінальныя музычныя творы, у тым ліку буйной формы, вядучыя беларуская кампазітары: В. Залатароў, М. Аладаў, М. Чуркін. Вялікі поспех мелі выступленні аркестра ў Маскве, падчас Дэкады беларускага мастацтва (1940 г.).

І вось на сапраўдным творчым уздыме жыццё аркестра перарвалася. Над краінай навіслі чорныя хмары фашызму. Беларускі народ у ліку першых уступіў у няроўную сутычку з карычневай чумой. Артысты Дзяржаўнага народнага аркестра змянілі музычныя інструменты на вінтоўкі, кулямёты, аўтаматы, пайшлі абараняць сваю Радзіму. Толькі невялікая частка музыкантаў была эвакуіравана. Яны прадаўжалі служыць народу сваім мастацтвам, пастаянна выязджаючы ў складзе франтавых брыгад для культурнага абслугоўвання воінаў Чырвонай Арміі, ладзілі канцэрты і для працаўнікоў тылу.



●

1944 год. На франтах Вялікай Айчыннай вайны яшчэ грымелі баі, а І. Жыновіч, які вярнуўся з эвакуацыі ў родны Мінск, думаў пра лёс беларускага народна-інструментальнага мастацтва. Менавіта яму, чараўніку цымбалаў, знаўцу беларускага інструментарыя, цудоўнаму арганізатару было даручана аднавіць нацыянальны мастацкі скарб — Дзяржаўны народны аркестр БССР. Дзякуючы яркаму таленту, нястомнай энергіі, бескарыслівай любові Жыновіча да народнай музыкі, аркестр за вельмі кароткі тэрмін адрадзіўся як легендарны Фенікс з попелу.

Праца ішла ў розных напрамках. Перш за ўсё неабходна было знайсці музычныя інструменты, а перадусім — цымбалы. Але іх нідзе не было. За час акупацыі ўсё было згублена. Жыновічам у садружнасці з майстрам-эксперыментатарам У. Крайко былі створаны палепшаныя варыянты сям'і цымбалаў, дудак, калёснай ліры.

Даводзілася вырашаць і праблему рэпертуару. На пачатку адраджэння аркестра асновай выступленняў складалі народныя песні і танцы ў аранжыроўцы для аркестра, а таксама творы для салістаў, спевакоў ды інструменталістаў у суправаджэнні аркестра. Пад яго акампанемент спявалі вядомыя беларускія майстры вакальнага мастацтва: Л. Александроўская, Л. Аляксеева, І. Балоцін, М. Дзянісаў, С. Друкер, В. Малькова, Р. Млодак і інш., паказвалі сваё віртуознае майстэрства таленавітыя цымбалісты: І. Жыновіч, А. Астрамецкі, М. Шмелькін, дуэт С. Навіцкага ды Х. Шмелькіна. З часам эстафету пераймалі прадстаўнікі новага пакалення спевакоў ды інструменталістаў: З. Бабій, У. Веприк, В. Глушакоў, С. Грыдзюшкаў, С. Данілюк, А. Дзёдзік, Д. Зубрыч, Б. Казанцаў, Н. Казлова, Т. Ніжнікава, І. Адзінцова, А. Рудкоўскі, А. Цвятаева, Л. Шубіна, В. Шутава, В. Бурковіч, Я. Гладкоў, А. Лявончык, У. Навіцкі, А. Ткачова, Т. Чанцова і інш. Супрацоўніцтва з такімі яркімі салістамі, вядома, спрыяла павышэнню ўзроўню аркестравай ігры, пашырэнню стылёвых і жанравых межаў, дазволіла паглыбіць пазнанне тэхнічных і мастацкіх задач. Актывізавалася цікавасць вядучых беларускіх кампазітараў да аркестра народных інструментаў, які зрабіўся і творчай лабараторыяй нацыянальнага інструментальнага мастацтва.

Як заўважыў адзін з адметных савецкіх дырыжораў, "аркестр — гэта стыль ігры, гэта гучанне, гэта рэпертуар. Інача у яго ніколі не будзе таго, што называюць "лица не общим выраженьем". Усім гэтым "складнікам" І. Жыновіч надаваў выключнае значэнне, дамагаючыся ансамблевай зладжанасці, рытмічнай выразнасці і дакладнасці, інтанацыйнай чысціні (ад інструментаў досыць сумніцельнай якасці), непаўторнай прыгажосці гучання цымбалаў, глыбокай і насычанай гукавой і тэмбравай палітры духавых.

●

Новая эра ў гісторыі Дзяржаўнага народнага аркестра Беларусі пачалася з прыходам у калектыў выдатнага музыканта Міхала Казінца, па-рыцарску адданага мастацтву аркестравай ігры, прадаўжальніка лепшых традыцый Іосіфа Жыновіча.

Пасля доўгіх і пакутлівых пошукаў і роздумаў Жыновіч спыніў выбар свайго будучага пераемніка на гэтай кандыдатуры. Інтуіцыя і на гэты раз не падвяла. Пачынаючы з 1972-га, два напружаныя гады малады дырыжор прыслухоўваўся да парад свайго знакамітага калегі і да голасу ўсяго калектыву, зважаючы і застаючыся самім сабой. Гэта імпанавала і галоўнаму дырыжору, і артыстам аркестра. У 1974-м І. Жыновіча не стала. З 67 гадоў свайго жыцця 60 ён верай і праўдай служыў свайму любімаму інструменту — цымбалам. Ён пакінуў неацэнную спадчыну — сваё "дзіця", Дзяржаўны народны аркестр Беларусі, мноства вучняў і паслядоўнікаў; паспеў падрыхтаваць дастойную замену на дырыжорскім подыуме...

Сёння імя Міхала Казінца — таленавітага беларускага музыканта, дырыжора вядоюць не толькі ў нашай краіне, а й на абсягах былога Савецкага Саюза, у Германіі, Індыі, Іспаніі, Кітаі, Польшчы, Францыі, Турцыі і інш. Да таго ж, М. Казінец — не толькі мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі, а й стваральнік і кіраўнік сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь" нашай Акадэміі музыкі, якую на працягу пятнаццаці гадоў узначальвае як рэктар, дзе выкладае як прафесар кафедры дырыжыравання.

Аднойчы ў гутарцы з М. Казінцом я папрасіў маэстра ахарактарызаваць з пазіцый сённяшняга дня дзейнасць аркестра ў гістарычным ракурсе, прынамсі, на этапе станаўлення і ўздыму падчас кіраўніцтва Жыновіча. Вось што адказаў Міхал Антонавіч:

**— Пачну з таго, што ў прынцыповых пытаннях я ніколі не мяняю сваёй думкі. За гады працы без Жыновіча я яшчэ мацней пераканаўся, што Іосіф Іосіфавіч — гэта з'ява, эпоха ў народна-інструментальным мастацтве Беларусі. З яго імем звязаны велізарны ўзлёт ад простага народнага музіцыравання да вяршыняў прафесійнага акадэмічнага выканальніцтва. Сваю думку я хацеў бы ўдакладніць і растлумачыць. Любы мастак, нават самы буйны і ў вышэйшай ступені таленавіты, стварае штосьці новае зусім не на голым месцы. У яго, натуральна,**





**былі папярэднікі, аднадумцы, вядома, апаненты, якія таксама спрыялі сцвярджэнню творчай ідэі. Таму я па-ранейшаму лічу сябе вучнем Жыновіча ў самым глыбокім значэнні гэтага слова. Я, і ўвесь калектыў Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра, свята шануем запаветы і традыцыі незабыўнага майстра. Але што азначае шанаваць традыцыі? Гэта значыць захоўваць усё лепшае, няўхільна развіваючы і ўдасканальваючы. Бо традыцыі жывуць да таго часу, пакуль у іх ёсць энергія для далейшага руху.**

**Увесь 2000 год мы лічылі юбілейным для аркестра, старанна і грунтоўна рыхтаваліся дастойна сустрэць 70-годдзе калектыву. І сёння мне хочацца побач з нашым дарагім Настаўнікам І. Жыновічам паставіць імёны тых, хто быў поплеч з ім ля вытокаў нашага калектыву. Гэта стваральнік і кіраўнік Беларускага дзяржаўнага ансамбля народных інструментаў Д. Захар, першы вынаходнік-майстар, які ўдасканаліў і стварыў сямейства цымбалаў, К. Сушкевіч, адзін з першых яркіх цымбальных дуэтаў С. Навіцкі і Х. Шмелькін і, вядома, першая спявачка, якая супрацоўнічала з ансамблем, — Л. Александроўская... Сярод тых, хто ў розныя гады ўносіў сваю лепту ў творчую працу калектыву, — В. Барсаў, Е. Енін, С. Ратнер, Г. Алоўнікаў, Ю. Яфімаў, А. Энгельбрэхт, В. Мнацаканаў, С. Сакалоў, М. Гапееў. Сёння ж поруч са мной творча працуе наш выхаванец, рознабакова адораны музыкант Аляксандр Крамко. Пералічыць усіх, хто быў творча звязаны з нашым аркестрам, пайменна, на жаль, немагчыма... Таксама выказваю самую гарачую ўдзячнасць кампазітарам, якія стваралі і ствараюць для нас цудоўную музыку, выканаўцам-спевакам ды інструменталістам, якія імкнуліся данесці гэтую музыку да сэрцаў слухачоў, усім сябрам — аматарам і знаўцам беларускага народна-інструментальнага мастацтва.**

Вядома, 70 гадоў творчага жыцця мастацкага арганізма немагчыма ўявіць у выглядзе гладкай дарогі да вяршыняў Алімпа. Але нягледзячы на досыць натуральную чараду ўздымаў і спадаў галоўныя дырыжоры І. Жыновіч і М. Казінец заўсёды захоўвалі вернасць народнай, сур'ёзнай класічнай і лепшым узорам сучаснай музыкі, звяртаючы ўвагу на праблемы мастацкага і тэхнічнага росту аркестра.

**— Так, я шчыра падзяляю пэўную заклапочанасць становішчам, што склалася, калі часам назіраецца зніжэнне выканаўчага ўзроўню аркестра, — гаворыць М. Казінец. — Мы можам і павінны стаяць на самай высокай прыступцы народна-інструментальнага выканаўчага майстэрства.**

**Прычыны некаторага застою ў тым, што нельга працяглы час эксплуатаваць адны і тыя ж, нават самыя арыгінальныя, формы выканальніцтва (своеасаблівыя канцэртныя "дывертысменты"). Неабходна выкарыстоўваць пастановачныя элементы, улічваць прыроду, манеру, стыль ігры аркестра ў цэлым ды індывідуальныя рысы кожнага яго артыста, саліста. Для гэтага патрабуецца смелы пошук, імкненне абуджаць творчы патэнцыял музыкантаў, калі хочаце, здзяйсняць адкрыцці. Што, на мой погляд, і ажыццяўлялася ў нашым юбілейным годзе. Праведзена цэлая серыя канцэртных выступленняў пад рубрыкай: "Насустрач 70-й гадавіне народнага аркестра". Калектыў з пачуццём вялікай адказнасці падышоў да місіі асветніцтва і прапаганды сваёй творчасці. З вялікім поспехам прайшлі канцэрты нашых выдатных салістаў, заслужаных артыстаў Беларусі Святланы Лясун і Аляксандра Крамко. Адна з найбольш яркіх зорак у нашым калектыве, цудоўная цымбалістка, лаўрэат многіх музычных турніраў Ларыса Рыдлеўская, безумоўна, успрымаецца ўпрыгожаннем кожнага канцэрта. Індывідуалізацыя выканаўчага аблічча аркестра адбываецца ў значнай ступені менавіта праз яркія індывідуальнасці салістаў, выхаванню якіх калектыў надае асаблівую ўвагу і значэнне Дуэты, трыо баяністаў, ансамблі дудароў, цымбалістаў садзейнічаюць выяўленню больш багатага спектра і разнастайнасці форм пабудовы праграмы канцэртаў.**

**Асаблівая ўдзячнасць — кампазітарам за цеснае супрацоўніцтва з нашым аркестрам: А. Мдзівані, Д. Смольскаму, Я. Глебаву, Г. Вагнеру, Ю. Семяняку, В. Іванову, В. Помазаву, А. Рашчынскаму, У. Кур'яну, В. Кузняцову, а таксама творцам-аматарам В. Малых, А. Крамко. На вялікі жаль, некаторых з пералічаных ужо няма з намі, але памяць пра іх жыве ў нашым калектыве.**

●

Цудоўны аркестр, адметны і вялікі творчы шлях... Зроблена вельмі шмат. А наперадзе — новыя і новыя мастацкія рубяжы, на якія наканавана выйсці музыкантам-жыновічаўцам.

**Міхась СОЛАПАЎ**

*На здымках: кампазітар І. Лучанок з І. Жыновічам; гарэзлівыя найгрышы; лаўрэат міжнародных конкурсаў Л. Рыдлеўская.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА і з архіва "ЛіМа"*

УРАЖАННЕ

# Адноўленая старонка гісторыі

Хто толькі ні наракае сёння на цяжкасці нашага жыцця. Размовы пра творчасць усё часцей зводзяцца да праблем фінансавых, матэрыяльных. Тым не менш, і ў наш, сапраўды складаны час, адбываюцца падзеі, якія не могуць не радаваць прыхільнікаў мастацтва і тэатральную грамадскасць. Менавіта ў 90-ыя гады беларуская навука аб тэатры ўзбагацілася значнай колькасцю выданняў. З'явіліся кнігі пра знакамітых дзеячаў беларускай культуры І. Буйніцкага, М. Кавязіна, Ф. Аляхновіча, акцёраў Г. Глебава, С. Станюту, З. Канапельку, В. Тарасава. Выйшлі ўспаміны дырэктара тэатра імя Я. Купалы Ф. Алер, актрысы гомельскага тэатра Н. Карнеевай, слынных майстроў купалаўскай сцэны Галіны і Мікалая Яроменкаў. Калі прыгадаць працы Р. Смольскага, Г. Барышава, Р. Баравіка, новае выданне хрэстаматыі па беларускім тэатры і драматургіі, падрыхтаванае А. Сабалеўскім, агляды тэатральных сезонаў і шматлікія зборнікі, то відавочна, што жыццё наша не спынілася, і, прынамсі, у галіне айчыннага тэатразнаўства назіраюцца адчувальныя зрухі.

Сведчаннем гэтага стаў выхад летась кнігі "Лёс аднаго тэатра" Г. Герштэйн, дзе разглядаецца дзейнасць Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР, пра які не вельмі прынята было пісаць раней. Праўда, у трохтомнай "Гісторыі беларускага тэатра", выдадзенай у 80-ыя гады, ёсць раздзел, прысвечаны гэтаму калектыву, аднак, па зусім зразумелых прычынах, ён у рэчышчы тагачасных ідэалагічных абмежаванняў.

Кніга Ганны Герштэйн "Лёс аднаго тэатра" захапляе з першых старонак. Яна арганічна спалучае грунтоўны тэатразнаўчы аналіз і вельмі ўсхваляванае, эмацыянальнае стаўленне аўтара да падзей, што робіць яе лёгкай для ўспрымання як навукоўцаў, так і звычайных прыхільнікаў сцэнічнага мастацтва. Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што тэатразнаўца па адукацыі, Г. Герштэйн была дачкой акцёраў яўрэйскага тэатра. Яе даследчыцкая праца заснавана не толькі на сухіх архіўных матэрыялах, артыкулах, рэцэнзіях, але і на асабістых уражаннях, жывых успамінах аб спектаклях і людзях, якія іх стваралі.

Крок за крокам аўтар аднаўляе гісторыю Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, які быў адкрыты ў 1926 годзе на базе выпускнікоў Маскоўскай яўрэйскай студыі, і скончыў сваю дзейнасць у 1949 годзе. Апынуўшыся ў эпіцэнтры яркага, бурлівага жыцця Масквы 20-ых гадоў, навучэнцы знаёміліся з рэалістычным мастацтвам рускіх класічных тэатраў, далучаліся да новай, незвычайнай эстэтыкі У. Меерхольда, Я. Вахтангава, А. Таірава. Праца з выдатнымі рэжысёрамі і акцёрамі А. Дзікім, В. Сахноўскім, С. Гіяцынтавай, М. Тарханавым, І. Меерхольд, мастакамі Г. Якулавым, А. Тышлерам не толькі спрыялі набыццю прафесіяналізму, але і ўзбагачалі ўнутраны свет, пашыралі інтэлектуальныя і адукацыйныя магчымасці студыйцаў. Адчуўшы на сабе ўплыў розных эксперыментальных школ, тэатр паступова выпрацоўваў свой метад і стыль, якія фарміраваліся пад непасрэдным уздзеяннем буйных дзеячаў беларускай культуры М. Рафальскага, В. Галаўчынера, Л. Літвінава.

Постаці гэтых творцаў паўстаюць на старонках кнігі ёмістымі, маштабнымі. Аўтар валодае талентам даць аб'ёмную характарыстыку рэжысёрам і адначасова глыбока выявіць іх чалавечую індывідуальнасць. Яна пранікае ў звычайна схаваныя таямніцы творчай лабараторыі майстроў і раскрывае перад намі іх адметнасць, непаўторнасць. Пры гэтым аўтар пазбягае як разбуральна-крытычнага адмаўлення мінулага, так і ідэалізацыі дзеячаў сцэны. Г. Герштэйн тонка і далікатна даводзіць, што ўсе яны былі людзьмі свайго часу, верылі ў яго ідэалы і ўвасаблялі іх у сваёй творчасці.

Такі ж удумлівы падыход уласцівы і аналізу спектакляў. Аўтар вобразна і ярка аднаўляе своеасаблівую эстэтыку, стылістыку пастановак "Свята ў "Касрылаўцы" паводле Шалом Алейхема, "Глухі" Д. Бергельсона, "Вальпонэ" Б. Джонсана, "Суламіф" А. Гольдфадэна і шмат іншых. Разам з тым у кнізе паказана, што многія сцэнічныя творы непазбежна неслі на сабе адбітак тагачасных нарматыўных установак. Так, у прыватнасці, адзначаецца, што ў спектаклі "На пакаянным ланцугу" І. Пераца рэжысёр М. Рафальскі імкнуўся "перш за ўсё выявіць сацыяльны канфлікт, зрабіць асноўнай тэмай процістаянне паміж багатымі і гаротнікамі, жабракамі. Аднак такога матэрыялу ў драматургічнай аснове было недастаткова". Як даніна часу ўспрымаецца і трактоўка Л. Літвінавым п'есы "Фуэнта Авехуна" Лопэ дэ Вегі, дзе, на думку аўтара, не толькі ўзбуйнялася антыпрыгонніцкая тэма, але і "на хвалі барацьбы з догмамі царквы, рэлігійным цемрашальствам (як гэта называлася ў нас тады, у 30-ыя гады) ён уводзіць тэму антыклерыкальную". Такі гістарычны, навуковы падыход аўтара да ацэнкі тэатральных з'яў выклікае асаблівы давер.

Прываблівае ў манаграфіі і тое, што яна пазбаўлена сенсацыйнага выкрыцця і істэрыі наконт "яўрэйскага пытання", што ўласціва, на жаль, многім сучасным публікацыям. Тут ёсць мудрае асэнсаванне гісторыі, шчыры боль аўтара за тэатр, за трагічны лёс яго першага кіраўніка М. Рафальскага, які падзяліў лёс У. Галубка і многіх іншых дзеячаў беларускай культуры.

Кніга "Лёс аднаго тэатра" пабачыла свет дзякуючы фінансавай падтрымцы арганізацыі "Джойнт" і прываблівае талентам і прафесіяналізмам аўтара, рэдкімі фотаздымкамі, змястоўным дадаткам, сучаснай паліграфіяй. Галоўнае ж, манаграфія поўна і ўсебакова аднаўляе для нашых сучаснікаў невядомыя старонкі гісторыі Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР. Тэатра, які па сведчанні аўтара "быў народжаны часам і выявіў час, увабраўшы ў сябе лепшыя рысы яўрэйскай, беларускай і рускай тэатральнай культуры, дакладней, яўрэйскай культуры на беларускай зямлі".

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

СУСТРЭЧЫ

# У гонар Народзінаў Хрыстовых

Ва ўтульнай зале музычнай школы духавых інструментаў N 14 г. Мінска адбыўся святочны канцэрт, прысвечаны Ражству Хрыстову. Зала была перапоўнена, прысутныя сядзелі і стаялі паміж радамі крэслаў.

З цёплымі словамі выступіў дырэктар музычнай школы Ігар Пятроў. Ён павіншаваў усіх гасцей з Ражством Хрыстовым, Новым годам, новым стагоддзем, новым тысячагоддзем.

Святочны канцэрт распачалі фанфарысты і духавы аркестр на чале з Яўгенам Паддубоцкім. Публіку прывабіла выступленне музыкантаў, якія заўсёды з поспехам удзельнічаюць у святочных імпрэзах.

Цікавым, хвалюючым быў момант — гэта ўрачыстая цырымонія прысвячэння вучняў у музыканты і выкананне імі інструментальных твораў разнастайнага жанру кампазітараў сусвету.

Паказаў сваё майстэрства эстрадны джазавы аркестр пад кіраўніцтвам маэстра Генадзя Летынскага, а ўдзельнікамі былі вучні, выкладчыкі і выпускнікі школы.

Жаданымі гасцямі былі Снягурка і Дзед Мароз з торбай падарункаў, жартаў і забаў. Напрыканцы святочнага канцэрта яны разам з дзіцячым хорам выканалі песню, прысвечаную Ражству Хрыстову.

**Ларыса ІЎЛІЕВА**

# "Мастацтва", N 12

У сваім апошнім за мінулы год нумары часопіс "Мастацтва" завяршае публікацыю даследавання У. Конана "Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу": змешчаны раздзел "Паэзія і красамоўства: мастацкія і тэарэтычныя аспекты". Алена Яскевіч выступае з артыкулам "Старабеларуская марыялогія ў анталагічных даляглядах". Некаторыя старонкі гісторыі беларускага кіно перагортвае Е. Бондарава — "Чэмпіёны кінапракату". Сярод іншых матэрыялаў — "Варыяцыя на тэму флейтаў" І. Сырыцы, "Я люблю Карнееву" Н. Цыпіса, "Марковічы" А. Ільіна, гутарка В. Трыгубовіч з мастаком С. Цімохавым "Род — радзіма, прырода, радня", уражанне Э. Істамёнак ад выстаўкі твораў Л. Грышука "Пошукі ісціны і любові", фестывальны роздум Т. Пладуновай "Беларуская полька". У сябе дома — на покуці!". Пра творчасць кампазітара У. Кандрусевіча ("Шлях") разважае М. Мдзівані. Пра першага ілюстратара "Вайны і міру" Л. Талстога М. Башылава расказвае Д. Мароз — "Ожидаю ваши рисунки и того подстрекающего чувства, которое они вызывают во мне...". А Н. Саўчанка ("Святлапіс на агнявую тэму") знаёміць з адным з першых беларускіх фатографаў і... прафесійным работнікам пажарнай службы Р. Міранскім. Багаты на паведамленні раздзел "Дыскаграфія".





## Бяда не зламала

Віктару КУДЛАЧОВУ — 65



Родная вёска Віктара Кудлачова — Сласцёны. Цяпер яна ў складзе Дрыбінскага раёна. Ёй паэт прысвяціў такія радкі:

*Вёсачка радзімая,*
*Цудоўная мая,*
*Ты ў мяне адзіная,*
*Цябе кахаю я.*
*З маленства я ўлюбёны*
*І сэрцам і душой*
*У родныя Сласцёны —*
*Куточак родны мой.*

У 1944 годзе В. Кудлачоў пайшоў у першы клас, але ўлетку 1945-га падарваўся на міне і страціў зрок. З 1947 года прадаўжаў вучобу ў спецшколе для сляпых дзяцей у Гродне. Адначасова займаўся па класе баяна ў дзіцячай музычнай школе. У 1958 годзе скончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча і пачаў працаваць настаўнікам спеваў і музыкі ў Гродзенскай школе-інтэрнаце для сляпых і з аслабленым зрокам дзяцей.

У 1972-м выступіў з першым сваім вершам на старонках газеты "Гродненская правда". У В. Кудлачова выйшлі кнігі "Я расту", "Я сам", "Нарисую город Гродно", "Едет радость", "Здравствуйте, дети", "Как медведь ходил за медом", адрасаваныя дзецям, а таксама "дарослыя" — "Встреча" і "Дали дорог". Друкаваўся ў калектыўных зборніках. Асобныя вершы В. Кудлачова ўключаны ў падручнікі для пачатковых класаў. Плён супрацоўніцтва В. Кудлачова з рускім кампазітарам Генадзем Чабаковым, які жыве ў горадзе Кургане (Расія), — 60 песень для дзяцей.

З днём нараджэння, Віктар Сямёнавіч! Жадаем вам і надалей заставацца ў жыцці і творчасці аптымістам!

## "Роднае слова", N 12

Галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" М. Шавыркін звяртаецца да чытачоў з роздумам "Дайсці да Беларусі". Заканчэнню даследавання Б. Плотнікава "Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў" папярэднічае артыкул Л. Антанюк і В. Трайкоўскай "Імя ў лінгвістыцы", у якім аўтар даследавання віншуецца з 60-годдзем. Змешчаны нататкі А. Астраух пра паэзію Р. Барадуліна "Долі інакшай не трэба зямной...". Беларускую літаратуру Беласточчыны разглядае А. Раманчук ("Вялікае бачыцца здалёк"). Артыкул Ж. Шаладонавай называецца "Эстэтыка мроі ў паэме Якуба Коласа "Новая зямля" і ў аповесці Міхайлы Кацюбінскага "Fata morgana". Друкуюцца артыкулы Н. Старавойтавай "Аповесць пра Трышчана": сінтэз стыляў Рэнесансу і барока", З. Сіцькі "Сігнал" у будучыню" (перакладчыцкія спробы М. Клімковіча), Т. Федарцовай "З гісторыі цвёрдых жанравых формаў", К. Шальманавай "Пра некаторыя разыходжанні ў фразеалагічных мікрасістэмах", В. Рагаўцова "Ідыялектныя клішэ ў мове персанажа", М. Жуковіча "Рэцэнзія — праца творчая", Алены Яскевіч "Ля вытокаў палемічнай лініі старабеларускай кніжнасці", заканчэнне артыкула Л. Лыча "Шлях беларускага слова ў касцёл". Рэкі і азёры ў паэзіі Р. Барадуліна — тэма даследавання А. Карлюкевіча "...Як ацішэць, абымшэць, адтаць?". У рубрыцы "Літаратурны ветразь" М. Скобла прадстаўляе паэта Ю. Карэйву. А. Кулагін знаёміць з радзімай аднаго з нашых знакамітых землякоў ("Сядзіба Скокі. Юльян Урсын Нямцэвіч"). Л. Захлеўны расказвае пра салістку ансамбля "Бяседа" Н. Раманскую, тут жа можна пазнаёміцца са словамі і нотамі песень, якія яна выконвае. Часопіс уводзіць новую рубрыку "Шматгалосае рэха", якая "будзе спрыяць знаёмству чытачоў з творамі беларускай літаратуры, якія сталі мастацкімі з'явамі іншых літаратур. Пра перастварэнні санета А. Міцкевіча "Да Нёмна" расказвае У. Мархель ("Дзе хвалі тые?"). У сувязі з 70-годдзем М. Арочкі змешчана падборка яго вершаў.



ПОШТА

Галіна ВЯЗІЦКАЯ



### Тамашу Ляшонку

*Як сок салодкага ранета,*
*Як хмель у маладым віне,*
*Я палюбіла верш паэта,*
*Хоць ён гучаў — не для мяне.*

*Як песню кропляў вадаграю,*
*Як радасць ветраных надзей,*
*Я прыняла душой "кахаю"*
*Двух незнаёмых мне людзей.*

*О, як узнёсла, як высока,*
*Як пафасна паэт пісаў!..*
*І я ляцела за аблокі,*
*Туды, увысь, дзе ён кахаў,*

*Дзе пырскі пеністых напояў*
*І так спакойна ад таго,*
*Што ўсё маё — было са мною,*
*Ды мне было — не да свайго,*
*Бо*
*Як салодкі сок ранета,*
*Як хмель у маладым віне,*
*Я палюбіла верш паэта,*
*Хоць ён гучаў — не для мяне...*

### Язэп Драздовіч

*Майстар слова, пэндзаля, вандроўнік,*
*Што прайшоў дарог-шляхоў нямала...*
*На яго прыдзісненская роўнядзь*
*Настальгію часам наганяла.*

*І тады ў палоне дум самотных*
*Аб сваім няўдалым горкім лёсе*
*Ён пісаў, і на яго палотны*
*Каляровых зор святло лілося.*

*Ажываў мальберт ад краявідаў,*
*(Фантазёр, ён бачыў іх даволі!), —*
*З-пад рукі сыходзілі "Луніды"*
*І недасягальны "Артаполіс".*

*Кожны дзень ён пражываў нанова,*
*І блукаў па свеце адзінокі:*
*Вось Лужкі, Баяршчына, Ляскова,*
*Летнікі, Балбекі, Празарокі...*

*Што за лёс? Суцэльная вандроўка!*
*Быў вальнейшы ён за вольны вецер.*
*Ён ішоў, і поступ яго крокаў*
*Адзываўся рэхам у Сусвеце.*

•

*А жанчына — як на іконе!*
*На руках трымае дзіця.*
*Завіток лагодны ля скроні —*
*Вось яна, прыгажосць жыцця.*

*Патаемная лёгкасць косаў,*
*У вачах — спакой чысціні.*
*Для яе — вышыня нябёсаў*
*І бурштынавых зор агні.*

*Цеплынёй агарнецца ночка*
*(Ці ж няма на тое прычын?),*
*Яе сэрца ружовай шчочкай*
*Саграваe маленькі сын.*

*Перад гэтай вялікай тайнай*
*У паклоне схіліўся свет.*
*Ёй прысвечаны незвычайны,*
*Самы вытанчаны санет.*

*І узвысіцца род чалавечы*
*Над прасторай зямнога быцця —*
*На руках у жанчыны — Вечнасць!*
*На руках у жанчыны — Дзіця!*

•

*Маё жыццё буяе пад блакітам,*
*Маё жыццё шарэе, бы ў імжы;*
*То абаўе шыкоўным аксамітам,*
*То як па шкле пабітым прабяжыць.*

*Не каюся за здзейсненыя ўчынкі*
*І не лаўлю былых імгненняў цень,*
*Ды з даўняй фатаграфіі дзяўчынкай*
*Так здзіўлена гляджу ў сучасны дзень...*

•

*Запарошыла снегам зіма,*
*Залюляла на сон прыроду...*
*Ты прабач, я не знала сама,*
*Што пайду назаўсёды.*

*І былі у наплывах святла*
*Зорных кропляў разводы...*
*Я і думаць тады не магла,*
*Што іду назаўсёды.*

*Працягнуць бы спакойна руку*
*На паўкрока ад згоды...*
*Ды са снегам, па крохкім лядку*
*Я пайшла назаўсёды...*

•

*А ты мяне ніколі не любіў.*
*І ў нелюбові ты не меў спачыну.*
*І цвіў палын. О, як ён шчыра цвіў*
*Над доляю самотнае жанчыны!*

*І дзень канаў, і нараджаўся дзень,*
*І зоркападам вечар асыпаўся,*
*І праз вуальку страчаных надзей*
*Няўмольны смутак моўчкі прабіваўся.*

*Вясельных песень змоўклі галасы,*
*І памяць адступае нетаропка*
*На ўзбочыну жыццёвай паласы,*
*Дзе мы з табою крочым паасобку,*

*Дзе палыном шчыруе недавер*
*Вакол такое звілістай сцяжыны...*
*Што ж ты прыпаў, халодны кавалер,*
*Да горкіх губ самотнае жанчыны?*

г. Глыбокае

# Зацемкі з левай кішэні

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

***Плачет погорелец на золе,***
***Плачет мать над люлькою пустой,***
***Плачет крепкий камень под пятой.***

А ўсё-ткі добра, што я натрапіў на гэты нумар часопіса — і знайшоў-такі свой кут там і адагрэўся...

❑

Адзінае, што было, — гэта бацькі. Адзінае, што ёсць, — гэта дзеці. *Адзінаю* будзе й памяць...

❑

Сяджу на кухні, слухаю "Правінцыю" Віктара Шалкевіча — і плачу паціху, міжвольна...

Слухаючы Шалкевіча, наўрад ці хто плача, бо над ім можна толькі горка ды іранічна пасміхацца... як над самім сабой...

Але я — плачу, бо сам іраніст і ведаю кошт гэтай сённяшняй беларускай самаіроніі...

Дзякуй, Віця, што ўмываеш мяне *сваімі* слязьмі. Магчыма, я стану яшчэ чысцейшым...

❑

У рэшце рэшт, трэба нешта выбраць: жыць з *усімі* ці пісаць *аднаму*...

❑

"Памірае літаратура!" "Літаратура мёртвая!" "Няма літаратуры!"

Такі несусветны лямант стаіць у багемных і блізкіх да яго колах і тусоўках...

І чорт з ёю, з гэтай нежывой літаратурай! Каму яна — мёртвая! — патрэбная?! Мы ж не якія-небудзь некрафілы...

Абмакнуўшы пяро ў чыстае семя, абцяжарым знаёмыя словы новым зместам...

❑

Янка Купала напрыканцы паэмы "Адвечная песня":

***Раскрыйся нанова магіла:***
***Страшней цябе людзі і свет.***

Святая праўда, мастацкая.

Альбо — заключная страфа з яго ж ранняй паэмы "За што?":

***А яны раскажуць***
***Аб маёй старонцы,***
***На якую глянуць***
***Страшна нават сонцу...***

Таксама — праўда, але надзённая і сярмяжная.

❑

Аднойчы я прачнуўся — і зразумеў, што ўжо не паэт... Адбылося глыбокае расчараванне ў самім сабе і яснае зразуменне таго, што Паэт — гэта не назаўсёды... Назаўсёды — гэта ПАЭЗІЯ.

❑

Саромлюся многіх сваіх вершаў... Вельмі многіх...

❑

Недзе да трыццаці гадоў жанчыны для мяне, вясковага наіўнага дуралея, былі чымсьці святым і недакранальным... Да самай жаніцьбы не пакідала боязь заставацца з імі тэт-а-тэт... Я так любію і абагаўляю іх боскае вызначэнне, што, здаецца, баюся за іх нявіннасць больш, чым яны самі...

# КОЛА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

ты лічыш, што твая белмова дасканала не перакладаецца, не, маўляў, трэба разам з глебай, — на чужой зямлі яна не прыжываецца, бы нейкае рэліктавае дрэва. Ну проста боскае пахаджанне мовы, і над усімі! Ты бышцам увесь свой век пацеры мовіш, маўляў, душа павінна быць высокай, а жаль скіраваны ўніз, да простага чалавека. А ад іх трэба ратавацца, абараняць свой свет, трымацца на адлегласці, каб вочы не зацерушылі сваімі прымхамі. Не баішся іхняй прастаты, сама апранаешся, каб хаця не выдзяляцца, а вёска мысліць катэгорыямі беднасці ці поспеху, і скарэй зняважыць цябе за тваё скаромнае. Памятаеш, посылку даматканую, сялянскую ўбачылі на ложку, і пайшло па вёсцы, маўляў, во як яшчэ бедна людзі жывуць!.. Прабач, ты розумам усё гэта не абмяркоўваеш, толькі левы жалудачак сэрца працуе. І паспрабуй табе што параіць ці запярэчыць, ты адно і тое: "Я не бязродная — яны з майго гора, яны з майго гора". У табе памірае інтэлігент!

— А, можа, толькі нараджаецца?

— І наогул, чакаю, каб хутчэй скончыўся век гэтых старых, пакалечаных войнамі, панамі, калгасамі людзей!

— А далей што?

— На іхняе месца, можа, прыйдуць інакшыя, без гэтай прагавітасці, залежнасці ад зямлі, і нешта лепшае пабудуюць. Калі хочаш ведаць, мне таксама зразумелая агіда Акутагавы да глухмені, як і нашаму Глобусу!

— Агіда?! Усё, што набыла, твая цывілізацыя, на жаль, не ад маці сваёй, а сабрана па чужых, па свеце, не забывайся. І за тваімі новымі будаўнікамі, аб якіх гаворыш, няма легенды: ні звычаяў, ні абычаяў...

— Затое "легенда" ёсць у маёй цёткі, у сябе!

Не хачу адзывацца, зараз пляменніца ўспомніць мне самае крэўнае, як вывозілі па начы на Алтайскія руднікі з асады Соўчына маіх бацькоў. Пакуль дазналася маміна сястра, сялянка, усё ўжо было разрабавана, толькі вазоны на вокнах засталіся. Узяла сабе адзін на памяць. І яблыні вясной, хаваючыся, павыкопвалі, а яна нічога не магла зачапіць — жаль браў. Ніхто не паасцярогся, што самая бедная ў вёсцы, і асаднік Антэк быў надта хвалёны. І будзе потым сёння сніцца бацькаў сад, уся вёска ў зімовай квецені, а вуліца скрозь заросшы густым, высокім гарохаўем — нагі не пераставіць. І нясу бышцам той вазон ужо сама, і няма яго каму пакінуць, ад'язджаючы ў горад, каб не засох...

Не, не паспела пляменніца ўспомніць: ляпнулі дзверы, на парозе тая самая баба, кажа, адвезла нашае кола, толькі дзве спіцы ў ім паламаліся, бо не змазанае было.

— Дык што, я павінна была тое кола ей змазаным трымаць?! — раптам весела засмяялася пляменніца, расчуленая бездапаможнасцю перад сваёй няпомслівай прыродай.

І яшчэ нехта з суседзяў заходзіў, з поля ідучы, — ага, Надзя. "А ці чулі, людцы, — прыпынілася, — у тым канцы вёскі град усё чыста пабіў, а ў нас анічагуткі не зачапіў. Пэўна, што тутака ваш такі ўжо харошы дом стаіць!" І яшчэ нехта, звыкла, будзённа, і не ўспомніць па што, бы за пакінутым ключом. Толькі заўсёды, за кожным разам нейкая самотная трывога на хвіліну: а дзе ён, той ключ, ці то забылася, ці зусім не ведаю, дзе схаваны...

Выходжу на ганак, ужо шарэе, ужо якраз над галавой раскрыўся, развінуўся зорны купал паднябення, абазначыліся іншыя светы — заўсёды здаецца, што жыву ў самым цэнтры, пад самым высокім небам...

ВІНШУЕМ!

# Абсягі навукова-творчай думкі

## Міхасю МУШЫНСКАМУ — 70

***Міхась Іосіфавіч — родам з вёскі Мокрае Быхаўскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў рэдактарам Універсітэцкага выдавецтва, з 1956 года — навуковы супрацоўнік, з 1979-га — загадчык сектара, цяпер аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН.***

***У жанры крытыкі і літаратуразнаўства М. Мушынскі выступае з 1956 года. Аўтар манаграфіі "Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя "Новай зямлі" і "Сымона-музыкі", "Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы" (разам з Віктарам Каваленкам і Алесем Яскевічам), "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-ыя гады", "Беларускае савецкае літаратуразнаўства", "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 40-я — першая палавіна 60-х", "Каардынаты пошуку. Беларуская крытыка: набыткі, перспектывы", кніг "Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці", "І нічога, апроч праўды. Якой быць "Гісторыі беларускай літаратуры", "Няскораны талент"...***

***Міхась Мушынскі з'яўляецца адным з аўтараў "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры", "Истории белорусской дооктябрьской литературы", "Истории белорусской советской литературы" (за удзел у напісанні апошніх дзвюх у 1980 годзе ўдастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы). Сёння ж Міхась Іосіфавіч разам з іншымі даследчыкамі плённа працуе над стварэннем "Гісторыі беларускай літаратуры" ў чатырох тамах.***

***Як тэкстолаг, М. Мушынскі кіраваў падрыхтоўкай і ажыццяўленнем выдання навукова каментаваных Збораў шэрагу знакамітых беларускіх пісьменнікаў.***

***Віншуем Міхася Іосіфавіча, сталага лімаўскага аўтара, з 70-годдзем. Зычым яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і навукова-творчым страі!***

Міхась МУШЫНСКІ



# Клімчыкі. Мокрае. Вайна

ФРАГМЕНТЫ НЕНАПІСАНЫХ УСПАМІНАЎ

## Вёска

Сапраўды, кожная вёска — гэта цэлы свет. Каб хапіла часу, пра маю родную вёску Мокрае, што ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці, можна было б напісаць не адзін раман. Такімі каларытнымі паўстаюць фігуры аднавяскоўцаў. Іх паводзіны, учынкі, мова.

Успомніць хоць бы мянушкі. Прычым адкуль узялася тая ці іншая мянушка — ніхто не ведаў. Быў у вёсцы Іван, які меў мянушку Вуцар. Чаму "Вуцар", цяжка сказаць. Але як каларытна гучыць! Такое не прыдумаеш знарок. У іншага мянушка — Шлапка. Што такое "шлапка"? Пэўна, той, хто клэпае, шлэпае. Або яшчэ — Павел-Таўкадуб. Гучыць не горш, чым славутае "Паша-мерседэс". Сына Івана Буціна называлі Коля Кадацка. Быў Іван, якога называлі Венчык. Быў яшчэ адзін Іван — Іван-Мэм. Нас, дзяцей Мушынскіх, называлі Клімчыкі, паколькі мой прадзед быў Клім.

У маіх бацькоў, Марфы Іванаўны і Іосіфа Кірылавіча, было чацвёра дзяцей. Старэйшы брат, Іван, нарадзіўся ў 1930 годзе. Я — праз год. Меншы брат, Толік, у 1937-м і, нарэшце, сястра, Валечка — у 1938-м. Мы ўсе трое — студзеньскія хлопцы.

Маці мая была адзінай дачкой у сваіх бацькоў — Аксінні Раманаўны Пісарэнкі і Івана Крукоўскага. Бацькаў род больш разгалінаваны. У дзеда па бацькавай лініі, Кірылы Мушынскага, было пяцёра сыноў. Ягор, Іван, Фёдар, Антон і нарэшце малодшы, Іосіф, мой бацька. Усе мае дзядзькі былі вельмі таленавітыя людзі. І пра кожнага з іх можна расказваць асобна. У кожнага з бацькавых братоў было не менш за чацвёра дзяцей. Усе дзядзькі жылі ў Мокрым.

Бацька спачатку быў за тэлеграфіста ў Быхаве. А потым падвучыўся і пайшоў у Магілёў дыспетчарам на чыгуначную станцыю. Працаваў па 12 гадзін. Магілёў і да вайны з'яўляўся буйным чыгуначным вузлом. У размовах бацька прыгадваў розныя гарады і населеныя пункты, напрыклад, Навазыбкаў. А гэта ўжо Расія. Магілёў як чыгуначная станцыя кантраляваў вялікі адрэзак дарогі. Ажно да Гомеля. Былі і дарожныя здарэнні. Бывала, нехта пад цягнік трапляў, здаралася аварыя. Бацька ўсё гэта моцна перажываў. Гаспадаркай ён мала займаўся. Хоць і любіў касіць, добра ўпраўляўся з конямі.

Росту бацька быў невысокага, але зграбны, прыгожы з твару. І надта хораша спяваў. Голас мяккі, багаты на інтанацыі, вельмі прыемны. Дужа любіў я бацькавы спевы. І ў любой кампаніі Юзік - так сябры між сабой называлі бацьку — быў заўжды жаданым госцем. Калі на добрым падпітку вясковыя хлопцы пускалі ў ход кулакі, бацька выступаў пасрэднікам, за што яму часцяком перападала і ад адных, і ад другіх. Але сваёй "міратворчай" місіі не кідаў.

Вельмі добра памятаю тую хату, у якой жылі да вайны. Добра збудаваная, пяцісценак. На дзве палавіны. Адна — чыстая, вокнамі выходзіла на вуліцу. А ў другой палове хаты — кухня, печ. Досыць шырокі, прасторны двор. Вялікая пуня, клець — асобнае збудаванне, дзе стаяла зерне і прадукты, якія не баяцца марозу. Клець цёмная, з маленькім акенцам. Паднавес спалучаў клець і стопку, дзе захоўваліся бульба, буракі. Зімой стопку прагравалі. Брама была, фортка, высокі плот з бярвення. Трымалі карову, цялё, свіней. Пэўны час — авечак. Сена і дровы куплялі.

## У бежанцы

Як пачалася вайна, мне споўнілася дзесяць з паловай гадоў. І такое было абвостранае ўспрыманне ўсяго... Памятаю многія дэталі, падрабязнасці, хоць з таго часу колькі дзесяцігоддзяў мінула. Цяперашнія падзеі, можа, і не так запамінаюцца. А тое, што ў маленстве — яно, сапраўды, незабыўнае. Калі пайшоў у школу, я сёе-тое запісваў — для памяці. Але хто тады тыя запісы цаніў? І ў гады вайны, і пасля вайны жылося вельмі цяжка.

Як у вёсцы пачалася страляніна, бачу, праз нашу вуліцу, праз гароды бяжыць салдацік. Ён ужо вінтоўку кінуў, пілотку трымае ў руках, рамень расшпіліў і таксама кінуў, каб лягчэй бегчы. Бег у бок Дняпра.

Нашы — амаль няўзброеныя. А немцы іх гналі на танках. Танкі падышлі з-за рэчкі, ад вёскі Трысцівец. І трасіруючымі пачалі біць па апошнім цягніку, які ўжо адыходзіў. Бо чыгунка — побач з Мокрым. Танкі і запалілі вёску. Можа, яны і няўдоўга стралялі. Можа, каб загадзя была падрыхтавана вада, пясок, можна было і патушыць... Але хто ж ведаў, што так будзе?

Многія хаты згарэлі. Успыхвалі імгненна. Хата Жукавых была побач з намі, яна першая і загарэлася. Ад яе полымя на нашу перакінулася. Можа, каб мужчына быў у доме... Але паколькі бацька да вайны працаваў чыгуначнікам, яго адразу змабілізавалі. Як толькі пачало гарэць, бабуля Аксіння паспела залезці на гарышча, каб пазнімаць рэчы, якія там захоўваліся, паскідала іх уніз. А мы, дзеці, ускочылі ў хату. Пытаемся ў маці: "Што браць?" Яна нам: "Што можаш, што пацягнеш, тое і вынось..."

Вельмі шкадавалі, што згарэла цялё. Карова была на пашы, а цяля на нозе хворае было. І дровы згарэлі, і пуня, і стопка, і клець, і хата. Адным словам, босыя на вогнішчы. Пайшлі ў глінабітку, якая стаяла каля чыгункі, адтуль было добра відаць, як дагарала вёска. Не ўся згарэла. Канец вёскі і пачатак — засталіся. Але выкаціла шмат. Асабліва ў сярэдзіне.

Страляніна. Хаты няма. Жах! Уражанне, што свет рушыцца. Маці плача, разгубленая. Але ж трэба нешта рабіць, трэба малых ратаваць. Перад маімі вачыма, як насланнё, усё стаяла хата ў полымі пажару.

Мамін стрыечны брат, дзядзька Міша, запрог двух коней. Ноч перачакалі ў глінабітцы, а пад раніцу, калі сонца яшчэ не ўзышло, а толькі пачало світаць, паехалі ў бежанцы. Спачатку ў Касічы, а потым у Людкоў. Бо праз нашыя вёскі ішла лінія фронту. Чырвоная Армія замацавалася на левым беразе Дняпра, а немцы адразу фарсіраваць раку не маглі.

На адной фурманцы — Іван, яму адзінаццаць, я, Толік, яму чатыры, і Валечка — ёй тры гадкі. Дзеці, лічы. Конь ледзь цягне. Баба Аксіння і мама ішлі пехатою. На другім возе — дзядзя Міша, ягоная жонка Цёця Дуня (у іх хата таксама згарэла) і Полька, Паліна Міхайлаўна, іхняя дачушка.

Да гэтага часу памятаю тую дарогу — абрывы, чырвоная гліна. Сонца ўзыходзіць... Ехалі доўга. Прыехалі ў Касічы да сваякоў. Размясціліся нас у нейкай хаце. Пабылі мы там трохі. Але ізноў узнялася страляніна. То купка чырвонаармейцаў ідзе, то немцы іх на танкетках даганяюць. Мы ж хацелі праехаць туды, дзе фронт ужо прайшоў.

Паехалі ў іншае месца — у Людкоў. Пасялілі нас у новай, толькі пабудаванай хаце. Але як напалі на нас ноччу клапы і блохі! Гэта была такая пакута! Трываць немагчыма! Кожную секунду цябе нехта кусае. Кажу: "Бабуля, не магу спаць!" Іван кажа: "Бабуля, і я не магу!" Пайшлі ў двор, на вуліцу. На возе як змаглі, так і леглі. А як бабуля і маці спалі, я і не ведаю. Адтуль, з Людкова, бабуля хадзіла пехатою ў Мокрае даіць карову. А потым і засталася там.

Калі мы вярнуліся назад, на сваё папялішча, прыйшла да нас баба Паўліна, жонка старэйшага бацькавага брата Ягора Кірылавіча, і кажа: "Ідзіце да нас! Сваякі ўсё-такі!" У хаце бабы Паўліны — яе сям'я і нас, дзяцей, чацвёра. Маці, Марфа Іванаўна, бабуля Аксіння Раманаўна. Было вельмі цесна. Усе мы спалі на адным ложку. Упокат, уноперак. Пад ногі падстаўлялі нейкую лаўку. Так мы перабылі зіму 41-га і пачатак 42-га года, а летам 42-га года пачалі будаваць новую хату.

## Новая хата

Ставіў яе Іван Кірылавіч. Выдатная асоба! Усё мог рабіць. Залатыя рукі. Цесля, столяр, печы складваў адмысловыя. Клопатаў, вядома, было шмат. Спачатку купілі трысцен. Купілі не хату, а стопку. Што такое "стопка"? Збудаванне, дзе зімой бульба захоўваецца. Вокнаў там няма, адны дзверы. Наймаюць талаку, завуць сваякоў, асабліва ў каго коні ёсць, і за дзень бярвенні перавозяць. Сценкі ў стопцы суцэльныя, значыць, потым вокны трэба рабіць. Усім гэтым займаўся Іван Кірылавіч.

Падруб — тое, на чым трымаецца хата, фундамент, павінен быць новы. Звычайна падруб робяць з камення ці з цэглы. Але іх не было. Мы рабілі звычайны, драўляны.

Дрэва было ўзята з кладбішча. У нас не казалі — "могілкі", казалі кладбішча. Гэта цэлая гісторыя, у якой адлюстроўваецца і дурнота начальнікаў, і разгубленасць перад небяспекай. Перад вайной савецкія ваенныя камандзіры загадалі спілаваць усе сасонкі на могілках. На ўзроўні чалавечага росту. Разлічвалі на тое, што дрэвы будуць перашкодай для танкаў. Так у нас рыхтавалі абарону. Але чаму танкі павінны абавязкова ісці на лес, калі побач чыстае поле? Смех!

Як толькі немцы дайшлі да Дняпра, калі страляніна заціхла, народ кінуўся на могілкі — хто з конямі, хто так, каб ссечаныя сосны забраць сабе. Пілаваць не было калі. Тапаром абсякалі галіны, на калёсы і — хуценька дадому! Шмат было эпізодаў і смешных, і трагічных — якіх заўгодна! Наш аднавяскоўец Кірыла Кавалеўскі разам з сынам прыбег на могілкі, нарабіў на дрэвах зачосаў і там напісаў: "Кавалеўскі", "Кавалеўскі". Шмат нарабіў такіх памет! Але адразу ж ён іх не пацягне! Ну, адно, ці два, ці тры — колькі конь зможа. А прыходзілі іншыя — і пакуль вазіў Кірыла бярвенні ў вёску, ссякалі гэты надпіс і надпісвалі сваё прозвішча: напрыклад, "Жукаў", "Жукаў", "Жукаў". Адшукай потым, што там было напісана раней! І сваркі ўзнікалі, і крыўда заставалася... Хто колькі мог, столькі бярвенняў і ўхапіў. Нам засталося адно ці два.

На пачатку вайны калгасы распусцілі. Раздалі коней, кароў. Нават калгасныя забудовы, стайню, кароўнік, таксама падзялілі. Нам дасталася адна сцяна, сценка свірна. Трэба ж было нейкі хлеў пабудаваць, бо карова заставалася адзіным паратункам сям'і з чатырма малымі дзецьмі.

Памятаю, восенню 1942 года, калі ўжо вырасла новая бульба, мы ўлезлі ў новую хату. Як перабіраліся, дык у нас нічога не было — апроч каровы. Адзенне — тое, што на нас. Вельмі бедна жылі, вельмі цяжка. Чацвёра дзяцей і дзве жанчыны... Маці расплацілася з Іванам Кірылавічам за работу зернем, якое мы сабіралі, аддала вельмі дабротны бацькаў касцюм.

У 1943 годзе Івана Кірылавіча забілі немцы. Дзядзька на санях ехаў разам з аднавяскоўцамі малоць збожжа ў суседнюю вёску, Зіма, раніца, туман. У Мокрым у той час стаялі немцы. Здаралася, яны з'язджалі, вёска два-тры дні была без немцаў, потым яны з'яўляліся ізноў. Абстаноўка тады была вельмі напружаная. Вакол партызаны. У немца, што стаяў на пасту, была зброя, напэўна, з аптычным прыцэлам. Ён — усіх і пастраляў, хто на возе ехаў. Аднаго, другога, трэцяга.. І як толькі хто спрабуе да воза падысці, ён зноў пачынаў страляць. Так гэтыя сані з кулямі зерня і з забітымі прастаялі ўвесь дзень. Якраз насупраць нашай хаты. Як неслі тры труны на могілкі, плакала ўся вёска...

## Пра партызанаў і гета каля Сапяжынкі

У час вайны ў вёску раз-пораз траплялі газеты, якія выдаваліся ў Мінску або ў Магілёве. Памятаю некаторыя малюнкі з тых газет, карыкатуры. Газеты змяшчалі карыкатуры на бальшавікоў, заклікалі: "Знішчайце жыдоў і камісараў, ворагаў нашага народа!", "Выдавайце партызанаў!" Але не памятаю, каб нехта некага выдаў.

Увогуле партызанам цяжка было трапіць у нашу вёску. Побач, у Быхаве, стаяў вялікі нямецкі ваенны гарнізон. У дадатак, побач знаходзіўся аэрадром. Пабудаваны да вайны, ён лічыўся адным з буйнейшых у Савецкім Саюзе, бо прымаў самалёты рознага тыпу. Немцы карысталіся аэрадромам — не толькі самой пляцоўкай, але і казармамі, ангарамі і г.д. Калі адступалі, усё ўзарвалі. Я гэта бачыў, бо аэрадром ад Мокрага — літаральна праз рэчку. Каля аэрадрома размяшчаліся трох-, чатырохпавярховыя казармы з цэглы. Раптам ты бачыш — гук узрыву яшчэ не даляцеў — дым, пыл... Потым дом развальваецца на тваіх вачах. Жудасна!

У 1942—1943 гг. немцы сапраўды лютавалі. Вестка пра тое, што немцы спальваюць вёскі, ды яшчэ і з жывымі людзьмі, імгненна далятала да Мокрага. Маўляў, гэта адплата, помста за дапамогу партызанам. Пачутае не толькі дарослых, але і нас, падлеткаў, кідала ў жах. Як гэта — згарэць жывым? А такі трагічны лёс напаткаў многія паселішчы, адны з іх недалёка ад нашай вёскі — Студзёнка, Гарадзец, Сяліба, Ветранка, крыху далей — Смаліца, Хамічы, Дабужа, Боўкі.

Бачылі мы, як немцы зганялі яўрэяў у гета. Яно знаходзілася ў Сапяжынцы. Шклоў, Магілёў, стары Быхаў, Рагачоў — гэта былі яўрэйскія цэнтры, праз якія раней праходзіла лінія аседласці. У Мокрым было мала яўрэяў. А ў Быхаве — шмат. І яны не паспелі эвакуіравацца.

Зімой 1941—1942 года, калі немцы ганялі нас, вясковых жыхароў, расчышчаць ад снегу грунтовыя дарогі, мы, дзеці, падлеткі, часам заходзілі ў школу ў Сапяжынцы, каб пагрэцца. Там, у былых класах немцы трымалі яўрэяў. Немцы думалі, што ў іх шмат золата. Памятаю, што ў школе было цесна. Шум, гам, крык. Там і хворыя людзі, і старыя... Усе з шасцікутовай зоркай. Апранутыя вельмі бедна. Асуджанасць нейкая ў тварах была. Немцы дазвалялі яўрэям хадзіць па вёсках, жабраваць. Баяліся яны чамусьці ў партызаны ісці. Як дзіця, я, вядома, не ўсё разумеў.

Памятаю, былі мы з маці на агародзе, аббівалі ячмень. Нехта з суседзяў сказаў, што яўрэяў расстрэльваюць. У нас ніколі не казалі "жыды". Казалі — "яўрэі". Чутны былі крыкі моцныя і чэргі. Можа, з аўтамата. Можа, з кулямёта. Расстрэльвалі паміж Сапяжынкай і Дняпром. Выкапалі роў. І доўгадоўга стралялі. І крык быў чуцен здаля. Потым людзі, якія туды хадзілі, расказвалі, што доўга дыхала там зямля, жывых шмат пазасыпалі... Страшэнна!

## Як ратаваліся?

У часе вайны немцы то ёсць, то іх няма. То з фронту іх на адпачынак прысылаюць. І кожны раз нас выганялі з хаты. Таму, што ім трэба жыць. А ты — дзе хочаш! Немцы выбіралі хаты лепшыя. І імкнуліся размяшчацца купна. Каб побач быць.

*(Працяг на стар. 15)*

## Душа, аддадзеная тэатру

МІКАЛАЮ МАЦКЕВІЧУ — 60



**17 студзеня споўнілася 60 гадоў мастацкаму кіраўніку Мінскага абласнога драматычнага тэатра Мікалаю Мацкевічу.**

**Нарадзіўся Мікалай Пятровіч у вёсцы Старое Сяло на Зэльвеншчыне. У дзяцінстве марыў стаць кінаакцёрам, быў актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці. Так атрымалася, што свой працоўны шлях пачаў ля станка — працаваў токарам, фрэзероўшчыкам. Але ж душа адоранага юнака прагнула іншага: цягнулася да мастацтва, тэатра. Закончыў Магілёўскае культасветвучылішча, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Пэўны час працаваў у Слуцку, дзе паставіў шэраг спектакляў: "У спісках не значыўся" Б. Васільева, "Старэйшы сын" А. Вампілава, "Апошні тэрмін"**



**В. Распуціна, "Плытагоны" У. Галубка і інш. З 1982 года — у Маладзечне. На сцэне народнага тэатра ўвасобіў з дзесятак п'ес, у тым ліку "Радавыя" А. Дударава і "Вежа" А. Дударава і У. Някляева.**

**Менавіта М. Мацкевічу належыць ідэя стварэння ў Маладзечне прафесійнага калектыву. З дня яго заснавання (9 лютага 1991 г.) — ён мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр тэатра. За гэты час паставіў больш за 15 спектакляў, многія з іх атрымлівалі ўзнагароды на рэспубліканскім фестывалі "Маладзечанская сакавіца", іншых фестывалях. Вельмі плённа супрацоўнічае рэжысёр з драматургам А. Дударавым. Не хто іншы, як М. Мацкевіч першым даў сцэнічнае жыццё такім яго п'есам, як "Адчуранне", "Прынц Мамабук", "Вавілон", "Кім" (прэм'ера апошняга адбылася 17 студзеня 2001 года, у дзень нараджэння рэжысёра), а "Радавыя" былі пастаўлены ў Маладзечне толькі на тры дні пазней за купалаўцаў.**

**З іншых спектакляў М. Мацкевіча варта назваць такія вядомыя пастаноўкі, як "Зямля" Я. Коласа, "Чорная нявеста" Ж. Ануя, "Двое на арэлях" У. Гібсана, якія мелі нямала станоўчых водгукаў сярод тэатралаў.**

**Не забывае М. Мацкевіч і пра маладую беларускую драматургію: дзякуючы яму сцэнічную прапіску атрымалі п'есы "Секс па перапісцы" Л. Вашко і "Аўчары" В. Лапціка.**

**Хочацца пажадаць юбіляру добрага здароўя, моцы духу, каб яшчэ доўга-доўга радаваў гледачоў сваімі новымі спектаклямі.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Прынц Мамабук" А. Дударава.*

**Віктар МІКАЛАЕЎ.**

*Фота А. СПРЫНЧАНА і А. КАСКІНА.*

## У латвійскім выдавецтве



**У латвійскім выдавецтве "ZVAIGZN ABC" выйшлі падручнікі для 2 класа латвійскіх школ "Русское слова" і "Русский язык". Іх аўтарам-складальнікам з'яўляецца прафесар Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта габілітаваны доктар педагогікі Людміла Цімошчанка. Тут побач з творамі класікаў сусветнай літаратуры, у тым ліку рускай і латышскай, змешчаны ў перакладзе на рускую мову вершы і загадкі беларускіх паэтаў Якуба Коласа, Васіля Зуёнка і Станіслава Валодзькі.**

**Н. К.**

ПЕРАКЛАДЫ

# На пераломе стагоддзяў

*Зося Манькоўская (1847—1911) пачынала складаць вершы, калі вучылася ў прыватным пансіёне Клячкоўскай у Вільні. Вершы свае чытала самому Уладзіславу Сыракомлю. На гэта яна пайшла, таму што, даводзячыся пляменніцаю швагру Сыракомлі, часта бывала ў доме паэта ў Барэйкаўшчыне. У маі 1862 года, за чатыры месяцы да скону, Сыракомля прысвяціў сваячцы верш "Да панны Зоф'і Манькоўскай", у якім запавяшчаў ёй быць пасля яго пясняркай "на сіратлівай Літве". Аднак запавет гэты яна спраўдзіла не адразу. Выйшаўшы замуж за Вацлава Тшашчкоўскага, афіцэра-артылерыста расійскага войска, яна доўга не адважвалася выступаць у польскім друку, каб не зашкодзіць мужавай кар'еры. Выйсце падказаў мужчынскі крыптанім Адам М-скі, імя і скарочанае прозвішча бацькі. Ім паэтка падпісвала свае вершы, шмат друкуючыся ў польскай перыёдыцы на пераломе стагоддзяў. Да беларускага слова звярталася, калі спявала з сялянскімі дзяўчатамі ў роднай Дарагавіцы, што недалёка ад Капыля, і калі перакладала з польскай мовы вершы Тэафіля Ленартовіча, Марыі Канапніцкай, Яна Чачота. Гэтымі перакладамі, стылізавана-набліжанымі да меласу беларусаў, яна і ўвайшла ў гісторыю беларускай літаратуры. Яе польскамоўная спадчына, таленавітая псіхалагічна-канфліктным ЗМЕСТам і мастацкай ЗМЯШЧальнасцю вобразаў, застаецца пакуль закрытай для шырокага кола. Прапанаваныя ўвазе чытача варыянты перакладаў з яе паэзіі канца XIX — пачатку XX стагоддзя — гэта запрашэнне адчыніць дзверы ў свет перажыванняў таленавітай дачкі Беларусі.*

**Уладзімір МАРХЕЛЬ**

Адам М-скі
(Зоф'я ТШАШЧКОЎСКАЯ)

### Думкі

I

***Павеяла мне болем бяздонным,***
***Непазбытай тугою***
***Па днях юначых — маем нястомным,***
***Пякучаю парою,***

***Па тваіх вачах, поўных пяшчоты,***
***Па вуснах, шчодрых жарам,***
***Па арліных нашых небаўзлётах,***
***Па мроівах — нектарам.***

***Не мелі свабоды мы з табою,***
***Ярмо гняло без меры,***
***Дзе ж душы, куды сплылі вясною***
***Плыўцы нябеснай сферы?***

II

***Мне нічога так не шкода***
***Гэтым часам хмарным,***
***Як сіл былых, не спажытых,***
***Ды сцёртых намарна.***

***Мне нічога так не шкода,***
***Змогі, слёз юначых,***
***Як не выбухлых вулканам***
***Нашых сэрц гарачых.***

***Не дапітых пацалункаў,***
***Шчасцю хвіль не даных***
***І няспоўненых жаданняў,***
***Сноў недаспяваных.***

***Не шкода зжатых каласоў,***
***Раз яны даспелі,***
***Гнёзд пустых, як птушаняты***
***Ужо з іх паляцелі.***

***Юнака тады не шкода, —***
***Толькі б мук не многа, —***
***Як у бойцы ўпаў ён з крыкам:***
***"Мая перамога!"***

III

***Да цябе, нібы зязюля,***
***Я лячу душою,***
***Да тваіх грудзей хінуся,***
***Будзем мы з табою.***

***Узняcліся мае песні,***
***Што даўно замерлі,***
***Зазвінелі ў тваім вуху,***
***Ды слязы не ўцерлі.***

***Ты з галоўкаю пахілай***
***Сумная такая,***
***Мне твой смутак, нібы камень,***
***Грудзі разбівае.***

***На сябе твой боль узяў бы,***
***На не зменіш долі.***
***Рэчкай быстрай раз'яднаны***
***Дзве стаяць таполі.***

***Іх асобна віхар зломіць***
***Ці пярун згрукоча,***
***Толькі вецер лучыць рэхам***
***Одум іх сірочы.***

### Не знаю

***Мо гэта лёгка, думае каторы,***
***Кідаць дзяцінства любасныя мары?***
***І быць плытом, пакінутым на моры?***
***Глядзець, як падаюць твае штандары?***

***Занадта казкі бабчыны святыя***
***Былі душой дзіцячай ахінуты,***
***Задоўга ішлі са мною казкі тыя,***
***Каб з імі развітацца без пакуты.***

***Хоць ёсць перакананні, досыць сілы,***
***Ці ж раз паддамся ранняму падману?***
***Або, як родных бачу я магілы,***
***Шукаць іх дух у небе перастану?***

***Нібы той грэк, што ажыўляе***
***І геніяў і німфаў гурт вясёлы,***
***Калі са мною мара маладая,***
***Я бачу: вокал духі і анёлы.***

***Над рогам месяца, у срэбным полі***
***Не раз мне блісне постаць дарагая,***
***І па даўнейшай звычцы, мімаволі***
***Мае ўжо вусны шэпчуць: "О Святая!"***

***А колькі ж раз бадзягаю ў самоце,***
***Адчуўшы стому ад жыцця і працы,***
***Хацеў бы ўкленчыць сціхана ў сумоце,***
***Мець да каго ўжо "Ойча наш!" азвацца.***

***Я знаю, шлях у вернікаў прасцейшы,***
***І ім лягчэй даецца падарожжа,***
***Ды раз арлінай думкаю ўзляцеўшы,***
***Сном вусеня заснуць ужо не можаш.***

***Я горды, мне падманвацца не трэба,***
***Хоць роспачаю грудзі апякаю,***
***Сноў немагчымых не пускаю ў неба,***
***Прад тайнаю быцця кажу: не знаю.***

### Адказ

***Пытаешся, чаму такі я смутны,***
***Без долі ў песні, тым сардэчным рэху?***
***Чаму, нібыта нейкі дух пакутны,***
***Я па жыцці іду без следу ўсмеху?***

***Маё дзіцятка, мой анёл ахвочы,***
***Была твая шчэ думка спавівана,***
***Як сонцу ў твар мае глядзелі вочы,***
***А сонца згасла між выцця ўраганаў.***

***Ды хваля бляску тога, што звысоку,***
***Была з таемнай сілаю нязломнай,***
***Калі чыйму яна бліснула воку,***
***Таму ў жыцці заўсёды будзе цёмна.***

***Замалады, выношваў я намеры***
***Ды пазіраў навокал з летуценнем***
***І, як арол у паднябеснай сферы,***
***Лунаў з братамі думкаю, імкненнем.***

***І трэ было з паветранай той горкі***
***Зваліцца на зямлю, у лёх аблогі***
***І ўжо не згледзець болей яснай зоркі,***
***Ідэй вялікіх і ахвярнай змогі.***

***І ўжо агменем больш не пачувацца***
***Спаміж сяброў у братнім духаў коле,***
***Жывым слаўцом ніколі не азвацца***
***І смела галавы не ўзняць ніколі.***

***А я быў малады, узнёсла-мройны,***
***Я з тых, хто гвалтам***
***шыю гнуць не будзе.***
***Не ведаеш, якія вёў я войны,***
***Калі смяяўся, змеі лезлі ў грудзі.***

***Як цяжка, колькі трэба было сілы,***
***Каб сэрца закілзаў я маладое***
***І каб душу, якая мела крылы,***
***Упрог у плуг, нібыта быдла тое.***

***Пайсці я быў бы на пакуты здольны***
***І крою да кроплі выліць без трымцення***
***За пробліск за адзін заранкі вольны,***
***За выкрык за адзіны вызвалення.***

●

***Ці знаеш кнігу Данта, дзе славуты***
***Паэт ідзе ў свет пекла таямнічы?***
***Ты глянь на твар яго,***
***то ж здань пакуты,***
***Хоць і вяла яго там Беатрыча.***

***Ён распавёў, як цяжка на парогі***
***Ступаць чужыя, ну а хлеб бадзячы***
***Гарчэй за ўсё. З майго жыцця дарогі***
***Я зразумеў, што тая скарга значыць.***

***Уток жыцця майго не быў шаўковы,***
***Я знаў хвароб нямоглась і хімеры,***
***Няпэўнасць заўтра, нэндзы шлях суровы,***
***Скон блізкіх, пахаванне добрай веры.***

***Братоў страчаў я на шляху ўпадлення,***
***Што, родных кінуўшы,***
***ішлі ў свет далёкі,***
***Але не мог кідаць у іх каменне,***
***Бо подласць іх — ад голаду уцёкі.***

***Мець стол раскошы не было нагоды,***
***Не піў з уцехі пеннага напою,***
***Жыву, бо песня берагла заўсёды:***
***Яна ёсць Беатрычаю маёю!***

***Усё мінула, знаю — здацца трэба***
***І ўжо без веры ў іншыя засветы***
***Сысці, зямнога не зазнаўшы неба,***
***У змрок магільны ў свеце гэтым.***

***Гляджу я ў цемру смелымі вачыма,***
***Няздольны выжаброўваць даравання,***
***А ў песні чуць гук шчасця немагчыма:***
***Яго зглушыў стогн братняга канання.***

***Мяне, дзіцятка, смутак не кідае,***
***Як ліст трымціць увосень на таполі***
***Пакуль, сарваны віхрам, не спадае,***
***Так сэрца ў заміранні знае болі.***

***Не суджана мне мець па-над магілай***
***Ціш у грудзях, жалобай ахінутай,***
***Бо што жыццё яшчэ мне падарыла? —***
***Бязмежжа па тае тугі пакутнай.***

### Цень

***А я сплыву ў цень... расплывуся ў цень...***
***Мо вясною, пад прамень***
***З салаўіных прамаўлень***
***Песня выпырхне тугою***
***І табе нашэпча мрою:***

***Ах! мінуўся цень...***

***А я сплыву ў цень... расплывуся ў цень...***
***З болю і маіх трымцень,***
***З сэрца выбухне пламень,***
***Як ручай, які ўздыхае,***
***Застанецца песня тая***

***І мой бледны цень...***

***А я сплыву ў цень... расплывуся ў цень...***
***Светлым ранкам ясніць дзень***
***У сонцы залатых ірдзень;***
***Ён не вечны ў тым парадку:***
***У ноч пяройдзе, я ж — у згадку,***

***У бледны, ніклы цень.***

### Песняры

***У землях Адама, ў Людвіка землях,***
***Хоць знікла веліч часу і сіл,***
***Шчэ засталася музыка зелля,***
***Што абдымае горкі магіл.***

***Вецер шуміць там і размаўляе,***
***Хто ж іх з дзяцінства слухае шум —***
***Сэрца сваё навек запаўняе***
***Любасцю моцнай, злагадай дум.***

***Хто ж мы такія? Як жа нам звацца?***
***Што абуваем? З ежы ёсць што?***
***Можа, найлепей будзе прызнацца:***
***Імя паэта — тлум і ніхто!***

***Бо наша песня ёсць лес зялёны,***
***Убогі загон, капліцы звон,***
***Ёсць кропель поту пэўна мільёны,***
***Покуль для хлеба выхадзім плён.***

***Ёсць любнай песні вечная змога***
***Па-над суровай жорсткасцю зім,***
***Ёсць мужнай сурмы покліч-трывога***
***Ці спеў дзявочы па-над усім.***

***Ёсць сялян нашых шэрыя світы —***
***Слава й жалоба для песняроў,***
***Імі іх труны будуць укрыты***
***Пад гук дзядоўскіх лір жабракоў.***

***Калі ж песняроў возьмуць магілы,***
***Як бы цяскі труны не цярпеў,***
***Выйдзе Анёл, разгорне крылы***
***Душа паэта, ўзнятая ў спеў.***

***У зеллі звініць, гайдае галіны,***
***Хвалі ў тонях калыша, траву,***
***Новых святынь кладзе падваліны,***
***Руінам кажа: "Ўзняць галаву".***

***Тысячай звёнаў сэрца абдыме,***
***Вочы запаліць, вынішчыць страх,***
***Шэрагі духаў песенька ўздыме —***
***Хто ж быў паэт? Ніхто ён, прах!***

**Пераклаў**
**Уладзімір МАРХЕЛЬ**

НОВАЕ

# Штогоднік, якому няма цаны

Археаграфія — гэта навука, якая распрацоўвае тэорыю і методыку публікацыі дакументаў. У больш шырокім сэнсе яна займаецца пытаннямі, звязанымі з увядзеннем у навуковы ўжытак пісьмовых крыніц на стадыі іх пошуку і збору, уліку і апісання, а таксама публікацыі. Археаграфія ўзнікла ў Еўропе ў XVI стагоддзі. Што датычыцца нашых зямель, складанне вопісаў і архіваў пачалося ў 1494 годзе. На шляху самастойнага развіцця беларуская археаграфія выйшла ў 1920-я гады, пасля стварэння Інстытута беларускай культуры, а ў 1925 годзе Археаграфічная камісія Інбелкульта на чале з М. Доўнар-Запольскім падрыхтавала "Беларускі архіў". У студзені 1926 г. у Мінску адбыўся першы з'езд даследчыкаў археалогіі і археаграфіі. На вялікі жаль, далейшы ход падзей мала спрыяў ажыццяўленню яго рашэнняў.

З тых часоў прайшло амаль тры чвэрці стагоддзя. 27 студзеня 2000 г. калегія Дзяржкамархіва Рэспублікі Беларусь зацвердзіла "Палажэнне аб Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь", паводле якога яна з'яўляецца ведамасным каардынацыйным, навукова-метадычным і публікатарскім цэнтрам. Старшынёй быў прызначаны прафесар Р. Платонаў, а яго намеснікамі — навукоўцы У. Крук, М. Шумейка і Я. Янушкевіч. Адначасова калегія Дзяржкамархіва прыняла рашэнне аб выданні з 2000 года "Беларускага археаграфічнага штогодніка".

І вось ён перад намі — першы выпуск яго, які выйшаў у свет у лістападзе мінулага года і складаецца з артыкулаў па археаграфіі, архівазнаўстве і архіўнай справе, крыніцазнаўстве і спецыяльных гістарычных навуках, тэксталогіі і гісторыі дзяржаўных устаноў.

У раздзеле "Археаграфія", акрамя вельмі каштоўнага матэрыялу Міхася Шумейкі "Станаўленне і развіццё беларускай археаграфіі ў 1-й палове XIX ст.", усіх, каго хвалюе гісторыя беларускай культуры, безумоўна, зацікавіць артыкул дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі "Да гісторыі калекцыі аўтографаў з бібліятэкі і музея старажытнасцей А. К. Ельскага ў Замосці".

Грунтоўны аналіз становішча архіваў і архіўнай справы ў краіне на сучасным этапе дадзены ў матэрыяле старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь Аляксандра Міхальчанкі "Архівы Беларусі на мяжы XX—XXI стагоддзяў: накірункі развіцця".

Увагу чытачоў "ЛіМа", на мой погляд, прыцягне, перш за ўсё, вельмі змястоўны матэрыял вядомага літаратуразнаўцы Міхася Мушынскага "Першы Поўны збор твораў Янкі Купалы: канцэпцыя выдання і яе практычнае ўвасабленне". У ім ёсць такія радкі: "...новае выданне спадчыны Янкі Купалы ў 9 тамах з'яўляецца (паводле тыпу) крытычным, навукова каментаваным і (паводле віду) поўным, паколькі ўключае ўсю мастацкую публіцыстычную і эпісталярную спадчыну паэта, вядомую на сённяшні дзень.

...Мы ставілі за мэту праз паўнату падачы матэрыялу наблізіць чытача да глыбейшага ўспрымання Купалы як мастака, паэта-наватара, адраджэнца, духоўнага бацькі нацыі, аднаго з заснавальнікаў айчыннай драматургіі, выдатнага перакладчыка, палымянага публіцыста-мысляра, буйнога грамадскага, культурнага дзеяча. І зразумела, як чалавека, як непаўторную асобу. Нам патрэбен не адрэдагаваны, не выпраўлены, не палепшаны, а рэальны, праўдзівы, аўтэнтычны Купала, менавіта такі, які ён быў у жыцці. Паўната спадчыны — літаратурнай, публіцыстычнай, эпісталярнай — заклікана паказаць сапраўднае месца паэта ў нацыянальным адраджэнні, у духоўным жыцці грамадства, народа".

Галоўны навуковы супрацоўнік аддзела старажытнасцей і новай літаратуры Інстытута літаратуры НАНБ Генадзь Кісялёў прапанаваў роздум з вопыту сваёй працы над матэрыяламі беларускіх архіваў — "Над старымі радкамі". Ён прызнаецца: "Мне шмат давялося займацца ўзнаўленнем біяграфій беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры і вызваленчага руху. Цікавая, захапляючая, трэба сказаць, праца, нечым блізкая да цуду ўваскрашэння.

Прынцыпова важныя зыходныя біяграфічныя звесткі даюць даследчыку метрыкацыйныя дакументы, якія захоўваюцца ў фондах праваслаўных і каталіцкіх кансісторый. Сваёй юрыдычнай дакладнасцю і аўтарытэтнасцю гэтыя матэрыялы нярэдка кладуць канец многім спрэчкам і сумненням адносна дат жыцця таго ці іншага дзеяча".

У апошні час у рэспубліцы і за яе межамі выйшла шмат кніг і артыкулаў, у якіх даследуецца праблема беларусізацыі ў 20-я гады XX стагоддзя. У некаторых чытачоў нават паўстае пытанне: "Колькі ўжо можна пісаць пра гэта?". Але Расціслаў Платонаў здолеў сказаць новае па вызначэнні беларусізацыі як партыйна-дзяржаўнай палітыкі, па распрацоўцы канцэпцыі беларусізацыі, па этапах і прыкметах згортвання беларусізацыі. Гэтаму прысвечаны яго грунтоўны артыкул "Беларусізацыя 1920-х гадоў: асабліваці і праблемы ажыццяўлення".

У кастрычніку 2000 года аўтару гэтых радкоў давялося быць сведкам вострай дыскусіі аб сэнсе і накіраванасці беларусізацыі 1920-х гадоў, якая адбылася ў час міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Польшчы, у горадзе Беластоку. У сувязі з гэтым нельга не згадзіцца з высновамі Р. Платонава. На яго думку, беларусізацыя выступала адначасова і як партыйная, і як дакладна акрэсленая дзяржаўная палітыка. Калі меркаваць па дакументах ЦК КП(б)Б, а таксама па дзяржаўных актах БССР 1920-х гадоў, то беларусізацыю трэба разглядаць як важнае праяўленне накіраванасці нацыянальнай палітыкі на гаспадарча-эканамічнае, нацыянальна-дзяржаўнае і асабліва духоўна-культурнае адраджэнне беларускага народа.

"Галоўліт БССР (1923—1991)" — артыкул Уладзіслава Ракашэвіча. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што перад намі адзін з самых каштоўных і цікавых матэрыялаў штогодніка. Мы даведваемся, што ў сакавіку 1928 года на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б падвергліся крытыцы дзейнасць Галоўліта БССР за дазвол публікацыі цыкла вершаў Я. Пушчы "Лісты да сабакі". У тым жа годзе пад забарону трапілі артыкул Я. Лёсіка "Асноўныя матывы ў творчасці М. Багдановіча" за яго "нацыяналістычны змест", вершы К. Крапівы "Канцэрт" і "Бараны", "як сатыра на палітыку партыі ў галіне друку", вершы Я. Купалы "Чужым" "за іх шавіністычны і антысавецкі змест". У шавінізме абвінавачваўся верш Я. Коласа "Ваяцкі марш".

Нарыс загадчыка аддзела Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Сяргея Рыбчонка "Гэтага просяць яўрэі, якія жадаюць справядлівасці" знаёміць чытачоў з ходам і вынікамі перапісу яўрэяў мужчынскага полу, які быў здзейснены ў Расійскай імперыі ў 1874 годзе.

Заслугоўваюць увагі агляд архіўных фондаў, шэраг дакументаў па пытаннях палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай гісторыі Беларусі, а таксама змешчаныя ў кнізе бібліяграфія, рэцэнзіі і хроніка.

Сярод аўтараў штогодніка — кіраўнікі архіўнай справы і шэрагу архіваў нашай рэспублікі Уладзімір Адамушка, Ала Галубовіч, Вячаслаў Селяменеў, вядучы палеограф НГАБ Алесь Груша і архівіст Кацярына Вераб'ёва, дырэктар і адказныя супрацоўнікі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы Уладзімір Фядосаў, Генадзь Гарбачоў, Сяргея Жумар, Юрый Несцяровіч, Анатоль Валахановіч, навукоўцы Яўген Анішчанка,Сяргей Новікаў, Уладзімір Свяжынскі, Віталь Скалабан, Міхаіл Спірыдонаў, грамадскі дзеяч Аркадзь Тоўсцік, галоўны рэдактар "Чырвонай змены" Алесь Карлюкевіч.

Важна, што ў склад рэдкалегіі "Беларускага археаграфічнага штогодніка" ўваходзяць прадстаўнікі не толькі Беларусі, але і Расіі (М. Ларын), і Украіны (У. Ляхоцкі). Гэта дае магчымасць у будучым знаёміць беларускіх даследчыкаў і чытачоў са здабыткамі расійскай і ўкраінскай археаграфіі.

Хочацца спадзявацца, што ў наступных выданнях штогодніка з'явяцца змястоўныя артыкулы аб людзях, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё беларускай археаграфіі, — М. Доўнар-Запольскім, У. Пічэце, Д. Даўгялу, М. Улашчыку і інш. Было б вельмі карысна ўвесці рубрыку "Археаграфія Беларусі за мяжой (у розных краінах свету)".

**Эмануіл ІОФЕ,**
**доктар гістарычных навук**

# Клімчыкі. Мокрае. Вайна

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

Тады, як немцы выгналі нас з ужо новай хаты, вымушаны мы былі пайсці да бацькавага брата Фёдара Кірылавіча. У яго сыны Іван і Міша, дачка Клава. Тут жа выгнаны са сваёй хаты Антон Кірылавіч разам з жонкай Соняй, дзецьмі Фёдарам, Тамарай і Толем. Дзве вялікія сям'і... І наша — трэцяя. Таксама спалі ўпокат.

Шмат розных здарэнняў было. Памятаю, вечарам грукае нехта ў дзверы. Антон Кірылавіч і Фёдар Кірылавіч кажуць: "Трэба адчыніць!" Адчынілі. Уваходзіць п'яны-п'яны немец. З вінтоўкай. Сеў. Паўночы ён нешта крычаў, гразіўся. Хапаўся за сваю вінтоўку. І ўсё — "Та-та-та!" — нібыта страляе. Бацькавы браты маўчалі. А што тут скажаш, калі ў яго ў руках зброя? Стрэліць — і ўсё! Ці то хадзіла група немцаў, яны пастукалі і яго забралі, ці то ён сам адлучыўся... Хапала ўсяго.

Вядома, галадалі. Вельмі хацелася есці. Каму з аднавяскоўцаў удавалася сэканоміць, той трохі масла збіваў або меў кавалачак здору. Ці сала... Гэта было, вядома, вельмі смачна. А так — часцей нішчымніца.

На полі ў нас свой кавалак зямлі быў. Малолі зерне ў млыне. Былі і ручныя жорны. Была ступка. Таўкачом таўклі ячмень.

Самая звычайная натуральная гаспадарка. Пограба добрага не было. Дык бульбу на зіму закопвалі ў бурты. Ці інакш — у капцы. Каля хаты ўтоптвалі крыху зямлю, ссыпалі сухую бульбу, абкладвалі яе саломай. А наверх — зямлю. Праз зямлю і праз салому бульба дыхала. І так усю зіму яе захоўвалі, а вясной адкрывалі.

Памятаю, калі мы жылі ў сваякоў — то ў адных, то ў другіх, дык аднойчы маці пайшла праведаць сваю хату, якую немцы занялі. І прынесла адтуль цэлую каструльку крупніку. Густога, з варанай морквы. Гэта было так смачна! Відаць, булён быў мясны, якога мы даўно не елі. У дадатак запраўлены, з немецкімі спецыямі, духмяны. Стала не было. Маці паставіла табурэт пасярод хаты, бліжэй да таго ложка, на якім мы спалі. І мы, дзеці, — Валечка, Толік, я, сама мама — у чатыры лыжкі ўсё і з'елі. Па кавалку хлеба — і ўсю каструлю адразу!

## Іван — у лагеры

У гэты час немцы ўжо хапалі моладзь і вывозілі ў Германію. Мама, каб ўратаваць мяне, не пакідала дома, а накіроўвала да свайго дзядзькі, Івана Раманавіча. У чыстай палове хаты Івана Раманавіча стаяў нейкі немецкі чын. А гаспадар начаваў у другой палове. Ягоную дачку немцы прымусілі паперы ў сваёй канцылярыі перапісваць. Потым, як вярнулася Савецкая ўлада, у сям'і былі цяжкасці з гэтай прычыны. Але перапісваючы паперы, яна што, з немцамі супрацоўнічала? Смешна!

Івана, майго старэйшага брата, немцы забралі ў канцлагер. Забралі яго так. Зіма. З 42-га на 43-ці год. Стукаюць у дзверы. Заходзіць немец. "Айн, цвай, драй..." — пералічыў маму, Івана і мяне. Маўляў, тры чалавекі павінны ісці на работу. Каля кожнай хаты паставілі вартавога.

А ў нашай хаце тады стаялі абознікі — уласаўцы, якія служылі ў абозе. Яны жылі ў чысцейшай палавіне А мы ўжо тут — хто на печы, хто на палку... Тады мама кажа аднаму з абознікаў: "Кірыла, схавайце аднаго!" Гэта значыць, мяне. Каб немцы не забралі. Мама штурханула мяне да абознікаў. Яны спалі на сене. Мяне схавалі пад сена, а Толіка, малодшага брата, паставілі на табурэтачку — слончык называўся. Як бы замест мяне. Як ужо зусім развіднела, уваходзіць немец. "Драй ман! Драй ман!" Значыць, тры чалавекі. Бабуля апранулася як айн ман, Іван вымушаны ісці — нікуды не дзенешся. А трэці — малы... Маўляў, вы памыліліся!

Забралі бабулю і Івана. Пастроілі аднавяскоўцаў на вуліцы. Бачаць, што бабуля старая. "Альтэр фраў — нах хаўз!" Ідзі дадому! Іван адзін з нас трох і пайшоў.

Далёка яго, за Днепр загналі. І ён там, у лагеры, быў усю зіму. У лагеры яны вельмі моцна галадалі. Прасілі немцаў-ахоўнікаў, каб тыя насвпалялі ім варон. Ашпарвалі варон і гатавалі страву. Што ў лагеры рабілі? Акопы капалі, бліндажы рабілі. Немцы ўжо адчувалі, што фронт адступае, што трэба ўмацоўвацца ўздоўж Дняпра.

Памятаю такі выпадак. Пошта, вядома, не працавала. Праз некага Іван перадаў ліст. Я чытаю яго маме. У нас у сям'і ўсе хлопцы былі, як кажуць, з мастацкім ухілам. У Іванавым лісце прыпеўка:

***Мы из лагеря удрали,***
***Но поймали нас опять.***
***Три дня супу не давали***
***И хотели расстрелять.***

Маці, Марфа Іванаўна, — у слёзы. Я кажу: "Мама, гэта ж прыпеўка, частушка..." Маці: "Якая табе, дурань, частушка! Калі напісаў, значыць, праўда! Іван у пісьме не стане маніць". Колькі я ні тлумачыў, мама не верыла. Я ўжо пачаў смяяцца. Дык яна добра мяне лупцавала. Гэта можна даследаванне пісаць на тэму, як народ успрымае напісанае слова. Літаратура ўспрымае. Як працяг рэчаіснасці.

Іван быў у лагеры доўга. У суботу ён прыязджаў. Адпрошваўся, каб у лазню схадзіць. Адпускалі пад залог, каб гарантыя была, што вернешся. Ён паехаў і пайшоў да дзядзькі Мішы, мамінага стрыечнага брата. А ў дзядзькі Мішы, у чыстай палове хаты, стаяў зноў жа нейкі важны чын. Чын гэты жыў не тут. А тут у яго былі дзве перакладчыцы — Зоя і Тоня. Потым высветлілася, што Зоя з'яўлялася савецкай разведчыцай. А Тоня з Быхава ёй дапамагала. Гэтая Зоя, калі Іван прыйшоў да дзядзькі, сказала: "Іван, не едзь назад! Я табе памагу!"

Дзядзька ўзняў з падлогі некалькі масніц. Туды ўпхнулі Івана, паслалі яму нейкі армяк і зачынілі. І ў гэты час туды зазірнуў нямецкі афіцэр, які за Зояй ухажваў. А ў нашу хату прыйшоў той немец, які павінен забіраць Івана. Мы кажам: "Маўляў, ён пайшоў да свайго дзядзькі, вунь у тую хату". Што яму, салдату, сказаў той афіцэр, не ведаю. Можа, сказаў, што прапаў. Можа, што іншае. Але Іван ўратаваўся. Колькі ён знаходзіўся ў падполе, я не памятаю...

Наш Іван і ў партызаны схадзіў, дакладней, не адзін, а разам з дзядзькам Мішам. Хадзілі-хадзілі, шукалі-шукалі, не знайшлі. Трэба было, відаць, звязвацца з некім. Ноч хадзілі, пераначавалі недзе. Вярнуліся. І пасля гэтага Іван вымушаны быў на чыгунку пайсці. Бо калі ты працуеш на чыгунцы, тады немцы не забяруць.

У Кузьмы Чорнага ёсць апавяданне, як маці будзіць падлетка, каб той гнаў каровы на пашу. Усё супадае — абсалютна! Падымацца трэба рана. Маці: "Іванечка, сыночак, уставай!" — "А я яшчэ хвіліначку пасплю!" — і не можа падняцца.

Чыгунка працавала вельмі напружана. Яна вельмі дапамагала немцам перакідваць войскі на фронт. Ахоўвалася страшэнна! І людзей на работу туды і гналі, і гналі.. Увесь час на дрызіне ездзілі немцы. Немцаў было шмат, і партызаны баяліся сюды лезці. Бо не падступішся. Калі ты чыгунку ўзарвеш побач з вёскай, дык вёску тут жа спаляць!

## Кнігі

У перадваенны час людзі моцна цягнуліся да кніг. Калі чалавек быў пісьменны, ён ганарыўся гэтым! У Макранскай школе была бібліятэка. Існавала яшчэ вясковая бібліятэка, якая размяшчалася ў былой царкве. Перад самай вайной я хадзіў у гэтую бібліятэку і браў там кнігу "Гітлер — вождь германского народа". Вельмі добра памятаю — аж да гэтага часу — тую кніжку.

Да вайны бацька шмат кніг прывозіў. Ён сам вельмі любіў чытаць, асабліва гістарычныя раманы. Часта чытаў стоячы, абапёршыся локцямі на стол. Паглыбіўся ў чытанне.

Маці:
— Восіп! Ідзі дапамажы!
Бацька:
— Зараз, зараз! Дачытаю толькі...

Доўга маці чакала, пакуль ён дачытае... Прывозіў бацька казкі Пушкіна, "Казкі дзядзечкі Рымуса".

Яшчэ да вайны, калі вучыўся ў трэцім класе, прачытаў "Ціхі Дон". Трохі пазней "Ганну Карэніну". У часе вайны любімым заняткам было чытанне кніг. Чытаў усё, што толькі можна. Кнігі браў пераважна ў суседзяў. Якія толькі можна, — Джэка Лондана, Майна Рыда, раманы Жуля Верна (у тым ліку "Дзеці капітана Гранта"), "Востраў скарбаў" Стывенсана. Прычым, кніжкі былі пераважна на беларускай мове... Класіка амаль уся была перакладзена ў 20-я гады, калі ішла хваля беларусізацыі. У часе вайны прачытаў многія творы Янкі Маўра, "Падарожжа Гулівера" Свіфта, творы Валянціна Катаева, апавяданні Чэхава. Памятаю кнігу пра кітайцаў, якія вынайшлі фарфор. Былі шпіёнскія раманы — у тым ліку пра Мата Хары. Памятаю, ляжаў на палацях і чытаў "Вайну і мір". Прачытаныя кнігі я запісваў. Спіс быў велізарны! Вядома, згубіўся потым...

Калі наша хата згарэла і мы жылі ў сваякоў, у сям'і бабы Паўліны, дык у яе зяця, Віктара, настаўніка, таксама было шмат кніг. У тым ліку раманы Дзюма "Тры мушкецёры" і працяг іх.

Запомнілася "Зямля Саннікава". Узяў я гэтую кніжку ў цёткі Мані. А яна ў той час тыфам захварэла. І такі цяжкі тыф быў! Прыняс кніжку дадому. Мама вельмі баялася, каб мы такім чынам усе не захварэлі, не заразіліся. Дык яна спіртам ці нечым іншым абпырскала яе, думаючы, што так можна засцерагчыся... Уражанне ад гэтай кнігі было казачнае, фантастычнае! Калі потым пагледзеў фільм — вельмі прыземлены, спрошчаны, — ледзь не плакаў ад расчаравання. Я і да гэтага часу баюся чытаць "Зямлю Саннікава" — каб не расчаравацца, каб засталося тое даўняе, яшчэ ваеннае ўражанне.

За вайну, здаецца, мільён кніжак прачытаў. Маці, вядома, па-рознаму ставілася да таго, што я ўсё чытаў і чытаў. Калі трэба было дапамагаць па гаспадарцы, дык, бывала,і ганяла. Казала: "Грамаць не дасць гамаць!" Далейшае жыццё паказала, што тут яна крыху памылялася...

Тры класы я скончыў перад вайной. Тры гады мы не вучыліся. З пятага па сёмы я хадзіў у школу ў Мокрым. А потым адзін з настаўнікаў параіў мне: "Здайце вы экзамены за восьмы клас экстэрнам". У Быхаве я здаў экзамены за восьмы клас — самастойна падрыхтаваўся за лета. І пайшоў у дзявяты ў Быхаве, бо сям'я ўжо сюды перабралася.

Скончыў школу з медалём. Праўда, не залатым, а срэбным. Мой дзядзька Жэня пачуў пра тое і кажа: "Табе — срэбны медаль?! Вазьмуцільна!" Ён лічыў, што я, ягоны сваяк, абавязкова павінен атрымаць залаты медаль.

У 1950 годзе я прыехаў у Мінск паступаць на філалагічны факультэт БДУ. Пачыналася новае жыццё...

**Запісала Таццяна МУШЫНСКАЯ**

Юрась СВІРКА

# Наскае і парнаскае

## *Не ў тым памылка...*

***Рыфмач перачытаў сваю падборку***
***І — уздыхнуў пакрыўджана і горка:***
***"Вычытваў карэктуру,***
***Аж сляпіўся.***
***А за памылку, бач,***
***Не зачапіўся".***

***Яму паспачуваў паэт мудрэйшы,***
***Такі, як Галубовіч ці Камейша:***
***"Памылкі граматычныя бываюць.***
***Ды ў выбраным усе павыпраўляюць.***
***І пастрайнее твой радок-калека.***

***Памылка непапраўная, "калега",***
***Што нехта цісне ў друк***
***твае падборкі.***
***Ад іх не толькі ты***
***уздыхаеш горка..."***

## *З нізкі "Інкогніта"*

***Калі ўзнаўляецца даўнейшае,***
***Ён кандыдат, якіх няшмат.***
***Калі ж сам блытаецца ў вершах,***
***Тады ўжо ён — не кандыдат.***

***Не назавеш яго паэтам:***
***Не той парыў, не той узлёт.***
***І выдаюць яго куплеты:***
***Акадэмічны вершаплёт.***

## *Як з аблогі...*

...Узялі мяне ў палон
Эскулапы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Кажуць: "Дзядзька,
нам павер, —
Трэба легчы!"
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ды спрачацца з вамі? —
Пас, —
Не бяруся.
Паляжаў бы і ў запас,
Каб з Марусяй...

**Анатоль МАЙСЕЕНКА**

***Гэта ява, а не сон.***
***Аблажылі.***
***Дактары мяне ў палон***
***Захапілі.***

***Лёгка ім паспачуваць,***
***Як загадам:***
***"Трэба, дзядзька, паляжаць***
***Пад наглядам".***

***Няўжо выхаду няма?***
***Я тамлюся.***
***Мне бальніца, як турма, —***
***Без Марусі.***

***А падумаўшы, і крыць***
***Мне ўжо нечым:***
***У лякарні дактары***
***Не палечаць.***

***Ды без мілай мне не жыць,***
***Эскулапы.***
***Ну, а што, калі збяжыць***
***Да Патапа?***

***"Клятва вернасці?" Я — пас:***
***Страшнавата!***
***І вы крыўдзілі не раз***
***Гіпакрата.***

***Мне ў аблозе не да сну.***
***Не лячуся.***
***Да Марусі драпану***
***І — прарвуся!***

## *Іранічнае сненне*

***— Хто там? — спытаў***
***паэт спрасонку. —***
***Чаго так позна ходзіш ты?***
***Няўжо не бачыш:***
***дома жонка.***
***Не абярэшся з ёй бяды.***

***Знікай адсюль, пакуль без гуза.***
***Забудзь былое пачуццё.***
***— Ды гэта ж я,***
***багіня Муза,***
***Тваё натхненне і жыццё.***

***— Душу вярэдзіць мне не варта,***
***Яна і так даўно дрыжыць.***
***Я абяцаў у вершах жартам,***
***Што без цябе мне***
***не пражыць.***

***Скарбонку творчую напоўню,***
***Шліфую я свае радкі...***
***Прабач, імя тваё не помню.***
***Быў малады —***
***былі грашкі.***

***Ты не прыкідвайся багіняй:***
***Ідзі туды,***
***адкуль прыйшла.***
***Мне са сваёю палавінай***
***Хапае шчасця і святла.***

***Паразумнеў і я з гадамі***
***(І выключэння не раблю):***
***Тых, хто ка мне***
***прыходзяць самі,***
***Я не любіў і не люблю...***

***— Багіню так не выпраўляюць.***
***Што ж, спі,***
***хоць ясніцца зара,***
***Цябе ж — натхнення пазбаўляю***
***І рыпу вечнага пяра...***
***Услед ёй творца буркнуў штосьці***
***І праваліўся ў мяккі сон.***
***І сніў, што не спыніў***
***ён Госцю,***
***Хоць бег за ёю наўздагон.***

## *Раней і цяпер*

**Пра грошы айчынныя звярына-дэмінацыйныя і цэны даспелыя ды пазвярэлыя**

***З грошай звяры пазбягалі далёка.***
***І цэны за імі — з падскокам,***
***з падскокам.***

***Раней мы грошы клалі ў кашалёк,***
***А ўсю правізію — ў мяшок.***
***Цяпер жа грошы — у мяшку,***
***А правіянт — у кашальку.***

***Паэт, тваё прароцтва ажыло:***
***"Няма таго,***
***што раньш было".***

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**РАМПА**

**Тэатр балета**

*19 студзеня*— "Карсар"

*21 студзеня*— "Доктар Айбаліт"

*24 студзеня*— "Карміна Бурана" і "Кармэн-сюіта"

*26 студзеня* — "Стварэнне свету"

*28 студзеня*— "Чыпаліна"

**Тэатр оперы**

*20 студзеня* — "Барыс Гадуноў"

*23 студзеня*— "Іяланта"

*25 студзеня*— "Кармэн"

*27 студзеня* — "Лючыя дэ Ламермур"

*28 студзеня*— "Набука"

*30 студзеня* — "Яўген Анегін"

**Купалаўскі тэатр**

*19 студзеня* — "Вечны Фама"

*20 студзеня*— "Парфен і Аляксандра"

*21 студзеня*— "Паўлінка"

*24 і 25 студзеня*— "Тутэйшыя"

*26 студзеня* — "Страсці па Аўдзею"

*27 студзеня*— "Піраміда Хеопса"

*28 студзеня*— "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча"

*29 і 31 студзеня* — "Ідылія".

**Малая сцэна Купалаўскага**

*18 і 20 студзеня* — "Трыстан і Ізольда"

*27 студзеня* — "Каварства і каханне"

*29 студзеня*— "Восеньская саната"

**Тэатр імя Горкага**

*19 студзеня*— "Дземетрыус"

*20, 21 і 23 студзеня* — "Тэрмінова патрабуецца "самазабойца"

*24 студзеня* — "Ад'ютант-Ша Ягамосці"

*25 студзеня*— "Вольны шлюб"

*27 і 28 студзеня* — "Гамлет"

*30 студзеня* — "У прыцемках"

*31 студзеня* — "Тата, тата, бедны тата!.."

**Прадзюсерскі цэнтр "Альфа-радыё"**

*19, 24 і 25 студзеня* — "Дотык"

*20, 26 і 27 студзеня* — "Стрыптыз"

*21 і 28 студзеня* — "Чаравікі на тоўстай падэшве"

**Тэатр беларускай драматургіі**

*19 студзеня* — "Рычард"

*20, 21 і 23 студзеня* — "Чорны квадрат"

*25 і 26 студзеня* — "Макбет"

*28, 30 і 31 студзеня* — "Містэр Розыгрыш"

**"Віртуозы сцэны"**

*19 студзеня* — "Жорж Дандэн, або Падмануты муж"

*20 студзеня* — "Старасвецкае каханне"

*23 студзеня* — "Жудасныя бацькі"

*30 студзеня* — "Французская таямніца амерыканскага палкоўніка"

**Малы тэатр**

*23 і 30 студзеня* —"Камедыя"

*23 студзеня* — "ART"

*24 і 25 студзеня* — "...я жыць хачу..." ("Гульня ў джын")

**"Хрыстафор"**

*19, 28 студзеня*— "Выбранае"

*20 студзеня* — "Дзень танкіста"

*21 студзеня* — "Жэнефіс"

**Тэатр юнага гледача**

*19 студзеня* — "Палачанка"

*20, 31 студзеня* — "Маленькі лорд Фаўнтлерой"

*21 студзеня* — "Коткін дом"

*23 студзеня* — "Сястра мая, Русалачка"

*24, 28 студзеня* — "Кот у ботах"

*25 студзеня* — "2222"

*27 студзеня* — "Ніхто не паверыць"

*30 студзеня* — "Стваральніца цуду"

**ВЫСТАВЫ**

**Музей сучаснай скульптуры імя Бембеля**

запрашае на выставу мастацкага шкла Таццяны і Пятра Арцёмавых "Навагодні брудэршафт".

**ГАЛЕРЭЯ "МАСТАЦТВА"**

*26 студзеня* адчыніцца персанальная выстава Уладзіміра Зінкевіча, прымеркаваная яго 50-годдзю;

**ПАЛАЦ МАСТАЦТВАЎ**

Да *22 студзеня* доўжыцца выстава "Беларусь — трэцяму тысячагоддзю".

**ГАЛЕРЭЯ "LASANDR"**

З 19 студзеня адкрываецца выстава графічных работ і жывапісу Уладзіміра Стэльмашонка.



***Снежкі — злева, снежкі — справа,***
***Б'юць па шапцы і ў каршэнь,***
***Нібы я для іх забава,***
***Нібы я для іх мішэнь...***

*Фота Я. КОКТЫША*

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

## *Шматборца*

Адвеславаў, адбегаў, аддурэў
У дні сваёй шалёнай маладосці.
І сённека ўжо восень на двары,
Як быццам бы заслужанае штосьці.

**Алесь ЖЫГУНОЎ**

***Я аддурэў, адбегаў... Што яшчэ?***
***Адплаваў, адкруціў педалі.***
***Па твары пот аж ручаём цячэ,***
***Дый ногі меней гнуцца сталі.***

***А быў шматборца ого-го які,***
***Хоць званняў, медалёў не маю...***
***Што ёсць то ёсць: цярновыя вянкі,***
***І восень... Праўда, залатая!***

## *Вершатроп*

Спавядацца ў пакутах не кіну.
Час ляціць, нібы конь, наўзгалоп.
І кудой не спускайся ў даліну —
Чарнабыл, чарналес, чарнатроп.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

***Спавядацца, вініцца не кіну,***
***Ды паэт я, аднак, не халоп.***
***Не тудой, у даліну — нізіну,***
***А сюдой, на Парнас, на вяршыню***
***На Пегасе памчу наўзгалоп —***
***Пракладу туды свой ВЕРШАТРОП!***

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Змагаюся смехам. Што ён можа? Калі не ўзрушыць, дык устрывожыць.

●

Была такая ідэя: пабудаваць у Мінску нешта накшталт маўзалея. "Няможна, — сказалі архітэктары, — для маўзалея патрэбны нябожчык", — "Нам не на гэта"... Невядома, якія абставіны выратавалі фасады сталічных універсітэтаў, але "маўзалей", сапраўды, прызначаўся "не на гэта": не было трыбуны, дзе "прымаць" дэманстрацыі... Туман акрапляе траву, Мінск пераймаў Маскву.

●

Не ўсё яшчэ патрачана, не ўсё яшчэ правалена, шчэ многае тлумачыцца і робіцца "па Сталіну". Маленькія начальнікі з далёкіх гарнізонаў шлюць "бацьку свайму роднаму" нябачныя паклоны.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 18.1.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 390

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12